ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ТРАВЕНЬ

№ 5 (7)

1931

СОЦСПАБОРНІЦТВА І ЎДАРНІЦТВА АДЗІНЫ ПРАВІЛЬНЫ ШЛЯХ УДЗЕЛУ КРАЯЗНАЎЧЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ У СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.

НІВОДНАГА РАЁННАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ЎНЕ СОЦСПАБОРНІЦТВА І ЎДАРНІЦТВА.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

май

№ 5 (7)

МЕНСК — 1931

# ДА МЕСЯЧНІКА ДРУКУ.

## 20-га мая пачынаецца Ўсебеларускі месячнік друку

*Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 3 мая 1931 г.*

1. Сакратарыят ЦК КП(б)Б пастанаўляе перанесьці сьвяткаваньне па БССР дня друку на 20-га мая, абвясьціўшы з 20-га мая па 20 чэрвеня ўсебеларускі месячнік друку. *Месячніку надаць характар адказнай палітычнай кампаніі, зрабіўшы яго сустаўной часткай падрыхтоўкі да Ўсебеларускага зьезду рабселькораў.* Месячнік друку правесьці пад знакам яшчэ большага павышэньня ролі партыйна-савецкага друку ў разгорнутым социялістычным наступленьні, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, у барацьбе за ленінскую нацыянальную палітыку, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму — найбольш небясьпечнага на даным этапе, ні на хвіліну не аслабляючы самай непрымірымай і жорсткай барацьбы з шовінізмамі ўсіх іншых колераў, яшчэ большага павышэньня ролі друку ў барацьбе за генэральную лінію партыі, супроць правага ўхілу — галоўнай небясьпекі данага пэрыоду, „левых“ загібаў і прымірэнцтва да ўхілаў.

Месячнік друку павінен зьявіцца генэральнай опэрацыйнай праверкай таго, наколькі пасьпяхова ўвесь друк змагаецца за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, за гаспадарчы разрахунак, адзінаначальле, аўладаньняй тэхнікай сваёй справы, за ўшчыльненьне тэрмінаў сяўбы, пераход колгасаў на зьдельшчыну, падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі, за ўздым новай магутнай хвалі колгаснага прыліву.

Месячнік друку павінен прайсьці пад знакам яшчэ больш настойлівай і шырока разгорнутай барацьбы ўсяго пролетарскага друку за пералварэньне социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў штодзенныя мэтоды ўсёй работы па социялістычным будаўніцтве, за разгортваньне пролетарскай самакрытыкі і забесьпячэньне яе дзейнасьці. Месячнік друку павінен узмацніць работу газэт па інтэрнацыянальным выхаваньні, у прыватнасьці сыстэматычнае асьвятленьне на старонках друку БССР героічнага рэволюцыйнага змагацьня компартый і рабочых капіталістычных краін (у асаблівасьці Заходняй Беларусі і Польшчы).

Усю работу па месячніку друку трэба органічна злучыць з узмацненьнем партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам і рабселькораўскім рухам і барацьбы за практычнае ажыцьцяўленьне пастаноў ЦК УсеКП(б) аб перабудове рабселькораўскага руху і аб сельскім, раённым і нізавым друку, у прыватнасьці аб пералварэньні ўдарных брыгад друку ў вядучае зьвяно рабселькораўскага руху.

2. У дзень 5-га мая цэнтральны і раённы друк БССР зьмяшчае матар'ялы, прысьвечаныя гадавіне „Праўды“, а 20-га мая выпускаюцца спэцыяльныя нумары газэт, прысьвечаныя месячніку друку.

3. Абавязаць цэнтральны гарадзкі і раённы друк, а таксама друкаваныя шматтыражкі забясьпечыць шырокае і сыстэматычнае асьвятленьне як падрыхтоўкі, так і правядзеньня як месячніка друку, так і ўсебеларускага зьезду рабселькораў.

4. Культпропу ЦК КП(б)Б разаслаць на месцы дырэктыўны ліст аб правядзеньні месячніка друку.

5. Пастанову апублікаваць у друку.

# Ліст гаркомам і райкомам КП(б)Б, рэдакцыям цэнтральных, гарадзкіх і раённых газэт

З 20-га мая па 20-га чэрвеня па БССР праводзіцца месячнік пролетарскага друку. Асноўныя палітычныя ўстаноўкі месячніка даны ў пастанове Сакратарыяту ЦК КП(б)Б, якая надрукавана ў газэце „Зьвязда“ ад 6 мая.

Для практычнага ажыцьцяўленьня пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б) неабходна:

а) На адкрытых сходах партыйных ячэек заслухаць: 1) даклад аб пастановах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове рабселькораўскага руху, аб сельскім, раённым і нізавым друку і аб месячніку друку. Асноўны ўпор ў гэтых дакладах неабходна зрабіць на пытаньні перабудовы рабселькораўскага руху і забесьпячэньні штодзеннага конкрэтнага кіраўніцтва ім. 2) Даклад рэдколегіі насьценнай або шматтыражнай газэты (не даклад аб усёй рабоце, а па адным конкрэтным пытаньні): „Газэта і барацьба за сяўбу, за колектывізацыю і організацыю працы ў колгасах, а таксама работа з селькорамі“ — для вясковых газэт і „Барацьба за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, аўладаньне тэхнікай, за адзінаначальле і гаспадарчы разрахунак, а таксама работа з рабкорамі“ (для фабрычна-заводзкіх газэт). Даклад рэдколегіі павінен быць шчыльна ўвязаны з пытаньнямі конкрэтных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да надыходзячага ўсебеларускага зьезду рабселькораў і ў прыватнасьці з популярызацыяй і забесьпячэньнем практычнага выкананьня тых конкрэтных самаабавязацельстваў у галіне друку, якія ўзяты гэтай насьценгазэтай у сувязі з лістом менскіх ударнікаў друку (ліст, надрукаваны ў газэце „Зьвязда“ ад 6 мая). 3) Даклад упаўнаважнага па друку аб распаўсюджаньні друку на пэўным прадпрыемстве, колгасе і г. д. і аб мерапрыемствах па павялічэньні распаўсюжаньня друку.

б) Правесьці праверку выкананьня ўсіх ранейпрынятых ГК, РК і ячэйкамі пастаноў па пытаньнях нізавога друку і рабселькораўскага руху, а таксама таго, як ажыцьцяўляюцца дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па друку. Праверку злучыць з опэрацыйнай работай па ажыцьцяўленьні тых пунктаў пастаноў, якія да гэтага часу ня выкананы.

в) У раёнах і гарадох організаваць агульна-раённыя і гарадзкія тэматычныя конкурсныя выстаўкі насьценных і шматтыражных газэт, а таксама тэматычныя кніжныя выстаўкі (літаратура па аўладаньні тэхнікай і г. д.) Лепшыя насьценныя газэты трэба прэм'яваць і не пазьней 3 чэрвеня прыслаць у Менск для ўсебеларускай выстаўкі нізавога і раённага друку.

г) Дзень друку па БССР — 20 мая — усе газеты адзначаюць спэцыяльнымі нумарамі газэт. На працягу месячніка пролетарскага друку— з 20 мая па 20 чэрвеня—неабходна сыстэматычна зьмяшчаць аддзелы, прысьвечаныя пытаньням месячніка, вылучыўшы для вядзеньня аддзелу спэцыяльнага работніка.

д) Агляды друку павінны зьявіцца сустаўной часткай кожнага нумару цэнтральнай, гарадзкой, раённай і шматтыражнай газэты. Гэтым аглядам Культпроп ЦК КП(б)Б надае важнейшае значэньне ў справе забесьпячэньня партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам і рабселькораўскім рухам. Агляды друку па сваім значэньні павінны прыраўноўвацца да перадавых рэдакцыйных артыкулаў.

ж) Сустаўной часткай месячніка друку павінна зьявіцца работа па ўзмацненьні масавай работы вакол яшчэ большага ўзмацненьня распаўсюджваньня пролетарскай кніжкі як на беларускай мове, гэтак і на мове нацменшасьцяй. Адначасова ў часе месячніка неабходна зрабіць праверку зьместу бібліотэк, зьняўшы ўсю шкодную нацыяналдэмократычную літаратуру.

з) Распачаць вярбоўку лепшых рабселькораў-ударнікаў і непасрэдна партыйных работнікаў у надыходзячыя наборы на газэтныя аддзяленьні Комвузу імя Леніна, усебеларускай саўпартшколы, усебеларускага політасьветнага тэхнікуму.

і) Закончыць і падвесьці вынікі масавага агляду-самаправеркі работы нізавога друку, становішча рабселькораўскага руху і партківаўніцтва ім. Вынікі абавязкова павінны быць абгавораны на бюро ячэек, партколектываў і РК КП(б)Б.

к) Для выбараў дэлегатаў на ўсебеларускі зьезд рабселькораў на больш буйных прадрыемствах, колгасах, саўгасах, МТС (конкрэтны сьпіс гэтых пунктаў будзе дадаткова апублікаваны оргкамісіяй па скліканьні зьезду) — непасрэдна склікаюцца ўнутрызаводзкія, колгасныя і г. д. зьлёты рабселькораў. Іншыя рабселькоры выбіраюць дэлегатаў на агульна-гарадзкіх або раённых зьлётах.

Колькасьць выбіраных дэлегатаў і парадак выбараў, аб якім паведамім дадаткова, устанаўляецца оргкамісіяй. Зьлёты павінны быць праведзены ў часе паміж 20 мая (для гарадоў) і 30 мая (для сельскіх раёнаў).

Паводле атрыманых ЦК КП(б)Б вестак, у радзе асобных партыйных організацый не сконцэнтравана патрэбная ўвага да абвешчанай пастановай Сакратарыяту ЦК КП(б)Б усебеларускай масавай політычнай кампаніі перавыбараў рэдколегій насьценных газэт.

Перавыбары рэдколегій павінны забясьпечыць ператварэньне брыгад друку ў вядучае зьвяно рабселькораўскага руху, узмацненьне ролі рабселькораўскага руху, як актыўнага праваднiка генэральнай лініі партыі. Ні ў якім разе нельга забываць аб рабоце з рабселькорамі-адзіночкамі, якіх неабходна ўцягваць ва ўдарныя брыгады друку.

У рэдколегіі насьценных газэт павінны выбірацца лепшыя ўдарнікі, адданыя змагары за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Культпроп ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу цэнтральных газэт і фабрычна-заводзкіх шматтыражак БССР на недапушчальна нездавальняючае выкананьне цэнтральнымі газэтамі і шматтыражкамі пастановы ЦК КП(б)Б аб сыстэматычным і шырокім асьвятленьні на старонках газэт масавага агляду-самаправеркі нізавога друку, перавыбараў рэдколегій і падрыхтоўкі да ўсебеларускага зьезду рабселькораў.

Загадчык Культпропам ЦК КП(б)Б *Чарнушэвіч.*

Загадчык сэктарам друку Культпропу ЦК КП(б)Б *Курцік.*

# Да ўсіх краязнаўчых організацый БССР

*(Аб ўдзеле ва ўсебеларускім месячніку друку).*

Значэньне партыйна-савецкага друку ў справе пасьпяховага разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне надзвычайна вялікае. Партыйна-савецкі друк — „ня толькі колектыўны пропагандыст і агітатар, але і колектыўны організатар мас". Ён популярызуе пастановы партыі і ўраду сярод рабочых і самых шырокіх працоўных мас і організуе гэтыя масы для будаўніцтва соцыялізму, вядзе барацьбу за генэральную лінію партыі, за выкананьне пяцігодкі ў 4 гады, за выкананьне прамфінпляну, дапамагае разгортваньню і падняцьцю на вышэйшую ступень соцыялістычных мэтодаў працы—соцспаборніцава і ўдарніцтва, вядзе бязьлітасную барацьбу з клясавымі ворагамі пролетарыяту і організуе працоўныя масы навокал комуністычнай партыі, якая вядзе гэтыя масы да соцыялізму.

Улічваючы магутную ролю і значэньне ў соцыялістычным будаўніцтве партыйна-савецкага друку, Сакратарыят ЦК КП(б)Б абвясьціў з 20-га мая па 20-ае чэрвеня ўсебеларускі месячнік друку, надаўшы яму „характар адказнай палітычнай кампаніі, зрабіўшы яго сустаўной часткой падрыхтоўкі да ўсебеларускага зьезду рабселькораў". Месячнік друку ў БССР павінен быць праведзены „пад знакам яшчэ большага падвышэньня ролі партыйна-савецкага друку ў разгорнутым соцыялістычным наступленьні, ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, у барацьбе за ленінскую нацыянальную палітыку, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму — найбольш небясьпечнага на даным этапе, ні на хвіліну не аслабляючы самай непрымірымай і жорсткай барацьбы з шовінізмамі ўсіх іншых колераў яшчэ большага падвышэньня ролі друку ў барацьбе за генэральную лінію партыі, супроць правага ўхілу—галоўнай небясьпекі данага пэрыоду, „левых" загібаў і прымірэнцтва да ўхілаў."

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства лічыць, што ўсе краязнаўчыя організацыі і ўвесь краязнаўчы актыў павінны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні „Месячніка друку". Месячнік друку павінен быць скарыстан усімі краязнаўчымі організацыямі для мобілізацыі ўсіх літаратурных сіл краязнаўцаў навокал задач краязнаўчага друку і ўсяго краязнаўчага руху, для высьвятленьня сярод рабочых, колгасьнікаў і бяднацка-серадняцкіх мас сялянства ролі савецкага краязнаўства, як „формы актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Задача краязнаўцаў у месячнік друку — выявіць прыродныя багацьці нашай краіны саветаў і дапамагчы выкарыстаць нашы багацейшыя рэсурсы для соцыялістычнага будаўніцтва. Толькі пры баявым большавіцкім удзеле краязнаўчых організацый у справе вывучэньня мясцовых багацьцяў краю савецкія і гаспадарчыя організацыі змогуць належным чынам разьвіць тыя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, якіх патрабуе ад нас пяцігодка. Разьвіцьцё краязначаўчага руху павялічвае ролю і значэньне і краязнаўчага друку, які павінен забясьпечваць выразнае марксыцка-ленінскае кіраўніцтва ўсім краязнаўчым рухам.

У месячнік друку краязнаўчыя організацыі павінны максымальна популярызаваць задачы савецкага краязнаўства і краязнаўчага друку, узмацніць і пашырыць краязнаўчыя органы друку і стварыць новыя органы друку, блізкія працоўным масам.

Нам. Старш. ЦБК Ф. П. Садоўскі.

Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

## Разгарнуць краязнаўчую працу

*(З адозвы ЦК УсеКП(б) да культпропаў ЦК нацкомпартый, Обкомаў і Крайкомаў УсеКП(б).*

„Дарагія таварышы! На сучасным этапе соцыялістычнай рэконструкцыі з асаблівай вострасьцю высоўваецца неабходнасьць вывучэньня і падліку вытворчых сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры. Праца гэта ня можа быць выканана аднымі дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчай працы ня будуць працягнуты масы рабочых, сялян і савецкай інтэлігенцыі.

Гэту навуковую працу ў сучасны момант трэба цесна зьвязаць з краязнаўчым рухам—колектыўным усебаковым вывучэньнем свайго раёну, свайго колгасу, прадпрыемства. Краязнаўчы рух, які кіруецца Цэнтральным Бюро Краязнаўства праз рэспубліканскія, абласныя і раённыя бюро краязнаўства, павінен дабіцца цяпер рашучага пералому: ад саматужнай і бясплянавай, а па зьместу адарванай ад сучаснасьці работы, ён павінен павярнуцца да навукова-дасьледчай працы ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, скарыстаньня мясцовых крыніц энэргіі, вырашэньня сыравіннай і жывёлагадоўчай проблемы, рацыяналізацыі пушнога і рыбнага промыслаў, лесакарыстаньня, новабудоўлі (у тым ліку будаўніцтва гарадоў) у сувязі з змаганьнем за новы быт і г. д., да організацыі конкурсаў па монографічнаму вывучэньню фабрык і заводаў, колгасаў і саўгасаў, па складаньню краязнаўчых падручнікаў, адшуканьню карысных выкапняў, зьбіраньню лекавых расьлін, выяўленьню новых прадметаў экспорту і г. д.

Асабліваё значэньне краязнаўства набывае ў нацыянальных раёнах. Уся краязнаўчая праца можа сапраўды шырока разгарнуцца, калі будзе зьвязана з масамі і будзе сустаўной часткай працы па ліквідацыі няпісьменнасьці, усеагульнаму навучаньню, клюбнай працы.

Аднак, у адносінах кадраў краязнаўства знаходзіцца ў сучасны момант у вельмі цяжкім становішчы. Кадры старых краязнаўцаў зусім не прыстасаваны да вырашэньня паказаных задач, у многім не разумеюць асаблівасьцяй рэконструкцыйнага пэрыоду. Яны не жадаюць ці ня ўмеюць увязаць сваю працу з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, працуюць ня масавымі, а аматарскімі мэтодамі. У паасобных выпадках краязнаўчыя організацыі скарыстоўваюць чужыя і варожыя нам элемэнты, якія пад прыкрыцьцём апалітызму і акадэмічнасьці займаюцца шкодніцтвам.

Такім чынам, задачы разьвіцьця і ажыўленьня савецкай краязнаўчай працы перш за ўсё ўпіраюцца ў задачу краязнаўчых кадраў з рабоча-сялянскага актыву. Гэта задача можа быць пасьпяхова

вырашана толькі пры ўмове пастаноўкі сапраўднага кіраўніцтва з боку партыйных організацый, пачынаючы ад вобласьці да нізавых ячэек.

Пагэтаму культпроп ЦК УсеКП(б) прапануе:

1) пераглядзець склад і ўзмацніць адказнымі партыйнымі таварышамі абласныя і рэспубліканскія бюро краязнаўства.

2) Абавязаць раённыя камітэты садзейнічаць разгортваньню раённай краязнаўчай сеткі, аформіць раённыя краязнаўчыя бюро і ўзмацніць іх членамі партыі.

3) Даць дырэктыву нізавым партыйным організацыям аб садзейнічаньні і кіраўніцтве краязнаўчымі ячэйкамі і гурткамі, заслухоўваючы пэрыодычна справаздачныя даклады па краязнаўству.

4) Культпропаддзелам актыўна дапамагаць правядзеньню краязнаўчых кампаній, у прыватнасьці шырокага асьвятленьня іх ў друку.

5) Даць дырэктыву парторганізацыям аб урэгуляваньні партыйнай нагрузкі таварышоў, якія вядуць працу ў краязнаўчых організацыях.

---

В. Самцэвіч.

# Па-баявому перабудаваць краязнаўчую працу

*(Пытаньні організацыі краязнаўчага руху)*

## 1. Краязнаўства на службе контр-рэволюцыйнага нацынал-дэмократызму.

Савецкая Беларусь разам з усім Савецкім Саюзам уступіла ў пэрыод разгорнутага социялістычнага наступленьня па ўсім фронце. Рабочая кляса СССР і БССР пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі дасягнула вялізарнейшых посьпехаў у галіне разьвіцьця прамысловасьці і социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. 48,6 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак СССР і 24,5 проц. гаспадарак БССР [1]) уступілі ў колгасы, пашыраўшы і ўзмацніўшы апору пролетарыяту ў вёсцы. Шмат якія раёны ўжо перайшлі і пераходзяць да суцэльнай колектывізацыі, на аснове якой ліквідуецца кулацтва, як кляса.

Вялізарныя дасягненьні ў сельскай гаспадарцы зьявіліся вынікам агульнага ўздыму ўсяе народнае гаспадаркі і вялікіх дасягненьняў буйной социялістычнай прамысловасьці. Актыўнасьць рабочай клясы і колгасьнікаў і цеснае згуртаваньне ўсёй савецкай грамадзкасьці навокал комуністычнай партыі зьяўляецца рашаючым фактарам далейшага пасьпяховага разгортваньня социялістычнага будаўніцтва, якое адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і супроць якого актыўна змагаецца кулацтва на вёсцы, нэпманскія элемэнты ў горадзе, буржуазная інтэлігенцыя, бюрократы і ўсе контр-рэволюцыйныя сілы, агенты замежных інтэрвэнтаў. Краязнаўства ў мінулым ня было падпарадкавана задачам социялістычнага будаўніцтва, а было скарыстана варожымі і шкоднымі пролетарыяту элемэнтамі для барацьбы супроць социялізму, супроць дыктатуры пролетарыяту.

Краязнаўства было выкарыстана контр-рэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам, які імкнуўся да рэстаўрацыі капіталістычнага ладу. Тэорытычна абгрунтоўваліся буржуазныя шляхі разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР і практычна насаджаліся ў вялікай колькасьці прышчэпаўскія хутары; вёскі расьсяляліся на дробныя пасёлкі, а на шляху будаўніцтва саўгасаў і колгасаў ставіліся розныя перашкоды. Мала таго, гэтыя гаспадаркі (саўгасы і колгасы), створаныя пад кіраўніцтвам партыі пролетарыятам, батрацтвам і вясковай

[1]) Паводле зводкі НКЗ СССР № 12 па становішчы на 1/V. „Правда", № 123, 1931 году.

беднатой у першыя гады рэволюцыі, сьвядома падрываліся і развальваліся, а кулацкія гаспадаркі тыпу Мароза папулярызаваліся ў друку, у падручніках, знаходзілі сабе падтрыманьне і абарону ў органах Наркамзему. У краязнаўства зусім ня былі ўцягнуты рабочыя, батрацтва, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы. На фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах савецкае краязнаўства не папулярызавалася, і там зусім адсутнічалі краязнаўчыя організацыі. Краязнаўчыя організацыі ў сваёй працы ня былі зьвязаны з партыйнымі, савецкімі, гаспадарчымі, плянуючымі, профсаюзнымі і інш. дырэктыўнымі і грамадзкімі організацыямі. Краязнаўства заставалася ўбаку, не заняла пэўнага вучастку на фронце барацьбы за пяцігодку, за выкананьне прамфінпляну.

Партыя і рабочая кляса далі яскравыя і катэгорычныя ўказаньні аб перабудове ўсёй краязнаўчай працы, паставіўшы перад краязнаўствам пэўныя задачы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва краіны. У прыватнасьці зусім неабходнай зьяўляецца задача распрацаваць гісторыю Беларусі, яе экономіку і паставіць вывучэньне гэтых пытаньняў партыйным актывам, шырокімі партыйнымі масамі і беспартыйнымі рабочымі. Дырэктывы партыі і пастановы профсаюзных і інш. організацый патрабуюць, *каб краязнаўства было цалкам і поўнасьцю падпарадкавана задачам соцыялістычнага будаўніцтва і служыла інтарэсам дыктатуры пролетарыяту.* Пад такім пунктам гледжаньня павінна быць зьверху да нізу перабудавана ўся краязнаўчая праца.

## 2. Організацыйная перабудова краязнаўчай сеткі

Першапачатковай нізавой краязнаўчай організацыяй у нас павінна быць краязнаўчая *ячэйка,* членамі якой могуць быць усе працоўныя, непазбаўленыя выбарчых правоў. Краязнаўчыя ячэйкі організуюцца па вытворчаму прынцыпу на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах, пры коопэрацыйных організацыях, пры школах і г. д. Задача кожнай ячэйкі—усебаковае вывучэньне сваёй фабрыкі, прадпрыемства і г. д. і прылягаючага раёну (у вузкім сэнсе гэтага слова, з якім прадпрыемства зьвязана соцыяльна-экономічнымі сувязямі) у мэтах *скарыстаньня вынікаў дасьледваньня для непасрэднага соцыялістычнага будаўніцтва.* Ячэйка таксама павінна прымаць актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве свайго прадпрыемства на аснове выкананьня плянавых заданьняў мясцовага заводакіраўніцтва, праўленьня колгасу і інш. Ячэйка павінна папулярызаваць савецкае краязнаўства сярод працоўных мас свайго раёну і ўцягваць іх (рабочых і колгасьнікаў у першую чаргу) у вывучэньне сваёй вытворчасьці, вытворчых сіл і багацьцяў краю, яго культуры і быту.

У сваёй працы ячэйка можа для выкананьня розных заданьняў падзяляцца на гурткі, групы, брыгады па спэцыяльнасьці. Кіруючым органам ячэйкі зьяўляецца сход, а выканаўчым органам у штодзеннай працы — бюро ячэйкі (у складзе 3 — 5 чал.). Краязнаўчая ячэйка адрозьніваецца ад былога краязнаўчага гуртка тым, што яна характарызуецца сваёю масавасьцю (гурток меў больш замкнуты характар), сваім вытворчым прынцыпам. Былыя краязнаўчыя гурткі організоўваліся па тэрыторыяльнаму прынцыпу і ставілі сваёй мэтай „усебаковае вывучэньне і дасьледваньне сваёй тэрыторыі ў прыродна-географічнчх, грамадзка-экономічных і культура-гістарычных стасунках“

(у межах, вёскі, мястэчка, сельсавету)[1]). Задачы вывучэньня фабрыкі, заводу, саўгасу, МТС, колгасу перад гуртком нідзе ня ставілася; праца гуртка зусім ня мела соцыялістычнага зьместу і соцыялістычнай накіраванасьці. Былы статут гуртка цалкам мог-бы быць прынятым любым краязнаўчым гуртком любой буржуазнай краіны.

Кіруючым органам краязнаўчага руху і ўсёй краязнаўчай працы ў раёне зьяўляецца *раённае бюро краязнаўства*, якое існуе пры РВК і абіраецца ў складзе 9—15 чал. на раённай конфэрэнцыі ўсіх *краязнаўчых ячэек і музэяў* раёну, а таксама прадстаўнікоў іншых грамадзкіх організацый. Для кіраўніцтва опэрацыйнай працай раённае бюро выбірае з свайго складу *прэзыдыум* у складзе 3—5 чал. Былыя раённыя і гарадзкія таварыствы краязнаўства, як не адпавядаючыя сучасным запатрабаваньням масавай навукова-дасьледчай працы, рэорганізуюцца паводле вышэйадзначаных прынцыпаў (краязнаўчыя ячэйкі, сэкцыі пры райбюро). Як краязнаўчыя ячэйкі, так і раённыя бюро краязнаўства ў сваёй працы павінны наладзіць і трымаць самую цесную сувязь з мясцовымі партыйнымі, савецкімі, гаспадарчымі і профсаюзнымі організацыямі.

Пры раённым бюро організуюцца сэкцыі: для вывучэньня прамысловасьці, соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, вытворчых сіл раёну, культуры і быту, сэкцыя школьнага краязнаўства і інш. Такія-ж сэкцыі існуюць і пры ЦБК, якое зьяўляецца організацыйна-мэтодычным цэнтрам краязнаўчага руху ў БССР, які павінен накіроўвацца на вырашэньне конкрэтных задач гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва, асабліва па лініі вывучэньня соцыялістычнай прамысловасьці і абагуленага сэктару сельскай гаспадаркі.

Апрача сталых сэкцый, пры раённых і цэнтральным бюро краязнаўства могуць утварацца часовыя краязнаўчыя камісіі для выкананьня паасобных заданьняў. Раённыя бюро і ячэйкі краязнаўства павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на організацыю на фабрыках і заводах, колгасах і саўгасах краязнаўчых *музэяў*, якія павінны весьці навукова-дасьледчую працу і быць популярызатарамі, агітатарамі, пропагандыстамі і організатарамі мас для соцыялістчнага будаўніцтва, а ня складамі музэйных рэдкасьцяй, якімі былі музэі да гэтага часу. Раённае бюро краязнаўства павінна накіроўваць і концэнтраваць навукова-дасьледчую працу ня толькі краязнаўчых ячэек, але ў пэўнай ступені і працу іншых дасьледчых організацый і ўстаноў у раёне (станцый, лябораторый і інш.), увязваючы і каардынуючы сумесна з плянавай камісіяй дасьледчую працу ўсіх дасьледчых устаноў у раёне на аснове пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

## 3. Зьмест, формы і мэтоды краязнаўчай працы

Конкрэтны зьмест краязнаўчай працы ва ўсіх зьвеньнях краязнаўчай сеткі выцякае з мэтавай устаноўкі савецкага краязнаўства— служыць інтарэсам дыктатуры пролетарыяту і задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Такія дырэктывы даны краязнаўству з боку ЦК УсеКП(б) ад 13/XI-30 г. і з боку X пленуму ЦБК РСФСР, які адбыўся 25—28 студзеньня г. г. ў Маскве.

Сучасныя шпаркія тэмпы нашага соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюць *хуткіх тэмпаў* і ў навукова-дасьледчай працы. Адсюль

[1]) Гл. § 1 статуту гуртка краязнаўства.

вынікае неабходнасьць *колектыўнай* працы ў краязнаўстве (брыгады, групы), як найбольш дасканалай формы масавай дасьледчай працы. Аднак, высоўваючы на першы плян колектыўныя формы працы, мы гэтым самым зусім не зьмяншаем ролі і значэньня індывідуальнай распрацоўкі паасобных тэм і заданьняў.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва зьяўляюцца асноўнымі соцыялістычнымі мэтодамі працы на фабрыках, заводах, у саўгасах, колгасах і г. д. Нам трэба дамагчыся, каб кожная краязнаўчая організацыя неадкладна перавяла ўсю сваю працу на рэйкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

## 4. За новыя кадры і марксыцка-ленінскую мэтодолёгію

Выкананьне вялізарных і адказьнейшых задач, пастаўленых перад савецкім краязнаўствам наогул і перад кожнай асобнай краязнаўчай організацыяй, упіраецца ў падбор людзей, якія-б па-бальшавіцку праводзілі ў жыцьцё дырэктывы партыі, прымалі актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве і цьвёрда стаялі на позыцыях марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі. „Аднак, у адносінах кадраў краязнаўства знаходзіцца ў сучасны момант у вельмі цяжкім становішчы. Кадры старых краяведаў зусім не прыстасаваны да вырашэньня паказаных задач, а шмат якія з іх не разумеюць асаблівасьцяй рэконструкцыйнага пэрыоду. Шмат якія з іх не жадаюць і ня ўмеюць увязаць сваю працу з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, працуюць ня масавымі, а аматарскімі мэтодамі. У паасобных выпадках краязнаўчыя організацыі скарыстоўваюць чужыя і варожыя нам элемэнты, якія пад прыкрыцьцём аполітычнасьці і акадэмічнасьці займаюцца шкодніцтвам. Такім чынам, задачы разьвіцьця і ажыўленьня савецкай краязнаўчай работы перш за ўсё ўпіраюцца ў задачу краязнаўчых кадраў з рабоча-сялянскага актыву. Гэта задача можа быць вырашана толькі пры ўмове пастаноўкі сапраўднага кіраўніцтва з боку партыйных організацый“. (З ліста ЦК УсеКП(б) да культпропаў).

У сувязі з умацненьнем разгорнутага соцыялістычнага наступленьня ўзмацнілася і клясавая барацьба ў краіне і прыняла жорсткі характар на ідэолёгічным фронце і ў прыватнасьці ў краязнаўстве, як на адным з вучасткаў агульнага ідэолёгічнага фронту. „Пранікненьне буржуазна-кулацкай ідэолёгіі ў навукова-дасьледчую і краязнаўчую літаратуру, супраціўленьне організацыйнай перабудове краязнаўчага руху на началах вытворчых ячэек—зьяўляюцца найбольш характэрнымі момантамі клясавай барацьбы на фронце соцыялістычнага краязнаўства і патрабуюць рашучага і сьмелага выяўленьня з боку ўсіх краязнаўчых організацый і ўпартай барацьбы з ідэолёгічна-чужымі і варожымі элемэнтамі“ (з рэзолюцыі X пленуму ЦБК).

Усім краязнаўчым організацыям неабходна, па-першае, рашуча ачысьціць свае рады ад ідэолёгічна-чужых і клясава-варожых элемэнтаў і, па-другое, максымальна папоўніць краязнаўчыя організацыі за кошт рабочага, батрацкага і колгасьніцкага актыву, забясьпечыўшы належнае кіраўніцтва ўсёй організацыйнай і дасьледчай працай. Раённыя бюро і ЦБК ва ўсю шырыню павінны паставіць пытаньне адносна падрыхтоўкі і павышэньня кваліфікацыі краязнаўчых кадраў (праз курсы, сэмінары, конфэрэнцыі і г. д.), прычым аўладаньне марксыцка-ленінскай ідэолёгіяй павінна быць аднэй з цэнтральных задач у падрыхтоўцы краязнаўчых кадраў.

### 5. За плянавасьць і масавасьць у навукова-дасьледчай працы

Тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў трэцім, рашаючым годзе пяцігодкі патрабуюць максымальнага выкарыстаньня ўсіх рэсурсаў краіны, максымальнага разгортваньня навукова-дасьледчай працы. А між тым дасьледчая праца краязнаўчых організацый вельмі слаба разгорнута і не дапамагае ў патрэбнай меры выкананьню плянаў соцыялістычнага будаўніцтва. Такое становішча зусім ненормальна і недапушчальна ў далейшым.

Трэба неадкладна прыступіць да організацыіі навукова-дасьледчай працы ва ўсіх краязнаўчых організацыях; кожная краязнаўчая ячэйка на фабрыцы павінна ў першую чаргу заняцца вывучэньнем пытаньня рацыяналізацыі вытворчасьці, павышэньня якасьці продукцыі, памяншэньня браку і г. д.; кожная ячэйка, брыгада ў колгасе — вывучыць пытаньне найлепшай організацыі працы ў колгасе. дасьледваць глебы колгасу і іх ўгнаеньне, лепшыя спосабы ўтрыманьня і догляду за жывёлай і інш.; раённыя краязнаўчыя бюро павінны наладзіць сыстэматычныя стацыянарныя назіраньні ў саўгасах, колгасах, на прадпрыемствах, у школах, організаваць экспэдыцыі і дасьледваньне прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў свайго раёну, вывучыць яго экономіку, умовы атрыманьня найбольшай эфэктыўнасьці ад правядзеньня спэцыялізацыі раёну і паасобных колгасаў і саўгасаў, прычым гэта дасьледчая праца павінна праводзіцца па цьвёрдаму пляну, узгодненаму з мясцовымі плянавымі і гаспадарчымі органамі. *Ад бяспляновасьці і саматужніцтва — да сыстэматычнай і плянавай працы.* Кожная краязнаўчая організацыя павінна прыняць чынны ўдзел у распрацоўцы гаспадарча-вытворчых плянаў і плянаў культурнага будаўніцтва ў сваім раёне, на прадпрыемстве, у колгасе і г. д. Распачатую дасьледчую працу трэба праводзіць да канца, а вывады скарыстаць у практычным будаўніцтве соцыялізму.

Нашы краязнаўчыя організацыі да апошняга часу стаялі ў большасьці ўбаку ад масавых гаспадарча-політычных кампаній, якія праводзіліся на мясцох (перавыбары саветаў, пасеўныя і ўборачныя кампаніі, організацыя колгаснага прыліву, усеагульнае навучаньне, політэхнізацыя школы, двухмесячнік агляду дасягненьняў у соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі, конкурс на лепшае прадпрыемства і г. д.), а між тым удзел краязнаўчых організацый у гэтых кампаніях мог-бы быць вельмі карысным.

Удзел краязнаўчых організацый у гэтых кампаніях павінен быць цесна ўвязаны з працай па пашырэньню і ўзмацненьню краязнаўчага руху.

А між тым у мінулым годзе, у час вясеньняй пасяўной кампаніі 1930 года краязнаўчыя організацыі ня ўступілі ў рады байцоў за соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі. Гэта было зразумела пры кіраўніцтве краязнаўствам былым нацдэмаўскім складам ЦБК, але зусім ня мае апраўданьня тое, што і зараз яшчэ шмат якія краязнаўчыя організацыі стаяць убаку ад вялікіх соцыялістычных зрухаў і грандыёзнай соцыялістычнай стройкі, што вельмі шкодна і недапушчальна.

### 6. Пэрабудова краязнаўчай працы ідзе нездавальняюча

Трэба адзначыць, што перабудова краязнаўчай працы ў БССР ідзе яўна нездавальняюча. Яскравым прыкладам гэтаму можа служыць праведзеная „краязнаўчая пяцідзёнка". Згодна дырэктыў ЦК КП(б)Б і ЦБК „краязнаўчая пяцідзёнка" павінна была палажыць пачатак рашу-

чага пераломy ў краязнаўчай працы ў БССР. Ня гледзячы-ж на тое, што на пытаньні „краязнаўчай пяцідзёнкі“ была завострана ўвага партыйных, профсаюзных, усіх краязнаўчых організацый і асьветніцкай масы, партыйнага, савецкага краязнаўчага друку („Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Савецкая краіна“ і інш.), у цэлым шэрагу раёнаў пяцідзёнка яшчэ да гэтага часу зусім не праведзена, не організавана ніводнай краязнаўчай ячэйкі ў колгасах і саўгасах. Гэта сьведчыць аб няўменьні, нежаданьні мобілізаваць і організаваць працоўныя масы для той масавай дасьледчай работы, якую яны ўжо фактычна стыхійна вядуць, ня будучы належным чынам організаваны для гэтай работы. У некаторых-жа раёнах (Заслаўскі, Пухавіцкі, Чачэрскі, Сьмілавіцкі і інш.) амаль ніякай краязнаўчай працы не вядзецца і па атрыманых з месц вестках там да гэтага часу ня існуе і краязнаўчых організацый. Мы маем і такія выпадкі, калі некаторыя краязнаўчыя організацыі ўпарта не пераходзяць да новых організацыйных форм краязнаўчае працы, захоўваючы старую організацыйную структуру (таварыствы, старыя сэкцыі, гурткі). Толькі паасобныя краязнаўчыя організацыі наладзілі больш-менш сталую сувязь з мясцовымі партыйнымі, савецкімі, гаспадарчымі і інш. організацыямі (Клімавіцкае, Крычаўскае, часткова Смалявіцкае і інш.), большасьць-жа організацый варыцца ў сваім саку і ня вышла на шлях шырокай грамадзкасьці.

Грамадзкія організацыі далёка яшчэ не павярнуліся тварам да краязнаўства. У прыватнасьці гэта трэба сказаць адносна мясцовых профсаюзаў, хаця яны адны з першых організацый павінны былі-б зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на разьвіцьцё краязнаўчага руху (адпаведныя пастановы ЎсеЦСПС і ЦСПСБ надрукаваны ў „Савецкай краіне“).

Ня гледзячы на вялізарнейшае і зусім відавочнае значэньне савецкага краязнаўства для політэхнічнай школы ўсіх тыпаў і для політасьветных ўстаноў, органы народнай асьветы таксама надзвычайна мала ўдзяляюць (а то зусім не ўдзяляюць) увагі краязнаўчай працы ў культурна-асьветных установах (школах, хатах-чытальнях, клюбах, бібліотэках). Па ўсёй лініі краязнаўчай сеткі амаль нічога ня зроблена ў сэнсе вывучэньня краязнаўчага актыву і падрыхтоўкі новых кадраў, у першую чаргу з рабочых і колгасьнікаў. Краязнаўчыя організацыі ў пераважнай сваёй большасьці ня маюць адзінага пляну навукова-дасьледчай працы, увязанага з плянамі і гаспадарчымі ўстановамі. Сэкцыйная праца не наладжана. Удзел краязнаўчых організацый у гаспадарча-політычных кампаніях, як ужо вышэй было адзначана, зусім недастатковы; у гэтых адносінах з боку краязнаўчых організацый няма належнай ініцыятывы і ўменьня цесна злучыць працу па разгортваньню краязнаўчага руху з чарговымі кампаніямі. Наадварот, выказваюцца думкі права-опортуністычныя па сваёй сутнасьці, што чарговыя кампаніі не даюць магчымасьці весьці працу па краязнаўству. З такімі думкамі і такімі настроямі трэба весьці рашучую барацьбу; трэба давесьці і паказаць, што краязнаўчая праца ёсьць састаўная частка ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва і што савецкае краязнаўства толькі і можа быць поўнацэнным у сувязі з барацьбой за соцыялізм (а ўсе кампаніі і зьяўляюцца змаганьнем за соцыялізм). У краязнаўчай працы мы яшчэ зусім ня маем сапраўды баявых, бальшавіцкіх тэмпаў працы; соцспаборніцтва і ўдарніцтва зусім не разгорнуты.

Вялікім недахопам у працы ЦБК і раённых бюро краязнаўства зьяўляецца недастатковасьць конкрэтнага програмна-мэтодычнага кіраўніцтва для масавага краяведа ў яго навукова-дасьледчай працы. У раёнах амаль зусім не разгорнута выкрыцьцё контр-рэволюцыйнай

і шкоднай нацдэмаўскай ідэолёгіі ў мясцовых краязнаўчых выданьнях (а краязнаўчыя выданьні былі ў многіх раёнах), адсутнічае крытыка і барацьба з паасобнымі памылкамі ў краязнаўчай працы на мясцох. Вось галоўнейшыя недахопы ў агульным становішчы на нашым краязнаўчым фронце.

## 7. Узяць баявыя тэмпы ў перабудове краязнаўчай працы

Вызначаныя вышэй буйнейшыя недахопы трэба неадкладна і па-бальшавіцку ліквідаваць; трэба пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый мобілізаваць усю савецкую грамадзкасьць на ліквідацыю тых вялікіх прарываў у краязнаўчай працы (у галіне організацыйнай, навукова-дасьледчай, на ідэолёгічным фронце), якія яшчэ не ліквідаваны. Конкрэтна неабходна безадкладна правесьці ніжэйпаданае:

1) Неадкладна закончыць праведзеную ўжо ў частцы раёнаў праверку складу членаў усіх краязнаўчых організацый з мэтай ачышчэньня іх ад чужых і клясава-варожых элемэнтаў.

2) Рэорганізаваць усю краязнаўчую сетку на аснове максымальнага разгортваньня краязнаўчых ячэек на фабрыках і заводах, у саўгасах і колгасах, пры школах і інш., цесна ўвязваючы разгортваньне краязнаўчага руху з социялістычнымі формамі руху працоўных мас (соцспаборніцтва, ударн:цтва, сустрэчны прамфінплян і інш.), вытворчымі нарадамі на прадпрыемствах, у саўгасах колгасах, сельсаветах; абавязкова ўцягнуць у краязнаўчую працу ўсіх рацыяналізатараў, вынаходцаў, рабселькораў, ударнікаў.

3) Сконцэнтраваць увагу ўсіх краязнаўчых організацый на вывучэньні асноўных гаспадарчых і культурных проблем, якія пастаўлены XVI зьездам і сьнежанскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б), XIII зьездам і студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б, VI зьездам саветаў СССР і X зьездам саветаў БССР. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вывучэньне пытаньняў энэргетыкі, карысных выкапняў, суцэльнай колектывізацыі і рабочага забясьпечаньня. Самую сур'ёзную ўвагу трэба зьвярнуць на організацыю вывучэньня і садзейнічаньня з боку ўсіх краязнаўчых організацый абароназдольнасьці нашай краіны[1]) і ўцягненьне ў краязнаўчую працу чырвонай арміі. Зусім зразумела, што пытаньні культурнай рэволюцыі і новага быту таксама павінны знайсьці належнае месца ў краязнаўчай працы. Краязнаўчай працай неабходна ахапіць об'екты, непасрэдна зьвязаныя з нашым соцыялістычным будаўніцтвам і выпрацаваць адзіны плян навукова-дасьледчай працы ў кожным раёне і для ўсёй БССР.

4) На працягу бліжэйшага часу выявіць варожую ідэолёгію ў краязнаўчым руху, а таксама і паасобныя памылкі ў краязнаўчай працы, шырока мобілізаваўшы навокал гэтых пытаньняў рабочыя, батрацкія і колгасьніцкія масы, кожнае раённае краязнаўчае бюро павінна організаваць грамадзкі прагляд усёй выпушчанай у раёнах краязнаўчай літаратуры.

5) Устанавіць цесную сувязь краязнаўчых ячэек і бюро з ячэйкамі ваяўнічых бязбожнікаў у мэтах вывучэньня антырэлігійнага руху, мэтодаў і практыкі контр-рэвол. барацьбы розных рэлігійных аб'яднаньняў царкоўнікаў і сэктантаў ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага наступленьня для пасьпяховай барацьбы на антырэлігійным фронце.

---

[1]) У прыватнасьці на збор сродкаў на самалёт „Краявед“ (гл. „Савецкую Краіну“ № 4).

6) Шырэй разгарнуць працу ў галіне школьнага краязнаўства, у сувязі з політэхнізацыяй школы, у мэтах падрыхтоўкі новых кадраў для краязнаўства і социялістычнага будаўніцтва.

7) Організаваць сыстэматычны і актыўны ўдзел ва ўсіх важнейшых гаспадарча-політычных кампаніях, якія праводзяцца партыяй і савецкай уладай.

8) Перабудаваць краязнаўчыя музэі на марксыцка-ленінскай аснове з тым, каб яны былі популярызатарамі, агітатарамі мас і актыўнымі ўдзельнікамі ў социялістычным будаўніцтве.

9) Організаваць рабочы і колгасны актыў, наладзіць падрыхтоўку і перападрыхтоўку краязнаўчых кадраў, выявіць лепшы ў гэтым напрамку вопыт перадавых організацый і пашырыць яго сярод астатніх організацый.

Вялізарны размах социялістычнага руху на фабрыках і заводах, у саўгасах і колгасах стварае спрыяючыя ўмовы для таго, каб пасьпяхова разгарнуць і краязнаўчы рух. Трэба толькі пакончыць з політычнай недаацэнкай гэтага руху ў справе социялістычнага будаўніцтва, з дэмобілізацыйнымі настроямі ў частцы краязнаўчых організацый і, пад кіраўніцтвам партыйных організацый, зрабіць гэты рух масавым рухам, справай саміх рабочых і колгасьніцкіх мас, будаўнікоў социялізму.

М. М.

# Соцыяльна-клясавы зьмест і мэты б. інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“ пры НДІ сельскай гаспадаркі.

У задачу гэтага артыкулу ўваходзіць азнаямленьне працоўных мас са шкоднай дзейнасьцю такой організацыі як „Інстытут сялян-дасьледчыкаў“, якая (організацыя) існавала пры НДІ сельскай і лясной гаспадаркі і была пабудавана па прынцыпу краязнаўчай організацыі. Годам організацыі „Інстытуту сялян-дасьледчыкаў“ трэба лічыць 1927 г., калі „было організавана бюро сялян дасьледчыкаў“. (З справаздачы БНДІ: 1-ы год працы, 1927, стар. 159).

У гэты пэрыод, як піша Чуйко ў справаздачы, БНДІ ўсклаў на бюро сялян-дасьледчыкаў „ідэёвае, навуковае і організацыйнае кіраўніцтва па інстытуту сялян-дасьледчыкаў“ (Справаздача стар. 112). Гэтым бюро непасрэдна кіравалі Чуйко і Русецкі.

У сваім артыкуле „Да мэтодыкі працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў у БССР“ (сельская і лясная гаспадарка, 1927, № 1) Чуйко піша: „Інстытут сялян-дасьледчыкаў, які організуецца ў БССР, ёсьць організацыя новая і ў такой форме, у якой яна організуецца ў БССР, пакуль што мы не сустракаем нідзе, і можна лічыць, што гэта ёсьць дасягненьне БССР. Організацыйную структуру і мэтод сваёй працы Інстытут сялян-дасьледчыкаў павінен выпрацаваць сам, бо гатовага нічога няма“ (стар. 18). І тут-жа Чуйко раіць выкарыстаць практыку працы ў гэтым напрамку Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі, дзе, паводле яго слоў, гэтая праца „на працягу 7 гадоў выкрышталізавалася ў добрую сыстэму, зьвязаную супольнасьцю ідэі і задач“, і дзе ў правядзеньні гэтай працы „агульнае, ідэёвае кіраўніцтва дае профэсар Даярэнка“. З аднаго таго, што ў аснову працы з „сялянамі-дасьледчыкамі“ былі пакладзены ідэі такога махровага контррэволюцыянэра, як профэсар Даярэнка, дастойным вучнем якога зьяўляецца Чуйко, можна ўявіць сабе клясавую сутнасьць гэтай працы. Але лепш за ўсё аб гэтым гаворыць сам Чуйко. Мы ўжо ведаем, што ўся ранейшая праца НДІ была накіравана нацдэмамі на капіталістычнае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Бюро „сялян-дасьледчыкаў“ непасрэдна рабіла справу разьвіцьця капіталізму ў сельскай гаспадарцы. Бюро „сялян-дасьледчыкаў“ зьяўлялася органам НДІ, які выконваў соцыяльны заказ кулака ў дасьледчай справе.

Інстытут „сялян-дасьледчыкаў“, паводле слоў Чуйко, зьяўляўся організацыяй „шырокіх мас сялянства для колектыўнай, (?) разам з дасьледчымі станцыямі і агрономіяй, дасьледчай працы ў сялянскай гаспадарцы БССР, накіраванай на ўздым гэтай гаспадаркі“. Пры гэтым асабліва падкрэсьлівалася, што інстытут яднае „перадавых сялян“; што гэта організацыя заснавана выключна „на актыўнасьці і самадзейнасьці саміх сялян“ (З справаздачы за першы год, стар. 112; выніки

бюро 1927 г., стар. 62 і сельская і лясная гаспадарка за 1928 г. № 5-6, стар. 158). Для замазваньня соцыяльнага твару „сялян-дасьледчыкаў“ Чуйко ўжывае розныя спосабы, называючы іх „масы сялян-дасьледчыкаў“, або „культурныя гаспадары“, а то і проста масы сялянства. Так, ён піша, што: „для высьвятленьня твару сялян-дасьледчыкаў і організацыйнага стану іх гаспадарак, на кожнага з іх запаўняецца спэцыяльная анкета“. (Справаздача бюро за 1927 г., стар. 10). Гэта вытрымка вельмі цікава, бо ў ёй ні слова аб соцыяльным стане дасьледчыка. Тут-жа трэба адзначыць, што пры залічэньні ў Інстытут „сялян-дасьледчыкаў“ бюро высунула такія прынцыпы: соцыяльна-экономічны“, „зацікаўленасьць“ і „выкананьне сваіх абавязкаў“. Пры гэтым, „соцыяльна-экономічны прынцып“ ні ў якім разе не азначаў сабою забароны ўступленьню ў інстытут кулакоў, „больш заможныя (слова „кулак“ ня ўжывалася ў бюро) сяляне-дасьледчыкі могуць быць залічаны ў Інстытут сялян дасьледчыкаў, але (?) па асобай умове з кожным. Навуковае кіраўніцтва ім будзе дана нароўні з іншымі“. (Справаздача бюро за 1927 г., стар. 6). Астатнія-ж прынцыпы толькі спрыялі адсеву беднаты, бо якраз карысьць ад залічэньня ў інстытут мелі кулакі. Склад інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“ узрастаў наступным чынам: сакавік 1927 году — 63, студзень 1928 г. — 474, з якіх сялян-адзіночак было 89, 4%. З апошніх 22,8% мелі зямлі звыш 6 дзесяцін; 51,2 проц. — 6—12 дзесяцін; 15,9% — 12—20 дзесяцін, і 10,1% — звыш 20 дзесяцін; 80,4% — мелі па двое і больш коняй; 52,9% — мелі складаныя машыны; 68% мелі шматпольныя севазвароты; 80% мелі хутарскую, адрубную і пасялковую форму землекарыстаньня; 98,4% былі пісьменнымі і, нарэшце, шмат з іх мелі даваенны стаж „дасьледчыкаў“ і зьяўляліся, паводле слоў самаго Чуйко, „галоўным чынам прадстаўнікамі заможных груп.“ (З справаздачы за першы год працы, старонка 115). Якія-ж вывады робіць Чуйко з свайго „навуковага аналізу твару сялян-дасьледчыкаў“? Вывады наступныя:

1) „Як відаць з прыведзеных лічбаў, — піша Чуйко, — большасьць сялян-дасьледчыкаў зьяўляецца хутаранамі, што ня зусім спрые пашырэньню вынікаў на акружаючае насельніцтва“.

2) „Сяляне-дасьледчыкі ў большасьці скончылі народную школу, і нават ёсьць са спэцыяльнаю сельска-гаспадарчаю і вышэйшаю адукацыяй. Няпісьменных вельмі мала — толькі 1,6%, так што і па свайму культурнаму роўню „сяляне-дасьледчыкі“ пры належнай дапамозе і сталым кіраўніцтве могуць весьці дасьледчую працу“. (Вынікі бюро за 1927 год, стар. 15-16).

Вынікі гаворацць самі за сябе. Чуйко поўнасьцю задаволены вынікамі сваёй дзейнасьці і толькі адчувае нейкую няёмкасьць „наогул“, бо кідаецца ў вочы колькасьць хутаран ў складзе „дасьледчыкаў“.

Нарэшце, кулацкі ідэолёг Чуйко не застаецца ў даўгу і перад прышчэпаўскай політыкай: ён адзначаё, што такія дасягненьні атрыманы бюро сялян-дасьледчыкаў у выніку таго комплексу мерапрыемстваў, „якія спрыяюць працы і росту сельскай (чытай кулацкай) гаспадаркі“. (Вынікі Бюро за 27 г., старонка 17). Контр-рэволюцыянэры Прышчэпаў і Гарэцкі ў сваю чаргу адзначаюць, што бюро „сялян-дасьледчыкаў“ сябе апраўдала, што „вынікі працы за першы організацыйны год былі здавальняючымі“, (Справаздача за першы год працы, старонка 18), што „за кароткі час працы можна ўбачыць, як уздымаецца актыўнасьць сялянства“ (Справаздача бюро за 1927 г., стар. 3).

Гэтая армія кулакоў, аб'яднаных пад маркаю „сялян-дасьледчыкаў“, называлася па Чуйко „вытворчай школай, дзе павінны выхоў-

вацца культурныя гаспадары“ (справаздача бюро за 1927 г., стар. 8), а іх гаспадаркі мелася на ўвазе перабудаваць так, каб яны маглі „служыць прыкладам, узорам, для ўсёй іншай масы адсталых сялянскіх гаспадарак“. (Справаздача бюро за 1927 г., старонка 61). Такая сутнасьць і мэты Інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“.

Пры гэтым нацдэмы настойліва падкрэсьлівалі, што інстытут сялян-дасьледчыкаў узьнік „выключна“ па ініцыятыве саміх „сялян-дасьледчыкаў“; усе-ж савецкія, партыйныя і грамадзкія організацыі сталі пры гэтай організацыі ўбаку, або актыў на ёй перашкаджалі.

Нацдэмы ў асобе Гарэцкага і Чуйко заяўлялі, што „цэнтральнай фігурай у інстытуце сялян-дасьледчыкаў павінен быць агроном“ (дасьледчая справа, стар. 30), а структуру інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“ організоўвалі па форме: „нізавая ячэйка сялян-дасьледчыкаў у кожным адміністрацыйным раёне на чале з раённым агрономам“, гэтыя ячэйкі групаваліся навакол дасьледчых станцый і, нарэшце, „ва ўсебеларускім маштабе“ яны складалі масавую організацыю—Інстытут „сялян-дасьледчыкаў“ з цэнтральным органам—Бюро „сялян-дасьледчыкаў“ (там-жа, старонка 36). Як бачым, складалася даволі стройная кулацкая організацыя, якая організацыйна вельмі ўдала была пабудавана: з ячэйкамі, цэнтральным органам і г. д. Гэтая організацыя, паводле слоў Чуйко, апрача пастаноўкі дасьледчай справы, праводзіла конфэрэнцыі „сялян-дасьледчыкаў“, ставіла даклады, лекцыі і г. д. „На конфэрэнцыях сяляне прымалі вельмі актыўны ўдзел“... (Справаздача за першы год, старон. 117). А яшчэ больш выразна аб гэтым зазначае контр-рэволюцыянэр С к а н д р а к о ў: „Каб замацаваць,—піша ён,—добры пачатак працы інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“, і паглыбіць культурную рэволюцыю сялянскай гаспадаркі, аддзел агульнага земляробства прымаў актыўны ўдзел у трох вясковых выстаўках (Каралёва, Леніна, і Любіш), а таксама дэмонстраваў працы Б. Д. А.“ (справаздача бюро за 1927 г., стар. 87). Зарадку (ня толькі спэцыяльную, але трэба думаць, і політычную) на такіх конфэрэнцыях кулаком-дасьледчыкам давалі Гарэцкі, Прышчэпаў, Чуйко і інш. Гэта мы можам праілюстраваць прыкладам аднае з падобных конфэрэнцый, якая была праведзена ў 1928 годзе пры Менскай дасьледчай станцыі і якая апісваецца ў выніках работы інстытуту „сялян-дасьледчыкаў“ за 1928 год.

На гэтай конфэрэнцыі ў прысутнасьці 120 асоб былі заслуханы даклады: Прышчэпава, Гарэцкага, Саўкіна, Чуйко і інш. Конфэрэнцыя зазначыла, што „сяляне-дасьледчыкі“ шчыра бяруцца за досьледы ў сваёй гаспадарцы, верачы ім, як адзінаму правільнаму мэтоду палепшаньня гаспадаркі“ (старонка 47).

Гарэцкі, разглядаючы ў сваёй справаздачы за 1928 год працу бюро „сялян-дасьедчыкаў“, цалкам задаволены ёю і, адзначаючы, што НДІ наогул працаваў у гэтым годзе над выкананьнем „тых організацыйных заданьняў, якія былі вызначаны ўжо ў мінулым годзе“ (справаздача за другі год, стар. 1), адначасова падкрэсьлівае, што „бюро сялян-дасьледчыкаў значна пашырыла абсяг сваёй дзейнасьці“ (там-жа, стар. 8); што яно надало ўсёй працы з сялянамі-дасьледчыкамі пэўны організаваны характар“ (там-жа, стар. 15).

Захапляючыся вынікамі работы бюро, нацдэм Гарэцкі дае ім такое заданьне: „трэба ўсямерна павялічваць лік „сялян-дасьледчыкаў“, давёўшы яго ў ідэале да 2% усіх сялянскіх гаспадарак БССР (дацкая норма), гэта значыць да 16.000 гаспадарак, да 150 гаспа-

дарак на адзін аграномічны раён". (Дасьледчая справа, стар. 29). А Чуйко ў сваю чаргу дадае: „апрача гэтага, бюро мяркуе правесьці масавае дасьледваньне гаспадарак „сялян-дасьледчыкаў" з мэтаю накіраваньня іх на больш правільны (?) шлях разьвіцьця і выяўленьня ўсяго таго лепшага, што ў іх маецца, каб пашырыць гэта на ўсю масу сялянскіх гаспадарак". (Справаздача за другі год працы, стар. 210). У сваёй справаздачы ад імя бюро „сялян-дасьледчыкаў" за 1928 год Чуйко ні словам не абмовіўся аб соцыяльным складзе „сялян-дасьледчыкаў". Ён толькі захапляецца тым, што ў „яго палку прыбыла", „што ідэя сялянскага досьледу захапіла сабою шырокія колы сялянства" і г. д. (другі год працы, стар. 160). Вынік з усяго адзін. Чуйко—сьвядомы ідэолёг кулацтва, сьвядомы організатар кулацкіх „мас", організатар кулацкай грамадзкасьці. Цікава, як кулацкі правадыр Чуйко рэагаваў на паднятую ў свой час компартыяй і савецкаю ўладаю кампанію па падвышэньню ўраджайнасьці Ён напісаў па гэтаму пытаньньню артыкул на тэму „Сялянскі досьлед—найлепшы шлях да падвойнай ураджайнасьці". У гэтым артыкуле Чуйко ставіць вырашэньне пытаньня ўраджайнасьці ў залежнасьць ад капіталістычнага разьвіцьця вёскі і праводзіць такую думку, што пастаноўкай гэтага пытаньня, савецкая ўлада нічога новага ня ўносіць, а толькі ўлічвае тое, што даўно ўжо рабіў Чуйко з сваімі кулакамі-дасьледчыкамі... „Само па сабе,—кажа ён, -пытаньне падвышэньня ўраджайнасьці не зьяўляецца новым. Цэлымі стагодзьдзямі рад навуковых дасьледчых устаноў, буйныя колектывы (?) спэцыялістаў-агрономаў і самі сяляне працуюць над гэтым пытаньнем. У працы іх маецца шмат вялікіх дасягненьняў" (сельская і лясная гаспарарка за 1928 год, № 5-6, стар. 155). Кепска, па Чуйко, толькі тое, што гэтых дасягненьняў савецкая ўлада дагэтуль ня ўлічвала, што „пытаньне ураджайнасьці да гэтага часу ня ставілася, як шырокая проблема для ўсёй масы сялянскіх гаспадарак" і таму дасягненьні дасьледчых станцый, пакуль-што яшчэ часткова, выкарысталі толькі паасобныя сяляне—„сяляне-дасьледчыкі", як больш ініцыятыўныя сяляне, стаўшыя на шлях навуковага абгрунтаваньня сваіх гаспадарчых мерапрыемстваў".

У 1929 годзе Чуйко выдае „популярную" брошуру для „сялян" пад назваю: „Вынікі сялянскіх досьледаў над мінэральнымі ўгнаеньнямі", дзе вызначаныя раней кулацкія ідэі популярызуюцца на простай сялянскай мове. Брошура мае прадмову Прышчэпава і ў якасьці дадатку ўжо вядомае палажэньне аб інстытуце сялян-дасьледчыкаў,—гэты статут кулацкай організацыі, выпрацаваны Чуйко. Але кніжка яшчэ ня была выдадзена, як актыўнасьцю пролетарскіх і працоўных мас, накіраванай на разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва, была ўскрыта Прышчэпаўшчына. Чуйко не здаецца. Ён вырывае з сваёй брошуры прадмову Прышчэпава і палажэньне, а кніжка ўсё-ж пускаецца ў масы. Кніжка пасьпела амаль поўнасьцю разыйсьціся, пакуль шкоднасьць яе была ўскрыта поўнасьцю.

Ужо ў 1930 г. Чуйко выдае кнігу пад рэдакцыяй профэсара Віннэра: „Вынікі масавых досьледаў з угнаеньнямі на БССР". Пачынаючы з загалоўку да апошняй старонкі гэтай працы, Чуйко ў замаскаванай форме праводзіць варожую кулацкую ідэолёгію. „У задачы данай работы,—кажа Чуйко,—уваходзіла падагуліць вынікі масавых досьледаў толькі па пытаньнях угнаеньня глебы. Прычым у гэтай рабоце падагулены вынікі досьледаў, якія праводзіліся на мінэральных глебах. Вынікі-ж досьледаў па пытаньнях угнаеньня тарфяных глеб,

а таксама вынікі досьледаў па ўсіх астатніх разьдзелах програмы, могуць зьяўляцца тэмаю для самастойных работ, бо матар'ялаў для гэтага ёсьць дастаткова" (старонка 2). Досьледы, як бачыце, тыя-ж самыя, а зьменены толькі назвы з „сялянскіх" на „масавыя". Чуйко лічыць, што даволі і такой фальсыфікацыі, каб абыйсьці сваіх чытачоў. Больш таго, у падставу сваёй працы ён кладзе ў асноўным друкаваныя справаздачы былога бюро „сялян-дасьледчыкаў", так што фактычна ён перавыдае свае забароненыя працы, надаючы ім, як ужо зазначалася, больш замаскаваную форму. Па-ранейшаму, Чуйко лічыць заслугаю НДІ тое, што ён разгарнуў „масавыя досьледы" ў галіне сельскай гаспадаркі", бо гэтымі досьледамі ўпяршыню „была распачата навукова-дасьледчая работа па сельскай гаспадарцы непасрэдна на вытворчасьці" (стар. 3). Займаецца Чуйко і „самакрытыкай", характар якой можна бачыць з наступнага. Адзначыўшы, „што ў справе організацыі і правядзеньня масавых досьледаў былі зроблены палітычныя памылкі", якія заключаюцца ў тым, „што ў першыя гады работы зусім недастаткова зварачалася ўвага на правядзеньне масавых досьледаў у соцыялістычным сэктары; што гэтым была „паўторана памылка ўсёй навукова-дасьледчай справы па сельскай гаспадарцы, якая да самага апошняга часу орыентавалася на дробную-індывідуальную сялянскую гаспадарку"; што „НКЗ разам з НДІ імя Леніна выдалі палажэньне аб інстытуце „сялян-дасьледчыкаў"... з няправільнай, праваопортуністычнай устаноўкай", што давала магчымасьць у склад дасьледнікаў пралазіць кулацкаму элемэнту", — Чуйко заяўляе, што „зробленыя памылкі зараз усімі (?) ўсьвядомлены, катэгорычна асуджаны і выпраўляюцца" (?!) (стар. 4-5). Як бачым, уся контр-рэволюцыйная сыстэма нацыянал-дэмократызму, якая адбівалася ў працы з „сялянамі-дасьледчыкамі", зьведзена да „памылак", да таго, што гэтыя „памылкі" мелі месца толькі ў „першыя гады", што ў апошнія гады толькі „недастатковая ўвага была адведзена соцыялістычнаму сэктару"; што бюро „сялян-дасьледчыкаў" толькі „паўтарыла" агульныя „памылкі" ў дасьледчай справе, а памылкі дасьледчай справы зьведзены да „няправільных праваопортуністычных установак". Контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, па Чуйко, тут нават і ня пахне. Нарэшце, уласныя памылкі зводзяцца па сутнасьці да тых умоў, якія былі раней да палажэньня, якое было выдана „НКЗ разам з НДІ" (як-быццам у складаньні гэтага палажэньня Чуйко ня прымаў удзелу), так што „ў адзначаных памылках, — кажа Чуйко, — ёсьць, бязумоўна, і мая віна, паколькі мне даводзілася працаваць у гэтай галіне" (стар. 5-я).

На гэтым Чуйко ня спыняецца і праз некалькі старонак проста заяўляе, што „програма масавых досьледаў грунтавалася на асноўных задачах соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі" (стар. 11) і што, ня гледзячы на тое, што ўмовы працы з сялянамі-дасьледчыкамі былі даволі „няспрыяючымі", яму „ўсё-ж такі за мінулыя тры гады ўдалося правесьці значную колькасьць досьледаў" (стар. 12); што гэтыя досьледы „праведзены зусім здавальняюча, а іх масавасьць зьяўляецца гарантыяй правільнасьці... вынікаў". (стар. 16).

Мы далёка не пералічылі ўсіх варожых „навуковых" пэрлаў і яўных падтасовак Чуйко. Але сутнасьць іх адна—гэта популярызацыя яўна-кулацкай ідэолёгіі, адурачваньне чытача праз розныя выкрутасы, якія затушоўваюць контр-рэволюцыйную сутнасьць нацдэмаўшчыны ў аграрным пытаньні, даволі важнаю часткаю якой зьяўлялася праца з „сялянамі-дасьледчыкамі", якая праводзілася пад непасрэдным „ідэолёгічным навуковым і організацыйным кіраўніцтвам" Чуйко.

А. Акіншэвіч.

# Казацка-сялянскія войны на Беларусі ў XVII стал. у характарыстыцы акад. М. Грушэўскага.

Гісторыя Беларусі ў яе цяперашняй апрацоўцы мае надта многа недахопаў. Калі мы зьвернем увагу на дарэволюцыйную расійскую ці польскую гісторыографію і на тыя яе працы, што датычацца так званай „літоўска-рускай“, ці „заходня-рускай“ гісторыі, дык мы ўбачым, што найлепш апрацован пэрыод разьвіцьця фэўдальных адносін, т. зв. вялікага княства Літоўскага. Пры гэтым мы найбольш прац маем з галіны палітычнай гісторыі ці з галіны дзяржаўна-праўных адносін. Тлумачыць гэта прыходзіцца перш-на-перш, агульна-клясавымі позыцыямі адпаведных гісторыкаў і той палітычнай барацьбой за Беларусь у XIX ст., калі адпаведныя дасьледваньні, якія даводзілі або „искони русский“ або цалкам польскі характар вялікага княства Літоўскага, служылі адным з відаў зброі ў змаганьні расійскага і польскага вялікага землеўладаньня, расійскага і польскага прамысловых капіталаў.

Гісторыкі буржуазнай і буржуазна-вялікадзяржаўніцкай гісторыографіі таго часу менш за ўсё цікавіліся гісторыяй клясавай барацьбы на Беларусі.

З апошнім, сапраўды, справа была кепская. Гісторыя Беларусі ў яе дакастрычніцкія часы падавалася, як гісторыя народу, які, праўда, знаў соцыяльныя разгрупаваньні, але які ня знаў клясавага змаганьня. Малюнак амаль не зьмяніўся і па сёнешні дзень, бо група гістарычнай клясы Інбелкульту і стары інстытут гісторыі БАН—над гісторыяй класавай барацьбы амаль што не працавалі.

А тым часам цікава прасачыць адносіны паміж клясавымі групоўкамі ў розныя фазы гістарычнага процэсу Беларусі і іх клясавым змаганьнем у той час. Устаноўку на аднароднасьць беларускай нацыі трэба рашуча адкінуць. Мы ведаем цяпер, што за гэтай устаноўкай стаялі палітычныя тэндэнцыі беларускага нацыянал-дэмократызму. Нам трэба большую ўвагу зьвярнуць на тыя пэрыоды, якія раскрывалі малюнак клясавага змаганьня, даючы гэтым расстаноўку клясавых сіл у далёка неаднароднай беларускай нацыі.

Адным з гэтых пэрыодаў ёсьць пэрыод сялянскіх паўстаньняў на Беларусі ў часы Хмяльніччыны на Украіне. Гэты час амаль зусім не ахарактарызаваны. А тым часам мы цяпер, як гэта робіць, скажам, сучасная расійская марксыцка-ленінская гісторыографія, якая ў апошні час дае цэлы шэраг работ пра сялянскі рух і паўстаньні падчас фэў-

дальнай грамадзкай формацыі,—ня можам ім ня цікавіцца. Мы ня можам забыць слоў Энгельса пра сялянскія войны XVI ст. ў Германіі: „З таго часу прайшло тры стагодзьдзі, і шмат што зьмянілася; і ўсё-ж сялянская вайна зусім не такая далёкая ад сучаснай барацьбы, і праціўнікі, з якімі прыходзіцца змагацца, большаю часткай засталіся тымі самымі. Тыя клясы і часткі клясаў, якія ўсюды здраджвалі рэволюцыі ў 1848 г. і 1849 г., мы спатыкаем як здраднікаў ужо ў 1525 г., хоць і на ніжэйшай ступені разьвіцьця“. Ад таго часу, калі Энгельс пісаў гэтыя радкі, прайшло каля 80 гадоў, і зноў шмат што зьмянілася; нам амаль ня прыходзіцца гаварыць пра тыя клясы і часткі клясаў, якія здраджвалі сялянскім паўстаньням на Беларусі і ў XVII ст.; але нельга сказаць, што яны зусім зышлі з арэны беларускай гісторыі. Вось-жа на тэрыторыі Заходняй Беларусі рэшткі фэўдальных клясаў—яшчэ дзейны фактар гістарычнага процэсу і клясавай барацьбы.

Апошняя вялікая кніга акад. М. С. Грушэўскага „Історія Україні-Русі“—частка 2-я, IX-га тому—гаворыць пра 1653—1657 гады ў гісторыі Украіны. Кніга гэтая мела быць вельмі цікавай і для беларускай гісторыі, затым што яна гаворыць пра падзеі гэтых-жа часоў на Беларусі, паколькі ў іх значны ўдзель прымала украінскае казацтва.

Перад тым, як гаварыць пра малюнак і характарыстыку гэтых падзей у М. Грушэўскага, трэба два словы сказаць пра агульны характар гэтай кнігі, хоць пры гэтым я тут-жа адзначаю, што яе агульная ацэнка не ўваходзіць у заданьне маёй заметкі. Вялікі том М. Грушэўскага амаль выключна прысьвечаны ваеннай і палітычнай гісторыі гэтага часу, прычым і палітычная гісторыя ўзята перад усім у аспэкце дыплёматычных зносін і адносін. Агульнай характарыстыцы рэволюцыйнага часу сялянска-казацкай вайны на Украіне прысьвечана можа толькі дваццатая частка кнігі. Пры гэтым і тут галоўная ўвага аддаецца асабістай характарыстыцы правадыроў Хмяльніччыны. Экономічная характарыстыка Украіны тых часоў у кнізе амаль зусім адсутнічае, і малюнку клясавых змаганьняў амаль не дано. Для чытача нашага часу—я дазволю сабе вобразнае параўнаньне—кніга гэта сваёй формай і зьместам нагадвае старамодную рэч, на аправу якой патрачана шмат матар'ялу і шмат працы, але якая мала гармонуе з стылем нашага часу, з яго шырокімі размахамі простых і выразных ліній. У даным разе мне важна гэта занатаваць, каб аб'яcьніць тое, што, наогул шмат месца адводзячы падзеям на Беларусі, акад. Грушэўскі зусім не дае іх ацэнкі і характарыстыкі ў агульных сваіх вывадах пра рух Хмяльніччыны, і гэтыя ацэнкі і погляды яго трэба шукаць у нешматлікіх комэнтарах да асобных, да конкрэтных падзей і фактаў.

Клясавую барацьбу на Беларусі аўтар не прасочвае спэцыяльна, а калі мы ўсё-такі маем некаторыя вельмі цікавыя і прытым новыя даныя пра яе, то гэта перш-на-перш таму, што сялянскі рух на Беларусі служыў некалькі тэмай дыплёматычных перагавораў расійскай ўлады з украінскай.

Вельмі цікавымі для нас тут зьяўляюцца факты, якія адносяцца да 1656 г., да падзей у паўночнай Магілеўшчыне. Фэўдальны расійскі ўрад вельмі клапаціўся, каб захаваць на Беларусі старыя соцыяльныя адносіны. Яго стаўка была накіравана на беларускую праваслаўную шляхту і заможную частку беларускага мяшчанства. Украінская казацкая ўлада, якую рэпрэзэнтаваў залежны ад Хмяльніцкага „беларускі“ чавускі палкоўнік Нячай, у свае рады набірала сялян. У красавіку 1656 г. пасольства „дьяка“ Лапухіна перад гетманам Багданам Хмяльніцкім спэцыяльна ставіла пытаньне, каб на Беларусі „черкасы“

(тагочасная расійская назва украінцаў) „деревенских мужиков не подговаривали и в черкасское войско не принимали, а которые ныне мужики к черкасам пристали, и тем-бы велели жить в деревнях на пашне попрежнему“ (стар. 1203). Вярбоўка сялян у казацтва праходзіла ў гэты час у Горацкім, Аршанскім, Дубровенскім ды Мсьціслаўскім паветах. Маскоўскі ўрад выступаў у ролі „абаронцы“ сялян ад казацкіх крыўд. Але справа была ня ў гэтым. Справа была ў тым соцыяльным руху, які яшчэ ў 1654 годзе асьвятліў свой шлях пажарамі шляхецкіх маёнткаў. І на гэта выразна ўказвае палкоўнік Нячай, адказваючы аднаму з расійскіх пасланцоў: „Добра агонь гасіць, пакуль полымя не разгарыцца, а калі агонь разгарыцца, тады гасіць ужо цяжка!“ (стар. 1214).

Што пажар быў сапраўды—даводзяць факты лета 1656 г. На гэты раз яны былі ў Менскім павеце. Сюды прышоў аддзел беларускіх казакаў Нячая, якія гвалтам запісвалі ў казацтва шляхту і другое насельніцтва. Пры гэтым мы бачым факты разгортваньня яскравай клясавай барацьбы: сяляне пачалі біць і рабаваць шляхту. Частку з іх шляхта злавіла і перадала расійскаму Менскаму ваяводзе. „Тыя мужыкі на дапросе сказалі ваяводзе, што яны шляхту б‘юць і рабуюць з наказу Нячаевага—намесьніка палкоўніка Філімона, а Філімон сваім казаком і „уездным людзям“ (сялянам) кажа, што робіць ён гэта па царскаму наказу (стар. 1257). Расійскі ўрад шмат разоў вымагае, каб Нячай забараніў беларускім сялянам „шишевать“ (тагочаснае расійскае слова „шиш“ азначала разбойніка, а таксама — партызана) „затым, што ад іх ідзе вялікая сора і смута“ (стар. 1258). Унівэрсалы [1]) Нячая ў чэрвені 1656 г., якія прыводзіць М. Грушэўскі, гавораць аб тым, што ён імкнуўся выступаць у ролі абаронцы сялянства: „Пасылаю ў вёску Жалівая таварыша майго імем Якуба Харытонавіча, каб ён сачыў, каб бедным сялянам ня было крыўды“; „пасылаю таварыша майго, імем Андрэя Пятровіча Качаноўскага, для росшуку свавольных людзей і атрадаў па розных вёсках, ад якіх убогім сялянам крыўда была“... (стар. 1258).

Новыя докумэнты, якія цяпер прыводзіць акад. Грушэўскі, даюць малюнак адносін да казацка-сялянскага руху і гарадзкога жыхарства Беларусі. З некаторых з іх відаць адмоўныя адносіны. Так, у лютым 1656 г. жыхары Горы-Горак скардзіліся на цяжкасьці і на рабункі ад новага казацтва з ваколічных вёсак (стар. 1202). У сакавіку таго-ж году Магілеўскія мяшчане скардзіліся расійскаму ўраду, што сяляне прыпісаных да гораду вёсак запісаліся ў казацтва, што казакі хочуць у Лупалаве стварыць „другі Магілеў“, а з таго будзе магілеўскім жахаром цяснота і ўпадак“ (стар. 1267). У чэрвені 1656 г. царскі пасланец Багданаў бачыў новых казакаў у Горках. Над імі сотнікам быў тутэйшы мешчанін Андронік Качаноўскі, які набраў у сваю сотню шмат мяшчан і сялян. Частка мясцовага мяшчанства скардзілася, што гэты сотнік абкладае іх рознымі цяжарамі, што яны запусьцілі праз гэта ўсе промыслы і гаспадаркі, што добра было-б, каб казаком было забаронена заяжджаць у іх места.

Трэба думаць, што мы маем справу з неаднолькавымі адносінамі ў шэрагах мяшчанства да сялянскага руху. У гэтых мяшчанах з Горак, якія баяцца, каб не падупалі іх промыслы і гаспадаркі, лёгка прашчупаць гарадзкі гандлёвы капітал, тое гарадзкое бюргерства, пра якое пісаў Энгельс, адзначаючы адмоўныя адносіны яго да нямецкіх

---

[1]) Унівэрсал—загад для агульнага выкананьня.

сялянскіх войн XVI ст. Наадварот, гарадзкое „плебейства“, па выразу Энгельса, сялянскія рухі ў Германіі падтрымлівала. З гэтых-жа колаў гарадзкога „плебейства“ мелі папаўняцца і шэрагі беларускіх сялян-казакаў, якія выступалі супроць шляхты. Мы бачым, што ў Горках частка мяшчанства ўступіла ў казацтва. Таксама было і ў Магілеве. А пры самым Нячаі ў Чавусах царскі пасланец Багданаў бачыць „бунтароў, якія ва ўсякіх справах яму прытакуюць і яго пакрываюць: войта [1]) Амелька Шаравару, дарадцу Мацея Мацка, мешчаніна Карнея Драла,—цяпер гэтага Карнея зрабіў ён казацкім сотнікам“ (стар. 1258).

Такія малюнкі клясавых адносін і клясавага змаганьня можна пабачыць у новых матар'ялах, якія дае кніга М. Грушэўскага. Сам аўтар і прыходзіць перш-на-перш паводле свайго спосабу даваць у працы вялікія вынятκі з архіўных крыніц. Яго ўвага, як дасьледчыка, на гэтых фактах зусім ня спыняецца, яна ўся прысьвечана палітычным пытаньням. Як-жа вырашае ён пытаньне аб палітыцы украінскага ўраду Хмяльніччыны адносна Беларускай тэрыторыі і адносна руху паўстаўшага супроць сваіх паноў сялянства? Другая частка пытаньня для аўтара ня існуе; яго цікавіць беларуская тэрыторыя, як об'ект палітыкі украінскай старшыны [2]). Гэта ўжо надта вузкая пастаноўка пытаньня, але і яе ці правільна ацэньвае М. С. Грушэўскі?

Ацэнку гэтай палітыкі ён дае толькі адну: з пункту погляду, адпаведнасьці ці неадпаведнасьці яе інтарэсам украінскай старшыны-якая ў гэты час канца Хмяльніччыны кіравала украінскім казацка, сялянскім рухам. Правадыра лініі украінскага старшынскага кола-якое кіравала палітыкай гэтага руху на Беларусі, намесьніка гетмана Івана Залатарэнка аўтар лічыць выдатным палітыкам і стратэгам, які „таленавіта, тактычна і імпозантна рэпрэзэнтаваў Казаччыну на паўночным фронце“ (стар. 1158). Яго настаўнік Іван Нячай ня быў такі здольны. „Калі-б Залатарэнка быў жывы, мусіць шмат што пайшло-б інакш“ (стар. 1159 гл. таксама стар. 1389). Асноўным заданьнем моманту для украінскай казацка-сялянскай рэволюцыі паводле аўтара было „балянсаваць паміж Масквой і Польшчай і выгандлёўваць пэўныя палітычныя концэсіі і ад Масквы і ад Польшчы. Мусіць толькі гэтым шляхам можна было здабыць пашырэньне казацкай тэрыторыі на захад і поўнач“... (стар. 1218). Такім чынам, асноўнае не ў дапамозе суседняму рэволюцыйнаму сялянскаму руху, а ў окупацыі, далучэньні новых краін. І ў іншых мясцох кнігі аўтар прыхільна трактуе пра „беларускую займаншчыну“ пра пляны пашырэньня, далучэньня да Украіны беларускай тэрыторыі (стар. 1168-1169), пра акцыю, якая мусіла ісьці ў паўночных беларускіх анэксах, у сувязі з агульнымі задачамі новай украінска-швэдзка-сяміградзкай лігі. Казаччына пашырала сваю тэрыторыю, узмацняла яе сваімі атрадамі, воляй і няволяй пераводзіла мясцовую баяздольную люднасьць у казацтва, пераводзіла пад свой протэкторат шляхту і гарады і пры першай магчымасьці рыхтавалася „выпалашыць“ адсюль Маскву, з яе прэтэнзіямі, таксама як і Польшчу, і ператварыць усё у замкнёную казацкую маемасьць, апёртую на Карпаты і Бальтыку, спалучыць з новымі саюзнымі дзяржавамі.—Швэціяй і Прусіяй“ (стар. 1275).

Так аўтар малюе пляны украінскай старшынскай рады пры Багдане Хмяльніцкім. З пункту погляду інтарэсаў украінскай старшынскай клясы—будучага украінскага дваранства—аўтар іх, магчыма,

---

[1]) Войт—начальнік гораду.
[2]) Старшына—рада старшынь пры гетмане.

правільна намеціў. Але—зусім не растлумачыў. Яму было патрэбна іншае: паколькі ён кажа пра гэтыя пляны з прыхільнасьцю, ён адчувае патрэбу ня тлумачыць іх, а—*апраўдваць*. Вось-жа піша ён, што ў тыя часы „Малая і Белая Русь яшчэ не выкарыстоўваліся ў тым этнографічным значэньні, якое мелі пазьней, у XVIII-XIX ст. Тэрмін „Малой Русі“ зусім добра мог пакрываць і беларускія землі“. (стар. 1113).

Ня будзем тут весьці „нацыяналістычную“ спрэчку з акад. Грушэўскім пра тое, ці была ўжо ў XVII ст. беларуская нацыя, асобная ад украінскай. Важна зусім ня гэта. Важна тут адзначыць вельмі пікантны факт, што ў сваёй кнізе, дзе ён цалкам стаіць на поглядах украінскага нацыяналізму, дзе ён заўзята адстойвае поўную асобнасьць украінскай нацыі (і нават яе перавагі над іншыі—узяць хоць-бы цытаты з Паўла Аленскага), дзе ён большасьць старонак прысьвеціў малюнкам барацьбы за украінскую дзяржаву (зусім сказіўшы гэтым характар сапраўднага руху украінскага казацтва-сялянства, як руху клясавага),—аўтар адразу-ж кідае гэтыя свае позыцыі, калі гутарка ідзе пра народ, які будучае укаінскае шляхецтва хацела „далучыць“ да Украіны. У гэтым сумным факце—сапраўды твар кожнага нацыяналізму, які прызнае вызваленчую барацьбу толькі для сваёй нацыі, а іншыя лічыць об‘ектам для яе заваёўчай політыкі.

Акад. Грушэўскі амаль зусім ня піша пра экономічныя адносіны, сытуацыю і пляны на Украіне XVII ст. Ясна, наколькі адмоўна гэта адбіваецца на яго кнізе. Для нас тут важна сказаць, што экономічнага тлумачэньня казацкага паходу на Беларусь аўтар таксама не дае. А тым часам у яго-ж кнізе ёсьць матар‘ял, які дае мажлівасьць для шмат якіх назіраньняў ды вывадаў. Гэта — тады, калі ён прыводзіць унівэрсал Б. Хмяльніцкага пра ўстанаўленьне „вольнага порту“ у Старым Быхаве, пра дазвол украінскаму гандлёваму капіталу „вгору люба самім ісьці, люба сваіх фактараў пасылаць да Быхава (дзе часам атрады нашы стаяць), з усялякімі легумінамі[1]) і гандлёвымі рэчамі сухім шляхам і вадой, як хто можа“. Роль і значэньне гандлёва-украінскага капіталу ў сялянскіх войнах Хмяльніччыны аўтар зусім не характарызуе (самага тэрміну „гандлёвы капітал“ ён ня ведае і ня ўжывае). А тым часам трэба думаць, што гэта роль была не апошняя і што за плянамі політычнай экспансіі на Беларусь стаялі перш за ўсё гандлёвыя пляны працярэбліваньня шляхоў да Балтыцкага мора. А яшчэ больш цікавымі стануць гэтыя пляны, калі іх параўнаць з проектам умовы швэдаў з Украінаю, апрацаваным швэдзкай стараною. Швэдзкі кароль вельмі клапоціцца аб тым, каб „каралям і чаўном каралеўскім на Дняпры і за Дняпром ніякіх завад не рабіць—казакі ўсюды маюць даваць ім дарогу і дазваляць купляць запасы“; каб ставіць „магазыны“ па берагох Дняпра, каб быў на гэтых берагох вольны гандаль для швэдаў (стар. 1291-1292). Сялянскія паўстаньні на Беларусі іншыя сілы рыхтаваліся скарыстаць для гандлёвага шляху з „вараг у грэкі“, ад Чорнага мора да Балтыкі.

Я спыніўся толькі на адным баку вялікай кнігі акад. Грушэўскага, на хрaктарыстыцы падзей сялянскіх рухаў на Беларусі.

З гэтага боку трэба даць цалкам адмоўную ацэнку кнізе. Сялянскіх рухаў у ёй па сутнасьці няма, і даныя пра іх мы прымушаны выбіраць з сырых крыніц дыплёматычнай перапіскі, якую прыводзіць

[1]) Легуміны—харчовыя продукты.

аўтар, якая самога аўтара цікавіць толькі, як дыплёматычная перапіска. Яго прыхільнасьць да плянаў заваёўчай політыкі украінскай старшыны і гандлёвага капіталу прымушае яго стаць на шлях апраўданьня гэтых плянаў. Экономічнай стараны пытаньня ён зусім не дае.

Адсюль вывад толькі адзін, што ў адносінах сялянскіх рухаў на Беларусі кніга М. Грушэўскага не дае амаль нічога дадатнага, затое адмоўных бакоў яна мае ня мала.

Трэба сказаць, што гэтыя адмоўныя бакі цалкам адказваюць агульным концэпцыям і клясавым позыцыям аўтара „Історіі Украіни-Руси“.

---

С. П. Нікіфаровіч.

# Організацыя юнатаўскай работы ў піонэратрадах.

Гісторыя разьвіцьця юнатаўскага руху ў СССР зьвязана з дзейнасьцю Цэнтральнай Біолёгічнай Станцыі імя Ціміразева ў Маскве, якая была ўтворана ў 1919 г.

Біостанцыя ставіла сваёй мэтай узброіць юната мэтодам непасрэднага дасьледваньня наўкольнай прыроды для перабудовы і зьмены яе ў сувязі з социялістычным будаўніцтвам; дасьледваньня і вывучэньня прыроды не як самамэты, а як сродку к разьвязваньню гэтай асноўнай задачы.

Эпоха будаўніцтва соцыялізму патрабуе выхаваньня не „натураліста наогул“, а натураліста-дыялектыка, грамадзкага дзеяча, які ясна ўяўляе сабе сяброў і ворагаў у прыродзе, натураліста-ваяўнічага, які актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве новага жыцьця.

Выходзячы з такой установкі, Біостанцыя лічыла, што кожны юнатаўскі гурток павінен зьвязаць сваю работу з запатрабаваньнямі і запытаньнямі наўкольнага жыцьця, уключыцца ў вялізарную творчую работу па соцыялістычнаму будаўніцтву.

Лепшай формай актыўнага ўдзелу гуртка ў нашым будаўніцтве можа быць грамадзка-карысная праца. У адным з сваіх артыкулаў (часоп. „Лісткі Біостанцыі“ № 1, 1926 г.) кіраўнік Біостанцыі т. Всесвятскі выказвае такі погляд на грамадзка-карысную працу. — „Неабходна помніць, што ўсякая грамадзка-карысная работа павінна сапраўды выцякаць з жыцьцёвых запатрабаваньняў працоўнага насельніцтва мясцовага краю, павінна зьявіцца сапраўды карыснай, а ня штучна выдуманай. Выявіць такую работу можна толькі шляхам дакладнага вывучэньня свайго краю, яго дасьледваньня. Няправы тыя таварышы, якія падыходзяць да грамадзка-карыснай працы павярхоўна, кідаюць лёзунгі грамадзка-карыснай работы без выяўленьня яе зьместу, здавальняючыся толькі тым, што дзеці актыўна ўдзельнічаюць у жыцьці і вядуць грамадка-карысную працу. З нашага пункту гледжаньня гэтага мала. Дасьледуй і перабудоўвай—вось наш лёзунг. Толькі ў сынтэзе гэтых двух момантаў мы пераможам усе цяжкасьці на шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Але і гэтых патрабаваньняў да грамадзка-карыснай працы яшчэ далёка недастаткова. Яна павінна быць пасільнай, зразумелай і цікавай для дзяцей. Такім чынам, яна павінна быць карыснай для саміх дзяцей—удзельнікаў працы. Дзеці не павінны заставацца на ролі толькі тэхнічных выканаўцаў, быць дармовай рабочай сілай. Яны павінны быць у поўным сэнсе актыўнымі ўдзельнікамі: зацікаўленасьць, ініцыятыва, самастойнасьць у выка-

наньні заданьня, усьведамленьне важнасьці мэты, яснае разуменьне асобных прыёмаў работы і ўсяго процэсу ў цэлым—усё гэта павінна знайсьці выяўленьне ў удзельнікаў работы".

Выказаныя т. Всесвятскім думкі даюць пэўную і ясна акрэсьленую ўстаноўку на грамадзка-карысную працу. Гэта значыць, што на даным этапе ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну актыўная работа па социялістычнаму разьвіцьцю народнае гаспадаркі павінна быць асноўнай у пляне гуртка. Тут маецца рад актыўных проблем, якія могуць даць матар'ял для юнатаўскай працы, напр., соцыялістычная рэконструкцыя і інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі, рацыяналізацыя гаспадаркі ў галіне скарыстаньня прыродных багацьцяў, падлік прыродных рэсурсаў у галіне нетраў (карысныя выкапні) і запасаў энэргіі (торф), індустрыяльная сыравіна і інш.

Асабліва шырокія пэрспэктывы адчыняюцца перад гуртком у галіне сельскай гаспадаркі. Барацьба за падняцьце ўраджайнасьці, за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі павінна быць стрыжнем усяе работы сельска-гаспадарчых гурткоў, якія разглядаюцца, як асноўны вясковы тып гурткоў юнатаў. Сельска-гаспадарчыя гурткі на вытворчай спробна-дасьледчай і грамадзка-карыснай працы падрыхтоўваюць новага чалавека вёскі, дасьледчыка, колектывіста, здольнага працаваць над соцыялістычнай перабудовай вёскі. Месцам практычнай працы гуртка павінны быць колектыўныя вучасткі пры колгасах, саўгасах, школах.

Конкрэтнымі тэмамі ў галіне падняцьця ўраджайнасьці прыкладна могуць быць наступныя: 1) Вывучэньне мясцовага пасеўнага матар'ялу, работа па яго палепшаньню (ачыстка, сартаваньне, пратручваньне, азначэньне % усходнасьці і інш.), 2) Вывучэньне і распаўсюджаньне палепшаных гатункаў і новых культур, 3) Досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі, вапнаваньне глебы, рацыянальнае скарыстоўваньне гною, попелу і інш.

Вялікую шкоду нашым палём прыносіць living рознае пустазельле. Так, па статыстычных вестках у даваенны час недабор збожжа, дзякуючы пустазельлю, вызначаўся ў наступных лічбах:

па жыту — 156 млн. цэнтнэраў
па аўсу — 71,5 „ „

Усяго па гэтых дзьвюх культурах недабор склаў 227,5 млн. цэнт. Гэтыя лічбы красамоўна гавараць аб тым, што барацьбу з пустазельлем у колгасах, саўгасах і аднаасобных гаспадарках трэба паставіць ва ўсю шырыню. Гурткі юнатаў павінны прысьці на дапамогу ў барацьбе з пустазельлем. Дасьледваньне засьмечанасьці нашых палёў, вывучэньне біолёгічных асаблівасьцяй паасобных відаў пустазельля, вызначэньне практычных мерапрыемстваў па зьнішчэньню пустазельля, збор гербарыя мясцовага пустазельля—усё гэта вельмі ўдзячная і карысная работа па падняцьцю ўраджайнасьці.

Апрача пустазельля, ураджайнасьць палёў, садоў і гародаў значна зьніжаецца таксама рознымі шкоднікамі (асабліва шасьціножкамі), ад якіх наша дзяржава нясе мільённыя страты. Так, у 1922 г. па ўсёй БССР былі значна пашкоджаны пасевы ільну і гародных культур вусенем матыля Соўкі-гамы. Па прыблізнаму падліку ад яго загінула каля 10 тысяч га пасеву.

Работу па організацыі барацьбы з шкоднікамі можна праводзіць па наступнаму пляну.

1. Дасьледчым шляхам вывучаецца жыцьцё шкодніка, яго мэтаморфоз, шкода, якую ён прыносіць, стадыі разьвіцьця, калі барацьба з шкоднікамі можа даць найбольшую эфэктыўнасьць. На падставе самастойна дабытых фактаў даецца характарыстыка экономічнага значэньня данага шкодніка.

2. Гурток зьвязваецца з мясцовай станцыяй аховы расьлін (Стахра) ці агрономам. Намячаецца конкрэтны плян барацьбы, знаёмства з хэмічнымі і мэханічнымі спосабамі барацьбы.

3. Праводзіцца шырокая популярызацыйная работа аб шкодніках сельскай гаспадаркі сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў шляхам чыткі дакладаў, разьвешваньня плякатаў, лёзунгаў і інш.

4. Масавая грамадзкая кампанія па зьнішчэньню шкоднікаў з удзелам юнатаў, школьнікаў, колгасьнікаў.

У залежнасьці ад раёну, значнае месца ў працы юнатаўскіх гурткоў павінна быць адведзена інтэнсыўным галінам сельскай гаспадаркі: гародніцтву, садоўніцтву, птушкаводзтву, трусаводзтву, малочнаму жывёлаводзтву і зьвязанаму з апошнім кармавому пытаньню (культура караньплодаў, палявых і лугавых траў і інш.).

Адносна птушкаводзтва трэба зазначыць, што гэта галіна сельскай гаспадаркі зьяўляецца пакуль што мала разьвітай, ня гледзячы на тое, што продукты яе ў даваенны час займалі ў нашым экспорце трэцяе месца пасьля збожжа і лесу. У 1913 г. было экспартавана продуктаў птушніцтва на 108 мільёнаў руб. Амэрыканцы шляхам падліку і адбору дасяглі таго, што ў іх курыца ўсярэднім нясе 200 яек у год. Асобныя куры даюць нават да 300 яек і больш, гэта значаць нясуцца штодня. Цікава зазначыць, што курыца, па вылічэньню практыкаў, акупае сваё ўтрыманьне пры продукцыйнасьці ў 60—80 яек на год. Рэшта яек складае чысты прыбытак у гаспадарцы. У нас-жа сярэдняя носкасьць курыцы 60—70 яек і, такім чынам, наша курыца ня прыносіць даходу. Вось чаму неабходна ў першую чаргу заняцца падборам кур па продукцыйнасьці, палепшыць іх умовы ўтрыманьня шляхам правільнага харчаваньня, пабудовы адпаведных памяшканьняў і г. д. Гэту работу таксама маглі-б з посьпехам правесьці юнаты.

У справе падняцьця ўраджайнасьці вялікае значэньне мае пытаньне аховы і прываблiваньня карысных птушак у нашы сады, паркі і гароды. Мы ведаем, з якой зацікаўленасьцю адносяцца дзеці да птушак, як блішчаць іх вочы, калі ўбачаць якую-небудзь птушку, і ў той-жа час бывае, што яны (асабліва хлопчыкі) страляюць у птушак з рагатак, кідаюць каменьнем, разбураюць гнёзды. Патрэбна адпаведнай работай пераключыць паляўнічыя інстынкты дзяцей на шлях аховы птушак. Працу неабходна праводзіць пад лёзунгам, што птушкі—лепшыя сябры ў барацьбе з ворагамі сельскай гаспадаркі, што яны прыносяць чалавеку вялізарную карысьць. Пажадана, каб юнаты шляхам непасрэднага дасьледваньня на конкрэтных прыкладах пераканаліся ў гэтым. Лепшым спосабам такога дасьледваньня будуць экскурсіі, сталыя назіраньні за жыцьцём птушак ва ўсе поры году, масавыя організацыі „дня птушкі“, у часе якога дзеці разьвешваюць шпакоўніцы, дуплянкі. У зімовы час можна організаваць падкормку птушак. Каля кармушак досыць лёгка вывучаць афарбоўку птушак, іх паводзіны, крыкі; прасачыць, куды яны зьбіраюцца на начлег. У далейшай працы па вывучэньню птушак гурток можа ўключыць і такі момант, як кальцаваньне. Назіраньні над птушкамі маюць таксама значную пэдагогічную вартасьць. У дзяцей разьвіваюцца органы слуху, зроку; выпрацоўваюцца назіральнасьць і дасьледчыя

здольнасьці. Вывучэньне жыцьця птушкі разьвівае дапытлівасьць, актыўнасьць, цікавасьць да акружаючага. Дзеці прывыкаюць самастойна шукаць адказы на ўзьнікаючыя пытаньні. Своеасаблівае жыцьцё пярнатай арміі з яе прыемнымі мілагучнымі песьнямі сярод зялёных лясоў і палёў дае шмат эмоцыянальных перажываньняў. У сучаснай піонэрскай літаратуры пытаньню аховы птушак адводзіцца віднае месца. Так, у невялічкай кніжцы „К работе по-новому“, выдадзен. ЦБ Юных піонэраў пры ЦК ВЛКСМ, у разьдзеле IV сказана, што „піонэры павінны ўмець рабіць кармушкі для падкормкі птушак, ведаць на што патрэбна ахова і прываблiваньне птушак, якое значэньне мае кальцаваньне. Умець адрозьніваць па песьні і афарбоўцы птушак, якія найбольш часта сустракаюцца ў даным раёне“.

У працу юнатаўскіх гурткоў неабходна ўключыць таксама агульна-натуралістычныя тэмы. На некаторых з іх мы застановімся.

Праводзячы барацьбу з шкоднікамі сельскай гаспадаркі, ня трэба забываць пра шкоднікаў нашага быту—клапоў, тараканаў, мух і інш.

Краіна Саветаў вышла пераможцай у барацьбе з буйнымі паразытамі-капіталістамі. Задача юных натуралістаў дапамагчы вызваліцца ад спадчыны старога някультурнага быту, ад дробных, але шматлікіх паразытаў, якія зьяўляюцца носьбітамі і пашыральнікамі розных заразных хвароб сярод працоўных і якія тым самым наносяць вялікую шкоду нашай народнай гаспадарцы.

На першым месцы па колькасьці і распаўсюджанасьці стаяць мухі, клапы, тараканы, а потым ідуць вошы і блохі. Распаўсюджаньне такіх заразных хвароб, як брушны тыфус, крываўка, халера, сухоты, дыфтэрыт знаходзяцца ў простай сувязі з масавым зьяўленьнем мух.

Клапы таксама зьяўляюцца пераносчыкамі заразы зваротнага тыфусу, сухот, чумы і інш. хвароб. Асабліва шкодны яны ў часе эпідэмій, калі перасяляюцца з аднаго памяшканьня ў другое.

Распаўсюджваючыся па вагонах чыгунак, гасьцініцах, агульных памяшканьнях, яны парушаюць начны спакой, смокчуць кроў чалавека, а гэта вядзе да разладзьдзя яго здароўя.

Работа юнатаў па барацьбе з паразытамі чалавечага жыцьця павінна зьявіцца ўдарнай. Такая работа будзе сапраўдным культурным паходам за аздараўленьне нашых памяшканьняў, нашага быту.

Таксама можна раіць юнатаўскім гуртком уключыць у плян сваёй працы організацыю мэтэоролёгічных і фэнолёгічных назіраньняў.

Ураджаі нашых палёў у значнай ступені залежаць ад такога фактара, як пагода. У свой час выпаўшы дождж увесну ці ў пачатку лета абумоўлівае добры ўраджай, а працяжныя сухмені губяць усе надзеі селяніна і адмоўна адбіваюцца на каштарысе дзяржавы.

Вось чаму патрэбна зацікавіць юнатаў мэтэоролёгічнымі назіраньнямі, навучыць іх прадказваць пагоду наступнага дня па мясцовых адзнаках.

Для таго, каб мэтэоролёгічныя назіраньні лягчэй увязаць з сельска-гаспадарчымі, неабходна ўключыць сюды фэнолёгічныя назіраньні. Толькі ўвязаўшы назіраньні над пагодай з назіраньнямі над акаляючай, пераважна жывой прыродай (фэнолёгічныя назіраньні) і супаставіўшы іх з сельска-гаспадарчымі работамі можна ўлавіць залежнасьць апошніх ад пагоды і разам з гэтым вызначыць найбольш спрыяючыя для іх моманты. Агульны напрамак мэтэоролёгічных і фэнолёгічных назіраньняў павінен пайсьці па лініі ўтварэньня мясцовага календара прыроды і сельска-гаспадарчых работ.

Толькі маючы такі каляндар, мы зможам выкінуць з абіходу селяніна каляндар царкоўны.

У працоўнага сялянства вякамі накапілася шмат розных прымет. Сярод іх знаходзяцца і такія, якія могуць быць карысны пры складаньні календара прыроды, напрыклад, прыметы на час апрацоўкі глебы, сяўбы, росту расьлін, характару ўраджаю і інш. Але разам з гэтым у яго маецца шмат прымет рэлігійнага, мэтафізычнага парадку. Задача юнатаў сабраць усе гэтыя прыметы і папрабаваць іх праверыць, каб такім чынам аддзяліць прыметы, маючыя навуковую падставу ад прымет забабонных.

Усё гэта гаворыць за тое, што мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні зьяўляюцца надзвычайна каштоўнымі як у грамадзка-карысным значэньні, так і ў сэнсе выпрацоўкі марксыцка-дыялектычнага сьветапогляду ў падрастаючага пакаленьня.

Пералічаныя вышэй тэмы далёка ня вычэрпваюць усяго зьместу працы юнатаўскага гуртка. Можна было-б прывесьці яшчэ шмат другіх тэм, як, напрыклад, дзень лесу, аховы прыроды, барацьба з малярыйным камаром і інш., але па ўсіх гэтых пытаньнях маецца багатая літаратура і жадаючыя могуць яе скарыстаць.

У заключэньне трэба сказаць, што масавае разгортваньне юнатаўскага руху на абшарах СССР абавязана вялізарнай арганізацыйнай і мэтодычнай працы, якую прарабіла Маскоўская Біостанцыя Юных Натуралістаў. Праз свой часопіс „Лісткі Біостанцыі“ яна прасоўвала ў юнатаўскія гурткі ідэю грамадзка-карыснай працы і заклікала маладых натуралістаў да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве соцыялізму ў нашай краіне.

Пастановай ЦК ВЛКСМ ад 17 красавіка 1930 г. Цэнтральнае Бюро Юных Натуралістаў зьліта з цэнтральнай дасьледчай сельска-гаспадарчай станцыяй пры ЦК ЛКСМ.

У гэтай пастанове ЦК Комсамолу адзначае, што „гурткі юнатаў ператварыліся ў баявыя організацыі, якія садзейнічаюць разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. У асобе юнатаў Комсамол мае актыўнага памоцніка на фронце барацьбы за ўраджай, за колектывізацыю. Каштоўнасьць юнатаўскіх гурткоў заключаюцца ня толькі ў іх практычнай рабоце па барацьбе за ўраджай і колектывізацыю. Разгортваючы сваю грамадка-карысную работу на спробна-дасьледчай базе, вывучаючы рухаючыя сілы прыроды, юнатаўскія гурткі пры правільнай пастаноўцы справы садзейнічаюць выпрацоўцы матар'яльнага сьветапогляду і такім чынам набываюць вялікае выхаваўчае значэньне“.

Далей ЦК зазначае, што ў некаторых мясцовасьцях назіраюцца ліквідатарскія настроі да юнатаўскіх гурткоў. „Не ліквідацыя юнатаўскага руху, а далейшае, больш організаванае пераключэньне яго на барацьбу за ўраджай і колектывізацыю. Мясцовыя камітэты ЛКСМ павінны рэорганізаваць існуючыя Бюро юнатаў у станцыі па сельска-гаспадарчай рабоце. Кіраўніцтва гурткамі юнатаў малодшага (піонэскага) ўзросту, перадаць дзіцячым с-гасп. станцыям. Кіруючы дасьледчым рухам дзяцей і моладзі ў саўгасах і колгасах, станцыі павінны забясьпечыць кіраўніцтвам юнатаўскія гурткі з тым, каб тэмпы росту і разьвіцьця гэтых гурткоў значна перавышалі тэмпы іх росту ў папярэднія гады“.

Як-жа стаіць справа з юнатаўскім рухам у нас, на Беларусі? Трэба прызнацца, што ён не заняў у нас належнага месца ні ў школах, ні ў піонэр-атрадах. Па статыстычных вестках, якія раней друкаваліся ў „Лістках Біостанцыі“, колькасьць гурткоў на Беларусі была

самая нязначная. З боку ЦК ЛКСМ Беларусі ня была зьвернута на гэтую вельмі важную галіну працы дастатковая ўвага. Недахоп гэты трэба выправіць і зараз-жа прыступіць да стварэньня юнатаўскіх гурткоў у піонэр-атрадах і пры школах.

---

Прыкладны зьмест працы гурткоў юных натуралістаў.

1. Барацьба з шкоднікамі сельскай гаспадаркі.
2. Барацьба з засьмечанасьцю нашых палёў і гародаў.
3. Удзел у веснавой пасеўкампаніі:
   а) ачыстка і пратручваньне насеньня.
   б) азначэньне % усхожасьці і інш.
4. Удзел у кампаніі „Дзень ураджаю".
5. Досьледы з мінэральным угнаеньнем і вапнаваньне глебы.
6. Вывучэньне карысных выкапняў.
7. Вывучэньне энэргетычных рэсурсаў сваёй мясцовасьці.
9. Разьвядзеньне тэхнічных культур.
10. Вывучэньне сельска-гаспад. і паляўніча-прамысловых жывёл.
11. Кураводзтва і трусаводзтва.
12. Ахова і прываблiваньне птушак.
13. „Дзень лесу".
14. Ахова прыроды.
15. Барацьба з паразытамі чалавечага жыльля.
16. Барацьба з малярыйным камаром.
17. Збор лектэхсыравіны.
18. Мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныяназіраньні.

---

## ЛІТАРАТУРА:


### Для працы гурткоў па пустазельлі:

1. Талиев — Сорные травы. ГИЗ, ц. 70 коп.
2. Мальцев — Сорные травы СССР и меры борьбы с ними. ГИЗ, ц. 90 коп.
3. Любименко и Ильин — Сорные растения наших полей. Ц. 40 коп.
4. Будрин — Сорные травы.
5. Леньков — Семена и всходы сорных растений. Гостехиздат, ц. 1 р. 70 коп.
6. Журнал „Листки Биостанции Юных Натуралистов. № 11, № 18, 1929 г.

### Па барацьбе з шкоднікамі:

1. Кулагин — Вредные насекомые и меры борьбы с ними. Изд. 4-ое, ГИЗ, 1930 г. в 2-х томах. Ц. за 2 тома.
2. Богданов-Катьков — Краткий учебник энтомологии. ГИЗ, 1930 г. ц. 5 р. 40 коп.
3. Его-же — Энтомологические экскурсии на огороды. Ц. 3 р.
4. Щербиновский — Главнейшие вредители сельского хозяйства и меры борьбы с ними.
5. Вучетич — Борьба с вредителями плодового сада. Изд. „Работник просвещения".
6. Пілько — Падручнік для добраахвотных корэспондэнтаў па нагляданьнях за галоўнымі шкоднікамі і хваробамі с.-гасп. расьлін. Менск.
7. Журнал „Листки Биостанции Юных Натуралистов" за 1924—1930 г.

### Па ахове птушак:

1. Дергунов — Охрана и привлечение птиц. Изд. „Работник просвещения". Ц. 25 к.
2. Кайгородов. — Из царства пернатых. Ц. 2 р. 25 к.
3. Его-же — Хищные птицы.
4. Дерюгин — Перелеты птиц по новым данным.
5. Житков — Перелет птиц.
6. Пролептов и Сугнуров — Очерки из жизни певчих птиц.
7. Пролептов — Осенняя жизнь птиц. ГИЗ. ц. 50 к.

8. Брызгалин — Птицы—друзья человека.
9. Журнал „Листки Биостанции Юных Натуралистов“

1924 год—№№—8-9, 12-13, 14, 17-18;
1925 „ —№№—2, 10, 12, 15, 19, 22;
1926 „ —№№—3, 7, 9, 10;
1627 „ —№№—2, 6, 9, 12;
1928 „ —№№—1, 2, 4, 5, 8;
1929 „ —№№—1, 7;

## Па барацьбе з паразытамі:

1. Иваницкий — Долой клопов. Ц. 10 к.
2. Покровский — Паразиты человека.
3. Иванов — Даровые нахлебники.
4. Как бороться с паразитами человеческого жилья. Изд. МОНО. Ц. 10 к.
5. Часопіс „Листки Биостанции Юных Натуралистов“ (Москва)

1927 г.—№№ 7, 8, 9;
1928 „ —№№ 11 і інш.

## Па фэнолёгічных нагляданьнях.

1. Шиголев — Школьные фенологические наблюдения на службе сельского хозяйства.
2. Здановский — Наблюдение периодических явлений природы.
3. Его-же — Материалы по фенологии.
4. Щербиновский — К методике школьных фенологических наблюдений. „Педкурсы на дому“ № 30-31, 1925 г.
5. Смирнов — Календарь природы и руководство к ведению фенологических наблюдений.
6. Судовский — Постановка фенологических наблюдений в школе.
7. Жарков — Метеорологические наблюдения в школе и дома.
8. Калитин — Методы школьных наблюдений и предсказания погоды.
8. Михельсон — О погоде и о том, как ее можно предвидеть.
10. Баранов — Наблюдение над погодой при помощи упрощенных метеорологических приборов.
11. Часопіс „Листки Биостанции Юных Натуралистов“ (Масква).

Я. Г. Ракаў і С. Н. Малінін.

# Бесьперапынка і яе ўплыў на працу гарадзкой коопэрацыйнай сеткі.

Вялікім укладам у новыя формы соцыялістычнай організацыі працы ў савецкай краіне зьяўляецца ўвядзеньне бесьперапыннага вытворчага тыдню. Даючы працоўнаму больш скарочаны рабочы тыдзень, больш частыя адпачынкі, яна зьяўляецца фактарам аздараўленьня працы. Робячы адпачынак больш эфэктыўным, яна робіць і самую працу больш продукцыйнай, як гэта заўсёды бывае пры ўстанаўленьні больш частых і роўнамерных адпачынкаў.

Бесьперапынка непасрэдна значна ўздымае вытворчыя сілы нашае краіны, павялічваючы мінімум на 20% продукцыйнасьць нашых прадпрыемстваў, даючы больш поўнае выкарыстоўваньне сродкаў вытворчасьці, уцягваючы ў народную гаспадарку новыя кадры працоўных, садзейнічаючы павялічэньню продукцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Нарэшце, бесьперапынка руйнуе старыя бытавыя ўмовы, значна ўздымаючы тэмпы нашага жыцьця, накіраваныя да пабудовы соцыялізму ў нашай краіне.

Калі мы возьмем пытаньне ўвядзеньня бесьперапынкі ў магазынах і крамах спажывецкай коопэрацыі, то і тут мы знойдзем усе гэтыя моманты.

Бесьперапынка ў прамысловасьці значна пашырае контынгент асоб (і іх платаздольнасьць), якія купляюць патрэбныя ім рэчы ў коопэрацыйнай сетцы. Сетка становіцца недастатковай, і бесьперапынка (адначасова з павялічэньнем зьменнасьці ў гандлёвых пунктах) значна пашырае прапускную здольнасьць разьмяркоўчага апарату.

Зразумела, што бесьперапынка дае для работніка прылаўку тыя-ж перавагі соцыялістычнай формы організацыі працы (частыя адпачынкі, ломка старога быту і г. д.), як і для рабочых прамысловасьці.

Мы павінны застанавіцца на адным новым моманце, які мае месца ў працы разьмяркоўчага апарату. Калі ў вытворчых прадпрыемствах да ўвядзеньня бесьперапынкі праца штодзённа ідзе больш-менш роўнамерна (калі ня улічваць нязначных хістаньняў у продукцыйнасьці працы па днёх тыдню ў сувязі са стамленьнем рабочых), дык у працы коопэрацыйнай крамы маецца няроўнамернасьць у наплыве пакупнікоў па днёх тыдню іменна ў сувязі з умовамі разьмеркаваньня дзён адпачынку ў асноўных груп насельніцтва данага раёну.

Сапраўды, калі, скажам, у Менску ў большасьці працоўных выходным днём была нядзеля, дык зразумела, што асноўная нагрузка падала на суботу і нядзелю. Працоўныя куплялі тавары ў суботу, каб ня быць гэтым занятымі ў дзень адпачынку, або каб палепшыць

на гэты дзень сваё харчаваньне, каб прыняць гасьцей і г. д. У нядзелю тавары куплялі тыя групы, якія не маглі адарваць часу ў другія дні з-за перагрузкі.

Такім чынам, крамны апарат працаваў надзвычайна няроўнамерна. Нагрузка яго мела даволі значныя хістаньні (розьніца ў нагрузцы дзён даходзіла да 30%), што не давала магчымасьці выкарыстаць поўную яго прапускную здольнасьць. Калі прыстасаваць краму да дню максымальнай нагрузкі, дык у іншыя дні ня будзе выкарыстана сама крама, прадаўцы, адміністрацыйны апарат, што дае страты. Наадварот, прыстасаваньне яе да дню сярэдняй і, нават, мінімальнай (што часьцей і бывала) нагрузкі ў нагружаныя дні стварала чаргу і фактычна пагаршала абслугоўваньне працоўных [1]).

Беларускі Інстытут Аховы Працы меў магчымасьць параўнаць даныя хістаньняў наплыву пакупнікоў у розныя дні тыдню за пэрыод студзень—красавік 1929 г. (да бесьперапынкі) і ў 1930 г. (калі ў асноўных прадпрыемствах, ва ўсёй гандлёвай сетцы і ў большасьці ўстаноў быў зроблены пераход на бесьперапынку.

З аднаго боку, правядзеньне бесьперапынкі ў самым разьмяркоўчым апараце дае зрух у бок роўнамернага разьмеркаваньня наплыву пакупнікоў, зьнішчаючы той наплыў, які выкліканы зачыненьнем крамы на адзін дзень у тыдзень і павялічэньнем яе нагрузкі ў пасьлявыходны дзень.

Але яшчэ больш важным зьяўляецца аналіз гэтага пытаньня з пункту гледжаньня тых зрухаў, якія адбыліся ў жыцьці працоўных (рабочых прамысловых прадпрыемстваў, служачых устаноў адміністрацыйных і соцыяльна-культурных) у сувязі з бесьперапынкай.

Да ўвядзеньня бесьперапыннага вытворчага тыдню ў працы раздробленых продуктовых магазынаў МЦРК наглядалася няроўнамернасьць наплыву пакупнікоў у розныя дні тыдню. У 1929 годзе Інстытутам Аховы Працы (аддзел організацыі працы) было ўстаноўлена, што гэтыя хістаньні наплыву ва ўмовах продуктовага раздробнага гандлю ў Менску маюць пэўную законамернасьць [2]). Днямі павышанага наплыву пакупнікоў былі: нядзеля, субота, серада, а таксама пасьлявыходны дзень.

У выніку зробленага дасьледваньня перад праўленьнем МЦРК быў пастаўлены рад прапаноў рацыяналізатарскага характару, якія мелі на мэце прыстасаваць усю працу гандлёвых пунктаў да законамернасьцяй наплыву пакупнікоў і гэтым палепшыць абслугоўваньне спажыўца, паменшыць чаргу, скараціць час, які затрачваецца пакупніком на пакупку і г. д. У прыватнасьці, улічаючы значнае павялічэньне наплыву пакупнікоў у пасьлявыходныя дні (на 19% больш ад сярэдняй выручкі ў іншыя дні тыдню), было прапанавана безадкладна прыступіць да ўвядзеньня бесьперапыннага тыдню ў самой раздробнай сетцы гандлёвых пунктаў МЦРК.

---

[1]) Зразумела, было шмат магчымасьцяй прыстасаваць выходныя дні работнікаў прылаўку з такім разьлікам, каб найбольшую колькасьць прадаўцоў у магазынах падала на дні нагружаныя, а найменшая—на маланагружаныя дні. Гэта патрабавала, па сутнасьці, пераходу гандлёвых пунктаў на бесьперапынку, ва ўсякім выпадку патрабавала адмаўленьня ад практыкі адзінага выходнага дню для прадаўцоў. Гэтыя ідэі адзін з аўтараў гэтага артыкулу (Я. Ракаў) пропагандаваў у друку яшчэ ў 1928 і 1929 г. пры супраціўленьні з боку некаторых работнікаў.

[2]) Вывучэньне вытваралася шляхам аналізу зьмен у разьмерах выручкі магазынаў у розныя дні тыдню. Больш дасканала глядзі артыкул тт. Ракава і Малініна „Мэтодыка рацыяналізацыі раздробнага гандлю“, надрук. у зборн. Ін-ту Аховы Працы пры НКПБ за 1930 г. пад агульнай назвай: „Тэорыя і практыка аховы і організацыі працы“.

Пасьля ўвядзеньня бесьперапынкі зноў былі аналізаваны даныя дзённай выручкі тых-жа магазынаў (№№ 1, 4, 6, 9, 12, 21, 22, 31, 35, 51, 60, 88, 96) за той-жа пэрыод (студзень-красавік).

Параўнаньне сярэдняй дзённай выручкі магазынаў Менскага ЦРК за розныя дні тыдню ў 1930 годзе яскрава сьведчыць аб значных зьменах у характары наплыву пакупнікоў, якія зьявіліся ў выніку ўвядзеньня бесьперапынкі, у параўнаньні з тым, што мелася ў 1929 годзе (да ўвядзеньня БВТ).

У параўнаньні з данымі 1929 г. сярэдняя выручка суботы (па ўсіх вывучаных магазынах) адносна іншых дзён тыдню зьяўляецца найменшай (596 р., якія мы прымаем за 100%), найбольшы наплыў наглядаецца ў сераду (706 рубл., ці 118,5% у адносінах да дню найменшага наплыву) і панядзелак (702 рублі, ці 117,8%), у астатнія дні тыдню наплыў зьяўляецца адносна роўнамерным (хістаючыся ад 658 да 675 рублёў — ад 110,4% да 113,3%).

У раймагазынах днямі найменшага наплыву таксама застаецца субота (541 руб., ці 100%), у панядзелак і сераду наплыў даволі значна павышаецца (656—655 рубл., ці 121,3%—121,1%), у аўторак, пятніцу і нядзелю наплыў трымаецца на адным роўні (хістаючыся ад 617 да 627 рубл., ці ад 114,0% да 115,9%), у чацьвер некалькі зьніжаецца (588 рубл., ці 108,7%).

Яшчэ большы контраст з законамернасьцю наплыву пакупнікоў па днёх тыдню, якая была ўстаноўлена ў 1929 годзе, даюць цэнтральныя магазыны.

У гэтым выпадку днямі мінімальнага наплыву зьяўляецца субота і нядзеля, днямі найбольшага наплыву — чацьвер.

Поўная процілегласьць паміж характарам наплыву пакупнікоў у магазыны МЦРК у пачатку 1930 году (пасьля ўвядзеньня БВТ) і паміж аналёгічнымі данымі за 1929 год (да ўвядзеньня бесьперапынкі) з асаблівай наочнасьцю наглядаецца пры параўнаньні сярэдняй выручкі вывучаных магазынаў у сераду, суботу і нядзелю з сярэдняй выручкай за ўсе астатнія дні тыдню.

Калі ў 1929 г. усе памянёныя дні давалі павялічэньне наплыву (у сераду нязначнае — усяго на 1%, у суботу на 10%, у нядзелю на 20%), то ў 1930 годзе мы бачым зусім іншае. Павялічэньне наплыву (выручкі) у сераду на 7% па ўсіх абсьледваных магазынах (на 5% па цэнтральных і на 7,5% па раённых), зьніжэньне выручкі магазынаў у суботу на 12,1% (на 7% па цэнтральных і на 13,7% па раённых), зьніжэньне выручкі ў нядзелю па ўсіх магазынах на 1,3%, пры гэтым у апошнім выпадку цэнтральныя магазыны даюць больш значнае зьніжэньне выручкі (на 6,7%; раймагі-ж, наадварот, у гэты дзень тыдню даюць мізэрнае павышэньне выручкі—на 0,3%).

Такім чынам, падводзячы некаторыя вынікі сказанаму, мы бачым, што ўвядзеньне бесьперапынкі зусім зьмяніла тую законамернасьць у наплыве пакупнікоў у продуктова-раздробныя магазыны МЦРК па днёх тыдню, якая мела месца і была выяўлена ў 1929 году (да БВТ).

Зусім відавочна таксама, што той падзел на лепшыя і горшыя дні гандлю, які быў намі ўстаноўлен у 1929 годзе, зараз адпадае. Прычыны павялічэньня нагрузкі магазынаў (хаця-б і на невялікі %) у панядзелак, а галоўнае ў сераду і чацьвер, можна тлумачыць тым, што ў гэты час бесьперапынка яшчэ не ахапіла пераважнай колькасьці рабочых і служачых. Рад прадпрыемстваў і ўстаноў яшчэ мелі выходны дзень у нядзелю, а асабліва часты былі выпадкі перанясеньня выходнага дню з нядзелі на сераду, чым тлумачыцца нагрузка серады і чацьвярга.

Нас цікавіць таксама і другое пытаньне, якое мае асабліва важнае значэньне ў справе організацыі працы ў гандлёвым пункце. У якой ступені бесьперапынка параўнала нагрузку гандлёвых пунктаў у розныя дні тыдню і гэтым самым у якой ступені яна можа садзейнічаць грунтоўнай рацыяналізацыі яе па мэтоду неперарыўнасьці вытворчых процэсаў, прадумоваю чаго зьяўляецца роўналежнасьць нагрузкі, а ва ўмовах раздробнага гандлю — наплыў пакупнікоў.

Для высьвятленьня пастаўленага пытаньня цікава параўнаць, у якой ступені пасьля ўвядзеньня БВТ паменшылася розьніца нагрузкі (выручкі) гандлёвых пунктаў у дзень найменшага і найбольшага наплыву.

Параўнаньне (у адносінах асобных груп магазынаў) дзён тыдню з найбольшай выручкай з днямі найменшай выручкі [1]), паказвае, што процант перавышэньня выручкі ў дні максымальнага наплыву, па даных 1929 году (гл. табл. 1), вызначаецца, у сярэднім па ўсіх ахопленых групах магазынаў, у +30%, у той час як у 1930 годзе, пасьля ўвядзеньня бесьперапынкі, сярэдні процант перавышэньня выручкі ў дзень максымальнай нагрузкі, адносна дня тыдню з мінімальнай выручкай— складае ўсяго +18,5%.

Па даных 1929 году ў 2-х вывучаных цэнтральных магазынах з выходным днём у аўторак максымальная выручка ў дзень перавышае дзень мінімальнай выручкі на +41,91%; у трох вывучаемых раймагах з выходным днём у аўторак—на +19,62%, у дзесяці вывучаных раённых і цэнтр. магазынах з выходным днём у суботу — на +36,06%, у пяці магазынах (раённых і цэнтральных) з выходным днём у аўторак — на +23,95% [2]).

У 1930-жа годзе, пасьля ўвядзеньня бесьперапынкі, процант перавышэньня выручкі ў дні найменшай нагрузкі, у адносінах да дзён тыдню з мінімальнай нагрузкай, складае ў дачыненьні трох вывучаных цэнтральных магазынаў +17,0%, у адносінах трынаццаці раённых магазынаў +21,3%.

Табліца 1.

| №№ магазынаў | Найменшая дзённ. выручка, ня ўліч. выходных і перадвыходных дзён | Максымальная выручка ў %% адносінах да найменшай выручкі | % перавышэньня |
|---|---|---|---|
| Магазыны з выходным днём у суботу: №№ 1, 6, 9, 12, 14, 22, 29, 35, 55 і 104 . . . | 100% | 136,06 | +36,06 |
| Магазыны з выходным днём у аўторак: №№ 4, 21, 60, 88, і 40. . . . . . . . . . . | 100% | 123,95 | +23,95 |
| Цэнтральныя магазыны з выходным днём у аўторак: №№ 4, 40 . . . . . . . | 100% | 141,91 | +41,91 |
| Раённыя магазыны з выходным днём ў аўторак: №№ 1, 60 і 88. . . . . . . . . | 100% | 119,62 | +19,62 |

[1]) Браўся дзень найменшай выручкі з усіх дзён тыдню, за выключэньнем перадвыходных і, зразумела, выходных, гэта ў адносінах матар'ялу за 1929 г.

[2]) Цікава зьвярнуць увагу на тое, што там, дзе выходны дзень (да ўвядзеньня бесьперапынкі) магазыну быў не ў нядзелю, а ў аўторак, розьніца паміж днём мінімаль-

Такім чынам, ня гледзячы на няпоўную магчымасьць параўнаць гэтыя даныя, усё-ж, бязумоўна, магчыма констатаваць, што ўвядзеньне бесьперапынкі ўжо ў першыя месяцы даволі значна падраўняла нагрузку гандлёвых пунктаў у розныя дні тыдню. Трэба думаць, што ў далейшым гэты процэс яшчэ ўзмоцніцца па меры таго, як бесьперапынка ўсё больш і больш будзе ўкараняцца ў быт усёй масы працоўных.

Надзвычайна характэрна, што, парушыўшы, законамернасьць наплыву пакупнікоў у гандлёвыя пункты па днёх тыдню, як гэта было ў 1929 годзе, паменшыўшы хістаньні наплыву ў розныя дні, бесьперапынка, як гэта і трэба было чакаць, не адбілася на хістаньнях наплыву пакупнікоў па датах месяцу, пакінуўшы бяз зьмен тэндэнцыю павялічэньня выручкі (значыць, і нагрузкі) гандлёвых пунктаў у дні масавага атрыманьня заработку і ў дні непасрэдна пасьля іх.

Калі да ўвядзеньня бесьперапынкі (у 1929 годзе) сярэдняя выручка магазынаў у дні масавай палучкі зарплаты і ў дні, якія непасрэдна сьледуюць за імі, перавышала сярэднюю выручку гэтых-жа магазынаў у астатнія дні месяцу ў сярэднім на 13%, дык з гэтым-жа зьявішчам мы сустракаемся і ў 1930 годзе (гл. табліцу 2).

Табліца 2.

**Параўнаньне сярэдняй дзённай выручкі магазынаў МЦРК №№ 1, 4, 6, 9, 10, 12, 14, 21, 22, 31, 35, 51, 55, 60, 88, 96 у дні масавай палучкі зарплаты і інш. дні месяцу (у рублёх).**

| Месяцы | Сярэдняя дзённая выручка за дні м-цу: 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31 | Сярэдняя дзённая выручка ў дні палучкі зарплаты і дні месяцу, непасрэд. сьледуючыя за палучкаю: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 15, 16, 17, 18, 19, 20 | % перавышэньня |
|---|---|---|---|
| Студзень | 555 | 690 | +24,3 |
| Люты | 671 | 794 | +18,3 |
| Сакавік | 590 | 693 | +17,3 |
| Красавік | 626 | 656 | + 4,8 |
| У сярэд. за ўсе м-цы | 610 | 708 | +16,1 |

З табліцы № 2 відаць, што 1-га, 2-га, 3-га, 4-га, 5-га, 15-га, 16-га, 17-га, 18-га, 19-га і 20-га кожнага м-цу выручка гандлёвых пунктаў заўсёды ўзрастае ў параўнаньні з іншымі днямі м-цу, пры гэтым у сярэднім за чатыры м-цы (студзень, люты, сакавік і красавік 1930 г.) гэта ўзрастаньне вызначаецца ў +16,1%. Па паасобных месяцах гэта законамернасьць знаходзіць пацьвярджэньне, праўда, выяўляючы некаторую тэндэнцыю к памяншэньню.

най выручкі значна меншая. Гэта тлумачыцца тым, што мы тут маем справу з двума фактарамі—выходным днём магазыну і выходным днём насельніцтва (уплыў другога фактару значна мацней, зразумела).

Калі ўплыў абодвух фактараў супадае (выходны дзень магазыну ў нядзелю), — атрымліваецца рэзкае павялічэньне розьніцы паміж днём максымальнай і мінімальнай выручкі. У другім-жа выпадку маецца пэўная ўзаемная нэўтралізацыя, што ўплывае на зьнішчэньне гэтай розьніцы.

Такім чынам, усе мерапрыемствы, якія могуць быць накіраваны на зьнішчэньне неаднолькавай нагрузкі гандлёвых пунктаў у розныя дні м-цу (выдача зарплаты ў розныя тэрміны для розных прадпрыемстваў і розных устаноў; выдача зарплаты на прадпрыемстве ў працягу поўнага м-цу ў розныя дні м-цу для розных груп рабочых; барацьба за ўкараненьне праз зачыненыя разьмеркавальнікі безнаяўных разьлікаў і шэраг іншых мерапрыемстваў) ня трацяць сваёй актуальнасьці яшчэ і да сёньнешняга дню.

Якія-ж вывады трэба зрабіць са ўсяго сказанага?

Па-першае, бесьперапынка сапраўды зьмяніла характар працы коопэрацыйных прадпрыемстваў, зрабіўшы іх працу больш роўнамернай і тым самым палепшыўшы абслугоўваньне працоўных у іх выходныя дні, а таксама палепшыўшы ўмовы працы работнікаў прылаўку; далейшае ўвядзеньне бесьперапынкі ўзмацняе паказаную тэндэнцыю.

Па-другое, бесьперапынка павялічыла прапускную здольнасьць гандлёвай сеткі ня толькі тым, што яна працуе замест 300—360 дзён у год, а яшчэ тым, што зьнізіла розьніцу паміж днямі мінімальнай і максымальнай выручкі і дала магчымасьць лепш (больш поўна) выкарыстаць штат прадаўцоў. Па-трэцяе, нядзеля перастала быць днём усеагульнага адпачынку; старыя бытавыя падпоры руйнуюцца, што ня можа не адбіцца на павышэньні тэмпаў нашага жыцьця, тэмпаў, якія адпавядаюць вялікаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Усё паказанае лішні раз даводзіць, якое вялікае рэволюцыйнае значэньне мае бесьперапынка, якое вялікае значэньне яна мае для палепшаньня быту і ўмоў жыцьця працоўных.

---

Ф. П. Садоўскі.

# Выкарыстаць летнюю практыку і водпускі студэнцтва на вёсцы для разгортваньня краязнаўчай працы.

Задачы соцыялістычнага будаўніцтва краіны патрабуюць шырокай мобілізацыі ўсіх сіл і захаваных рэсурсаў, каб выканаць і перавыканаць пяцігодку за чатыры гады, каб вырашыць задачу соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі, ліквідаваць кулацтва як клясу на базе суцэльнай колектывізацыі, каб завяршыць пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР і прыступіць да пабудовы соцыялістычнай экономікі. У гэтых менавіта мэтах патрэбны шырокі ўдзел рабочых, батрацкіх, колгасьніцкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе соцыялістычнага будаўніцтва, у гэтых мэтах патрэбна дасканалае вывучэньне свайго прадпрыемства, колгасу, саўгасу, сельсавету, раёну і краю для таго, каб, усебакова вывучыўшы сілы, мобілізаваць іх для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва, патрэбна масавая навукова-дасьледчая праца шырокіх рабочых і працоўных мас. Савецкае краязнаўства і ёсьць той шлях, які далучае шырокія рабочыя і працоўныя масы да гэтага будаўніцтва.

Да гэтага часу радам мерапрыемстваў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства па дырэктыве і пры дапамозе партыйных організацый праведзена вялізарнейшая работа па перабудове, па ператварэньні краязнаўства з „акадэмічнага“, утылітарнага ў савецкае краязнаўства. У прыватнасьці, у БССР праведзена значная работа па выяўленьні ўсёй шкоднасьці і варожасьці тэй работы, якую праводзілі краязнаўчыя організацыі БССР па заданьні беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму—гэтага агента міравога, і ў першую чаргу—польскага фашызму. Дадзена рад паказаньняў і дырэктыў аб характары працы краязнаўчых організацый БССР на фабрыках, заводах, у колгасах, саўгасах, вёсках, тэхнікумах, школах, дадзена рад паказаньняў аб організацыйных формах перабудовы працы краязнаўчых організацый. Задача раённых краязнаўчых бюро заключаецца ў тым, каб, улічыўшы ўсе ўказаньні, па-бальшавіцку ўзяцца за перабудову краязнаўчай працы, каб, задаўшыся конкрэтнымі, на першых парах нямногімі задачамі, практычна організаваць краязнаўчыя ячэйкі на фабрыках і заводах, у колгасах, саўгасах, вёсках, школах, у МТС і іншых організацыях і пусьціць іх работу над якім-небудзь адным практычным актуальным пытаньнем.

Аднак, да гэтага часу на мясцох—у раёнах, на фабрыках і заводах—наглядаецца, што сутнасьць, задачы і значэньне савецкага края-

знаўства досыць уразуметы амаль усюды, амаль усюды больш-менш праведзена работа па высьвятленьні шкоднай і варожай работы беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, накіраванай супроць соцыялістычнага будаўніцтва, супроць дыктатуры пролетарыяту, за рэстаўрацыю капіталізму ў БССР,—перабудова-ж краязнаўчай працы на новых шляхох, разгортваньне савецкага краязнаўства амаль усюды ідзе вельмі марудна, вельмі слаба. Гэта зьяўляецца вынікам таго, што ў радзе месц партыйныя, савецкія, профсаюзныя, гаспадарчыя, коопэрацыйныя і іншыя організацыі не дацэньваюць значэньня краязнаўства для соцыялістычнага будаўніцтва, не ўзялі перабудовы краязнаўчай работы пад сваё кіраўніцтва, ня выдзелілі адпаведных кадраў, адказваючых за пастаноўку краязнаўчай работы.

Таму баявою задачаю дню зараз зьяўляецца задача, як найхутчэй перабудаваць краязнаўчую працу на мясцох, узмацніць кіраўніцтва адпавядаючых організацый гэтай працай, даць краязнаўству патрэбныя кадры, дабіцца ўвязкі работы краязнаўства з работай плянуючых, гаспадарчых і навукова-дасьледчых устаноў і, што асабліва важна, выкарыстаць усё мажлівае для таго, каб пасунуць справу разгортваньня краязнаўчай работы ў БССР—на фабрыках, заводах, у колгасах, саўгасах, МТС, вёсках і інш.

Зараз з наступленьнем лета ва ўсіх ВНУ, тэхнікумах, профтэхшколах, ШКМ і іншых навучальных установах распачынаецца вытворчая летняя практыка і летнія адпускі студэнцтва. Шырокім струменем студэнцтва ВНУ, тэхнікумаў і іншых навучальных устаноў увальецца на фабрыкі, заводы, у колгасы, саўгасы, МТС і ў вёскі для практыкі і адпачынку. Вялізная культурная, маладая сіла, узброеная ведамі і часткова мэтодамі навукова-дасьледчай працы, узброеная мэтодамі марксызму-ленінізму ў соцыялістычным будаўніцтве, акажацца сярод рабочых мас, сялян-колгасьнікаў, у вёсках. Усім організацыям неабходна выкарыстаць гэтую сілу, і ў першую чаргу яе неабходна выкарыстаць для мэт разгортваньня і наладжваньня краязнаўчае працы ў краязнаўчых ячэйках, гуртках і раённых бюро краязнаўства.

Кожны студэнт-практыкант ці адпускнік, апынуўшыся на фабрыцы, заводзе, не павінен прайсьці міма краязнаўчых пытаньняў і тэм, якія высоўваюцца жыцьцём гэтай фабрыкі, заводу. Менавіта, кожны практыкант ці адпускнік-студэнт павінен зацікавіцца пытаньнямі вывучэньня сыравіны і паўфабрыкатаў, на якіх працуе даная фабрыка, завод, пытаньнямі вывучэньня энэргетычных рэсурсаў фабрыкі, заводу, процэсаў вытворчасьці, мэханізацыі, складу рабочых фабрыкі, заводу, вынаходніцтва, выкананьня прамфінпляну і прычын, спрыяючых ці мяшаючых яго выкананьню; студэнты-практыканты ці адпускнікі, якія апынуцца на фабрыцы, заводзе, павінны будуць паставіць пытаньне організацыі вытворчага музэю, каб праз гэты вытворчы музэй мобілізаваць масы рабочых данай фабрыкі, заводу на барацьбу за лепшыя ўзоры вырабаў, на барацьбу супроць браку ў вытворчасьці, за выкананьне якасных паказальнікаў і г. д. Усё гэта сугуба краязнаўчыя тэмы, усё гэта актуальныя жыватрапечучыя пытаньні, якімі жыве ўся вытворчасьць, усе фабрыкі, заводы, увесь рабочы колектыў гэтых фабрык, заводаў, уся рабочая кляса савецкай краіны. Усё гэта пытаньні, вакол якіх лёгка мобілізаваць масы і дзеля вывучэньня і вырашэньня якіх патрэбна ўтварэньне краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах.

Студэнт-практыкант ці адпускнік у колгасе і саўгасе павінен зацікавіцца пытаньнямі вывучэньня глебы і яе палепшаньня, вывучэньня

лепшых спосабоў апрацоўкі глебы, вывучэньня насеньня і спосабаў сэлекцыі (паляпшэньня) насеннага матар'ялу. Ня менш значны інтарэс для студэнта ў колгасе, саўгасе ўяўляе пытаньне напрамку, тыпу, характару, спэцыялізацыі гаспадаркі. Вакол вывучэньня гэтых пытаньняў павінны быць мобілізаваны зацікаўленыя групы рабочых саўгасаў, колгасьнікаў і організаваны адпавядаючыя краязнаўчыя гурткі. Ня менш цікавым пытаньнем будзе і пытаньне вывучэньня процэсаў мэханізацыі колгасу, саўгасу і ўплыву мэханізацыі на ўмовы працы колгасьнікаў і рабочых саўгасаў, на суадносіны паміж жывой працай і машыннай у вытворанай у колгасе і саўгасе продукцыі. Актуальнымі пытаньнямі будуць і пытаньні вывучэньня формы організацыі працы, мэтодаў разьмеркаваньня прыбыткаў, у мэтах пашырэньня лепшых форм організацыі працы і разьмеркаваньня прыбыткаў і ў мэтах абагуленьня лепшых дасягненьняў колгасаў і саўгасаў.

Машынна-трактарныя станцыі, дзе таксама будзе адбывацца вытворчая практыка студэнцтва і ў мясцох дзейнасьці якіх будуць выкарыстоўваць адпускі студэнты, уяўляюць з сябе цэлы комплекс пытаньняў і тэм краязнаўчага характару, даючых мажлівасьць організаваць краязнаўчыя ячэйкі і гурткі, мобілізаваўшы інтарэс рабочых МТС, колгасьнікаў і іншых навокал пытаньняў вывучэньня форм і мэтодаў МТС на масавую і суцэльную колектывізацыю раёну свае дзейнасьці, вывучэньня пытаньня найлепшых форм разьлікаў МТС па сваіх умовах з ваколічным насельніцтвам, вывучэньня розных тыпаў трактароў пад кутом погляду адпавядальнасьці пэўнага тыпу трактароў да пэўнага характару глеб, да пэўнай паверхні мясцовасьці і інш.

На вёсцы студэнты-практыканты і адпускнікі знойдуць для мобілізацыі шырокіх мас у краязнаўчую працу такія цікавыя пытаньні, як вывучэньне формы клясавай барацьбы ў вёсцы ў сувязі з колектывізацыяй, як уплывае колектывізацыя на зьмену адносін у вёсцы, на зьмену звычак, на падзеньне рэлігійнасьці і г. д. Усё гэта гаворыць аб тым, што на фабрыцы, заводзе, у колгасе, саўгасе, МТС і вёсцы непачаты край работы для разгортваньня краязнаўчай працы. Патрэбны толькі сілы, кадры, якія-б організавалі і пусьцілі ў ход гэтую справу. Такою магутнай сілай і зьявіцца студэнцтва, якое будзе адбываць вытворчую практыку і адпускі на прамысловых прадпрыемствах і ў раёне іх, у колгасах, саўгасах, МТС і вёсках. Патрэбна толькі належна выкарыстаць студэнцтва для гэтай працы.

Профсаюзныя і грамадзкія студэнцкія організацыі ВНУ, тэхнікумаў і іншых навучальных установаў перад ад'ездам студэнтаў на вытворчую практыку і ў летнія адпачынкі, павінны завастрыць увагу студэнцтва на неабходнасьці гэтае работы. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства павінна даць дырэктывы раённым бюро краязнаўства зьвязацца з студэнтамі-практыкантамі і адпускнікамі, распрацаваць прыкладны плян краязнаўчай працы студэнта-практыканта і адпускніка ў часе практыкі ці адпачынку.

Партыйныя, профсаюзныя і грамадзкія організацыі ў раёнах павінны ўлічыць гэтую сілу і максымальна выкарыстаць яе для краязнаўчай працы. Краязнаўчая праца на мясцох павінна быць у бліжэйшы час максымальна разгортнута. Шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва праз краязнаўства павінны быць прыцягнуты да масавай навукова-дасьледчай працы, да актыўнага социялістычнага будаўніцтва, бо на даным этапе адных навуковых сіл для здавальненьня патрэб социялістычнага будаўніцтва ў навукова-дасьледчай працы недастаткова.

„Пролетарскае студэнцтва, якое атрымала ўжо пэўную падрыхтоўку да навукова-дасьледчай працы, у разрэзе сваёй спэцыяльнасьці, ня можа быць у баку ад гэтага руху, але павінна быць у першых яго шэрагах, усялякім чынам дапамагаючы організацыі краязнаўчых ячэек на вытворчасьці і ў колгасах, наладжваючы іх працу, інструктуючы рабочых і колгасьнікаў у гэтай цяжкай спачатку справе і сваёй асабістай дасьледчай працай даючы неабходны матар'ял для дзяржаўных і грамадзка-культурных організацый.

Дасьледчая краязнаўчая праца студэнцтва павінна зрабіцца сустаўной часткай працы навукова-тэхнічных гурткоў, зьмяняючы гэту працу з чыста вучэбнай, акадэмічнай на грамадзка-карысную працу, адначасна ўзвышаючы кваліфікацыю студэнта і выхоўваючы з яго сапраўднага спэцыяліста-грамадчыка. Праца не павінна мець характару аматарства і ўсяведаньня — яна павінна ісьці ў разрэзе асноўнай спэцыяльнасьці студэнта, зьяўляючыся адным з зьвеньняў сувязі вучобы з вытворчасьцю".

Так вызначае задачы пролетарскага студэнцтва партыя ў тэзісах Комакадэміі аб „ролі і значэньні савецкага краязнаўства".

Задачай практыкантаў і адпускнікоў-студэнтаў ВНУ, тэхнікумаў у БССР зьяўляецца выканаць гэтыя задачы, апраўдаць тыя надзеі, якія ўскладае на яго пролетарыят і яго авангард — комуністычная партыя. Пролетарскі студэнт павінен ня толькі сам быць актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва, але ў меру сваіх здольнасьцяй мажлівасьцяй і організатарам шырокіх мас рабочых і працоўных у справе будаўніцтва соцыялізму.

---

**Ніводнага прамысловага прадпрыемства, саўгасу, колгасу, савецкай і гаспадарчай установы, ВНУ, тэхнікуму, школы, хатычытальні, нардому, клюбу, ніводнага актыўнага будаўніка соцыялізму без „Савецкай Краіны".**

В. С-іч.

# Аб увязцы працы краязнаўчых організацый з працай дзяржаўных, плянуючых і цэнтральных навукова-дасьледчых установ.

Краязнаўчыя організацыі зьяўляюцца масавымі дасьледчымі організацыямі, у якіх дасьледчык адначасова зьяўляецца і непасрэдным будаўніком социялістычнай гаспадаркі і культуры. Цэнтральныя навукова-дасьледчыя ўстановы зараз ужо ня могуць абмежавацца экспэдыцыйнымі досьледамі альбо пастаноўкай досьледаў на аднэй-другой дасьледчай станцыі, яны цяпер ужо павінны ў сваёй дасьледчай працы ўлічваць і апірацца на масавыя досьледы, якія праводзяцца на ўсіх нашых фабрыках і заводах, ва ўсіх колгасах і саўгасах, у школах і краязнаўчых гурткох. У працы ўсіх цэнтральных навукова-дасьледчых установ і масавых дасьледчых організацый павінен быць самы цесны контакт і плянавасьць. Навукова-дасьледчая праца ў нашай социялістычнай краіне па розных галінах зьверху данізу павінна будавацца па адзінаму пляну. Організацыю гэтай працы мы мысьлім наступным чынам: цэнтральныя дасьледчыя ўстановы, выходзячы з агульных плянавых установак і конкрэтных заданьняў адпаведных дзяржаўных, гаспадарчых і плянуючых установ, распрацоўваюць адзіны плян дасьледчай працы, улічваючы ўсю сетку мясцовых дасьледчых установ і масавых навукова-дасьледчых організацый і вызначаючы конкрэтныя тэмы і заданьні для ўсіх гэтых організацый. Плян гэты, зусім конкрэтызаваны, па ўзгадненьні з ЦБК даводзіцца да ўсіх мясцовых краязнаўчых організацый, якія абгаварваюць яго на месцы, узгадняюць з адпаведнымі гаспадарчымі і інш. установамі і організацыямі, уносяць дадаткі, выпрацоўваюць рэальны каляндарны плян сваёй працы і дасылаюць яго ў ЦБК, якое павінна быць цесна зьвязана з усімі цэнтральнымі дасьледчымі, гаспадарчымі і інш. установамі.

ЦБК у гэтым годзе робіць спробу ўвязкі краязнаўчай працы з працай цэнтральных дасьледчых установ. На вялікі жаль, ня ўсе яшчэ навукова-дасьледчыя ўстановы разумеюць важнасьць і неабходнасьць наладжаньня цеснай сувязі ў працы цэнтральных дасьледчых установ і мясцовых краязнаўчых організацый. Шмат якія ўстановы зусім не палічылі патрэбным выкарыстаць працу краязнаўчых гурткоў і ня вызначылі ніякіх краязнаўчых тэм для масавай дасьледчай працы (цэнтр. зональныя станцыі жывёлагадоўлі, расьлінаводзтва, Інститут сьвінагадоўлі, Колгасцэнтр, некаторыя катэдры БАН і інш.). Так, напр., Нав.-дасьледчы інстытут сьвінагадоўлі ў Менску заявіў, што

„вызначаных тэм ці заданьняў у дасьледчай працы, якія-б маглі быць у плянавым парадку выкананы мясцовымі краязнаўчымі організацыямі, няма“ (адносьнік № 19/244 ад 2/III-1931 г.). У гэтым адказе выяўляецца поўнае чыноўніцка-бяздушнае неразуменьне задач савецкага краязнаўства і працы краязнаўчых гурткоў у колгасах, саўгасах, ШКМ, у справе социялістычнай рэконструкцыі сьвінаводзтва. Нам, бязумоўна, трэба дабіцца поўнага пералому ў ацэнцы працы краязнаўчых організацый, з аднаго боку, і пераводу самай краязнаўчай працы на вырашэньне практычных задач социялістычнага будаўніцтва — з другога.

Ніжэй мы падаем сьпіс тэм, заяўленых рознымі цэнтральнымі навукова-дасьледчымі ўстановамі, у распрацоўцы якіх могуць і павінны прыняць удзел краязнаўчыя організацыі.

## Па прамысловасьці (НДІ прамысловасьці).

Вывучэньне рэсурсаў драўніны (наяўнасьць, пароды, скарыстаньне для мясцовых патрэб, наяўнасьць прадпрыемстваў па мэханічнай і хэмічнай пераапрацоўцы драўніны і інш.); вывучэньне рэсурсаў скураной сыравіны, рэсурсаў торфу, гліны, руд, фарб, крэйды, будаўнічых матар'ялаў і энэргетычных рэсурсаў. У даны момант матар'ялы гэтыя асабліва патрэбны па раёнах б. Мазырскай акругі і Прапойскаму раёну.

## Па сельскай гаспадарцы (Дзяржплян і НКЗ).

1. Вывучэньне глеб і глебавых асаблівасьцяй раёнаў (глебавыя карты і моноліты глеб раёну; склад расьліннасьці ў раёне — батанічны гербары, апісаньне; тарфяная і вапняная карты раёнаў).

2. Геолёгічныя ўмовы раёну: горныя рэсурсы раёну; каменьне, гліны, крэйда, руда; вадзяны рэжым і дасьледваньне грунтовых вод.

3. Мэтэоролёгічныя ўмовы раёну: атмосфэрныя ападкі, вятры, тэмпэратура, заляганьне сьнегу; пачатак і канец с.-г. работ у раёне і працяг вэгетацыйнага пэрыоду.

4. Разьмяшчэньне паасобных с.-г. ужыткоўнасьцяй у залежнасьці ад глебавых умоў раёну (лясы, балоты, сенажаці і інш.).

5. Разьвіцьцё саўгаснага і колгаснага будаўніцтва ў раёне.

6. Вывучэньне элемэнтаў вытворчасьці ў саўгасах і колгасах: ураджайнасьць, продукцыйнасьць жывёлы, сабекаштоўнасьць продукцыі, нормы выпрацоўкі і інш.

7. Вывучэньне жывёлагадоўлі ў саўгасах і колгасах (пароды розных відаў продукцыйнай жывёлы, захворваньне жывёлы, умовы ўтрыманьня, дагляд жывёлы і продукцыйнасьць).

8. Тэхніка паляводзтва ў саўгасах і колгасах: гатункі збожжа, час сяўбы розных відаў збожжа, апрацоўка глебы пад розныя культуры, дагляд за культурамі, ураджайнасьць розных культур.

Асаблівае значэньне ў даны момант мае вывучэньне культуры тэхнічных культур (ільну, канапель) і спосабаў першапачатковай апрацоўкі іх.

9. Становішча і пэрспэктывы разьвіцьця індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі ў раёне: малочная прамысловасьць, ільнаапрацоўчая прамысловасьць, прадпрыемствы па пераапрацоўцы бульбы, садовіны, гародніны і інш.; колькасьць розных відаў прадпрыемстваў, забясьпечаньне іх рабсілай, валавая продукцыя, нагружанасьць, сабекаштоўнасьць выпрацоўкі і інш.

10. Вывучэньне кармовай базы ў раёне: пашырэньне і палепшаньне сенажацяй, пашырэньне засеву кармовых траў, караньплодаў, сілос.

11. Садоўніцтва і гародніцтва ў раёне: разьмеры разьвіцьця гэтых галін, гатункі садовіны і гародніны, тэхніка апрацоўкі і перапрацоўкі, гаспадарчае значэньне.

12. Скарыстаньне рабсілы ў раёне: скарыстаньне рабсілы да соцыялістычнай рэконструкцыі с.-г. раёну; скарыстаньне і разьмеркаваньне рабочай сілы пасьля соцыялістычнай рэконструкцыі с.-г. раёну; організацыя і аплата працы ў саўгасах і колгасах.

13. Вывучэньне соцыяльна-бытавых умоў рабочых саўгасаў і колгасьнікаў і культурна-бытавое абслугоўваньне аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі.

14. Культурны адпачынак у саўгасах і колгасах.

15. Работа с.-г. гурткоў па пашырэньні агрономічных і тэхнічных ведаў сярод рабочых саўгасаў і колгасьнікаў.

16. Вывучэньне мэтодаў грамадзкае актывізацыі с.-г. вытворчасьці; агромінімум; агровыстаўкі, музэй, хаты-чытальні; плякаты, інсцэніроўкі, агросуды і г. д.

### Па транспорту (Дзяржплян).

1. Выяўленьне гнёзд і разьмераў абознага будаўніцтва ў БССР (выраб саней, дуг, шорных вырабаў, колаў, павозак і інш.) і вывучэньне магчымасьцяй рэконструкцыі гэтага промыслу.

2. Вывучэньне раёнаў і месц будаўніцтва драўляных рачных суднаў і лодак (тэхніка, організацыя і разьмеры будаўніцтва).

3. Вывучэньне пытаньня аб ужываньні суднаў і лодак як унутры-гаспадарчага транспорту ў сельскай гаспадарцы (колгасы, саўгасы), прамысловасьці, комунальнай гаспадарцы.

Увязка працы краязнаўчых організацый з Хэмічным інстытутам БАН можа выявіцца ў гэтым годзе па лініі вывучэньня водарасьляў; з Інстытутам гісторыі—па лініі вывучэньня гісторыі пролетарыяту, гісторыі фабрык і заводаў і па вывучэньні гісторыі сялянскага руху; з катэдрай этнографіі БАН—па лініі зьбіраньня савецкага фольклёру (соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі, партыя і яе правадыры, бязбожжа ў фольклёры), па вывучэньні тэхнікі і быту лесарубаў і плытагонаў (заяўкі інстытутаў).

Наогул краязнаўчая праца ў раёнах павінна праводзіцца плянава і выцякаць з плянаў соцыялістычнага будаўніцтва ў кожным раёне, а праца краязнаўчых ячэек на фабрыках і заводах, у саўгасах і колгасах—з вытворчых і пэрспэкцыйных плянаў гэтых прадпрыемстваў, але паасобныя краяведы, камісіі, брыгады могуць распрацоўваць і іншыя тэмы і заданьні, якія не выцякаюць непасрэдна з плянаў вытворчых прадпрыемстваў, сельсаветаў і райвыканкомаў, але маюць актуальнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва і распрацоўваюцца цэнтральнымі ўстановамі. Краязнаўчыя організацыі і асобныя краяведы, якія возьмуць для распрацоўкі адну з вышэй прыведзеных тэм, павінны паведаміць аб гэтым ЦБК для атрыманьня канкрэтных указаньняў і консультацыі спэцыялістаў у адпаведных галінах працы.

К. Шкільтэр.

# Процэс колектывізацыі ў латыскіх колёніях БССР.

Хутарская палітыка Прышчэпава цалкам адпавядала духу латыскіх кулакоў, якія пры дапамозе чужой наёмнай працы і пры падтрыманьні сталыпінскай палітыкі ўжо ў даваенныя часы стварылі свае гаспадаркі капіталістычна-фэрмэрскага тыпу. Пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі гэта кулацкая частка латыскіх колёністаў імкнулася затрымацца на роўні сваіх капіталістычных дасягненьняў даваеннага пэрыоду, выстаўляючы свае гаспадаркі сапраўднымі культурнымі гаспадаркамі, і працягвала эксплёатацыю наёмнай сілы рознымі замаскаванымі спосабамі. Зусім натуральна, што эксплёататарскія імкненьні кулацтва няўхільна сталі ўсуперач з тым савецкім законадаўствам, якое накіравана на канчатковае зьнішчэньне эксплёатацыі чалавека чалавекам. Прыкрываючыся маскай „культурнікаў" і апіраючыся на інструкцыі прышчэпаўскага Наркамзему БССР, многія кулакі дабіліся прэміій пахвальных лістоў за прыкладнае вядзеньне гаспадаркі ў той час, калі гэта „прыкладнасьць" была дутая і заснавана на эксплёатацыі. Кулацтва імкнулася прыстасавацца да савецкіх умоў тым, што організоўвала шэраг колектываў капіталістычнага тыпу пад шыльдай савецкіх арцеляй. Пасьля рэволюцыі Лашнёўскае таварыства сельскай гаспадаркі было перайменавана ў сельска-гаспадарчае таварыства „Arajs" (Араты); у 1926 г. была організавана арцель па распрацоўцы торфу; прыватны завод яблычнага віна Зомбэрга (у Лашнёве) быў названы арцельлю „Зэдс", якая фактычна была „акцыянэрным" таварыствам некалькіх кулацкіх гаспадарак, а не арцельлю. Таксама былі організаваны кулацкія малочныя арцелі, якія адмовіліся ўвайсьці ў копсыстэму, каб збываць сваю продукцыю праз коопэрацыю, а, застаючыся „дзікімі", прадавалі малако і масла на прыватным рынку па вельмі высокіх цэнах і такім чынам конкуравалі з коопэрацыяй. Як толькі выявілася кулацкая сутнасьць гэтых аб'яднаньняў, яны былі ліквідаваны.

Побач з гэтымі кулацкімі аб'яднаньнямі бядняцка-серадняцкія масы стваралі сапраўдныя колектывы. Вось як характарызавала процэс колектывізацыі латыскіх гаспадарак з 17 мая 1928 г. да 1 лістапада 1929 г. у Полаччыне Латбюро Полацкага Акруговага Камітэту КП(б)Б у сваёй справаздачы:

> „За апошні час мы маем досыць вялікія дасягненьні ў галіне колектывізацыі. Цяпер няма такой латыскай колёніі, дзе-б не займаліся пытаньнем колектывізацыі, і амаль у кожнай колёніі ёсьць група з бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, якія маюць жаданьне організаваць сельска-гаспадарчы колектыў. Таксама мы маем

актыўную працу кулацтва і заможнікаў супроць колектывізацыі (Вацлава, Дземаўшчына, Васількі). У сучасны момант чыста латыскіх сельска-гаспадарчых арцеляй і комун на Полаччыне няма, а латыскія сем'і знаходзяцца ў мяшаных комунах і арцелях (комуны: „Чырвоная Зорка", „Леніна" і г. д.), а таксама мяшаных вытворчых аб'яднаньнях (малочныя, машынныя і г. д.). Вацлаўскі нацыянальны сельсавет вытворча коопэраваны (мэліорацыйнае таварыства) на 59%, г. зн. коопэравана 76 гаспадарак, з якіх 26 бядняцкіх".

Гэта мэліорацыйнае таварыства мела 174,66 га балот для асушкі. За два гады працы была праведзена асушка 80 га балот. Сіламі сяброў таварыства раскарчавана плошча 16,5 га, з затратаю 366 рабочых дзён. Такім чынам, мэтодамі колектыўнай працы асушаюцца балоты, і сяляне, організаючыся ў колектывы, здабываюць добрую, урадлівую зямельную плошчу, якая потым дае высокую ўраджайнасьць.

У 1928 годзе пачынаецца новая хваля колектывізацыі ў латыскіх колёніях Магілеўшчыны. Каля Магілева організуецца латыскі колгас „Чырвоны селянін" і рад ініцыятыўных груп у другіх раёнах. У зьвязку з гэтым пад'ёмам беднаты і сераднякоў актывізавалася і кулацтва, якое прыкладала ўсё сваё стараньне, каб перашкодзіць процэсу колектывізацыі. У Галіч-Мыскай латыскай колёніі кулацтва пад шыльдай лютаранскіх рэлігійных сходаў організавала контр-рэволюцыйную працу супроць сельсавету і мясцовых культурных працаўнікоў; у Латрошчы Лупалаўскага раёну, кулацтва пад кіраўніцтвам дзеячоў мясцовай католіка-апостальскай сэкты організавала замах на настаўніцу латыскай школы т. Лінбэрг, якая організавала ячэйку моладзі і вясной 1929 г. організавала латыскую сельска-гаспадарчую арцель. Змова супроць настаўніцы і іншых культурных працаўнікоў была раскрыта, прышлося ўжыць рад мерапрыемстваў супроць актыўнай часткі кулацтва латколёніі для таго, каб колектывізацыя магла разьвівацца больш нормальна, але дзякуючы актыўнай працы кулацтва супроць колектывізацыі, латыскія гаспадаркі па БССР на 1 ліпня 1929 г. былі ахоплены колектывізацыяй толькі на 0,77%.

У зьвязку з новай хваляй колектывізацыі Нацкамісіяй ЦВК БССР у 1929 г. быў скліканы зьезд працоўных латышоў — рабочых і сялян, які адбыўся ў Менску 25-26 лістапада. На зьезьдзе прысутнічалі прадстаўнікі колектывізаваных латыскіх гаспадарак, аднаасобнікаў і латыскіх рабочых з гарадоў БССР. Зьезд з вялікім пад'ёмам прайшоў пад знакам замацаваньня саюзу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас латыскага сялянства для рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты. Зьезд рашуча выказаўся за тое, каб у бліжэйшыя гады колектывізаваць на 100% усе латыскія гаспадаркі.

Вось, што гаворыцца ў адозьве II ўсебеларускага зьезду працоўных латышоў да ўсіх латышоў і латгальцаў Савецкага Саюзу:

„Зьезд са здавальненьнем адзначае тую акалічнасьць, што за апошнія месяцы ў латыскіх колёніях Беларусі процэс колектывізацыі пачынае разгортвацца вельмі шпарка. Беднякі і серадня̂кі латыскага сялянства ў БССР ужо прыступілі да няпасрэднага будаўніцтва соцыялізму. Делегаты II ўсебеларускага зьезду працоўных латышоў завяраюць Савецкі ўрад БССР у тым, што латколёністы не застануцца ў хвасьце іншых нацыянальнасьцяй Савец-

кага Саюзу і прыкладуць усе свае стараньні, каб колектывізаваць у бліжэйшы час усе латыскія гаспадаркі Беларусі“.

Разьехаўшыся са зьезду, дэлегаты на працягу сьнежня месяца зьбіралі сходы латышоў усіх латыскіх паселішчаў, рабілі справаздачы перад выбаршчыкамі і інформавалі іх аб рашэньні другога ўсебеларускага зьезду працоўных латышоў. Па дакладах дэлегатаў усюды прымаліся пастановы аб організацыіі селска-гаспадарчых колектываў.

У канцы 1929 г. латыская колёнія „Падэры“ ўся ўступіла ў колектыў. 24 сьнежня 1929 г. агульны сход Вацлаўскага сельсавету пастанавіў організаваць колектыў, і тут-жа 35 гаспадарак уступілі ў колгас; 5 студзеня агульны сход Вацлаўскага колектыву даў сабе назву „Celtne“ („Будаўніцтва“); 11 лютага агульны сход беднякоў і серданякоў Вацлаўскай колёніі вынес пастанову аб тым, каб у арцель „Celtne“ кулакоў ня прымаць.

Кулацтва, убачыўшы наступленьне на іх з боку бядняцка-серадняцкай часткі вёскі, зараз-жа перамяніла сваю тактыку і нават старалася стаць на чале нова-організаваных колектываў. Калі ў Вацлаўскім латыскім нацсельсавеце амаль усе латыскія гаспадаркі ўступілі ў Вацлаўскую сельска-гаспадарчую арцель „Цэлтнэ“, і тады некаторыя мясцовыя кулакі, зьмяніўшы тактыку, падалі заявы аб уступленьні ў колгас. Так, кулак Сілін у сваёй заяве піша: „Прашу мяне і маё сямейства прыняць у члены організаванага колгасу ў Вацлаўскім сельсавеце і дадаю, што хоць я і абложан у індывідуальным парадку, але-ж я ні сваімі паводзінамі, ні дзеяньнямі ня быу супроць працоўных“. (Гэты Сілін у часы польскай окупацыі быў адным са здраднікаў, які выдаваў мясцовых рэволюцыйна настроеных сялян і комуністаў палякам).

Другі кулак А. Саўліт пісаў: „Я, ніжэйпадпісаны прасьвітэр былой Вацлаўскай Эвангеліцка-лютаранскай абшчыны, А. Саўліт, гэтым даю абяцаньне, што я адмаўляюся ў будучым выконваць абавязкі прасьвітэра і прашу мяне прыняць у склад колектыву“.

Ня гледзячы на такую хітрасьць кулакоў бядняцка-серадняцкія масы латыскіх сялян правільна ацанілі паводзіны іх і пастанавілі у колгас іх ня прымаць і глядзець на іх як на здраднікаў і контррэволюцыянэраў. Але побач з гэтым няглядаўся і шэраг „левых“ загібаў, якія фактычна былі на руку кулацтву. Кулакі выкарыстоўвалі гэтыя паасобныя памылкі мясцовых працаўнікоў і павялі шалёную агітацыю, накіраваную на разбурэньне колгасаў і прыцягненьне на свой бок тых, якія яшчэ хісталіся. У выніку з 27 сакавіка ў 1930 г. пачынаецца адліў з колгасу Цэлтнэ. Паступілі 82 заявы аб выхадзе з колгасу. Вось некалькі вытрымак з гэтых заяў, якія сьведчаць аб скажэньнях партыйных дырэктыў у зьвязку з „галавакружэньнем ад посьпехаў“.

Мандрык піша: „Прашу аддаць майго каня, плуг і барану, якія я здаў у арцель, бо мы запісаліся ў прымусовым парадку. Нам гаварылі: „хто не запішацца ў колектыў, таго вышлем на луну“.

Іван Купшэ—„Прашу выключыць мяне з арцелі, бо я запісаўся супроць свайго жаданьня пад пагрозай высылкі“.

Іван Бэрзін—„Прашу выключыць мяне з арцелі ў сувязі з тым, што яна зьяўляецца організацыяй добраахвотнай без усялякіх прымусаў“.

Крумін—„Прашу выключыць мяне з сям'ёю з арцелі, у сувязі з тым, што я не хачу быць у арцелі на аснове распараджэньня ЦВК (?)

Я. Яўнайс—„Я і сям'я адмаўляемся ад арцелі таму, што мы пад страхам запісаліся. Прадстаўнікі гаварылі: „хто не запішацца таго пашлем туды, дзе трава не расьце; пашлем на луну; падкладзем колы пад хату і паедзеце; тут араць не дадзім і г. д.“.

Тут мы маем толькі пяць характэрных заяў. У астатніх у большасьці таксама паказваецца, што „пайшоў не добраахвотна, запісаўся пад пагрозаю высылкі“. Некаторыя мотывуюць свой выхад тым, што быццам „сям'я ня хоча“. Нейкі Мозер П. Ю. просіць яго выключыць, бо „я яшчэ ня ведаю колектыўнага жыцьця“. Адна жанчына піша, што яна надзвычайна добра паправілася ад „пароку сэрца“, а як муж запісаўся ў колектыў, дык зноў захварэла і таму просіць выключыць яе і ўсю сям'ю з колектыву. Другая жанчына піша: „ня згодна жыць у колектыве і мужа ня пушчу“. Нейкая Акуліна Хвошч піша: „Я не магу застацца ў колектыве, бо баюся—ня зладжу“.

З усіх гэтых вытрымак відаць, што ў латыскіх колёніях таксама былі „левыя“ загібы, якія потым даволі цяжка было выпраўляць. Яны сьведчаць аб тым, як кулацтва старалася выкарыстаць момант і стаць на чале разлажэньня колгаснага руху.

У Руднянскім сельсавеце, Расонскага раёну, у пачатку 1930 году былі організаваны чатыры колектывы. У выніку разлагаючай працы кулацтва ўсе яны рассыпаліся, застаўся толькі адзін колектыў імя „Фабрыцыуса“ ў латыскай колёніі Тапары, з большасьцю латыскіх гаспадарак. Большасьць заяў членаў гэтага колгасу напісаны амаль у аднолькавай рэдакцыі, як быццам-бы пад дыктоўку; многія просяць „прыняць у колектыў па растлумачэньню Аболіна“ (кулака) альбо па растлумачэньню Азолнэка (прасьвітэр лютаранскай царквы). Такім чынам, можна заўважыць, што тактыка кулацтва ўпачатку заключалася ў тым, каб уступіць у колгас, стаць організатарам колгасу і разбурыць яго знутры. Але-ж гэты манэўр кулакоў сустрэў адпор з боку бядняцкай часткі латколёніі.

Амаль ва ўсіх колектывах мы заўважаем выпадкі поўнага распаду старой сям'і: ёсьць шмат выпадкаў, калі дзеці ўвайшлі ў колектыў, а бацькі засталіся жыць па-старому. Муж ідзе ў колектыў, а жонка не. Жанчына вядзе барацьбу за тое, каб мужа „адваяваць“ для сябе з колектыву. Але-ж бывала і наадварот: жонка зьяўляецца самай актыўнай колгасьніцай, а муж супроць колектыву. Жонка выганяе мужа з хутара і гаворыць: „Калі хочаш са мною жыць, уваходзь у колектыў, ня хочаш ісьці ў колектыў, выбірайся з дому“. Здараліся яшчэ і такія „трагэдыі“: „Сёньня 18 мая 1930 г. бацька і жонка мне катэгорычна заявілі, што на работу ў колектыў ня пойдуць. Яны гавораць: „ідзі адзін і жыві там адзін“, а калі гэтак, то мне ласьне з-за колектыўнага жыцьця разьдзяліцца з маёю сям'ёю. Таму прашу ўвайсьці ў мае цяжкое становішча. Я хварэю цэлую нядзелю, растлумачваючы старому, жонцы і ўсёй сям'і. Перамагчы ня маю сілы. Прашу выключыць“ (колектыў „Яўнайс Цельш“ у Падзерах, Асьвейскага раёну). Вось якую вялікую ломку ўносіць колектывізацыя ў людзкія ўзаемаадносіны. Новыя соцыялістычныя вытворчыя адносіны ўтва-

раюць новыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. У часе гэтай вялікай ломкі праходзіць шалёная клясавая барацьба. Аджываючая і вымірaючая кляса вясковай буржуазіі, кулацтва, стараецца ня толькі ўтрымацца, але ўсімі сіламі супраціўляецца пабудове новага жыцьця, утварэньню новых колектыўных людзкіх адносін. Яна стараецца ўсімі сродкамі нацкоўваць сялян супроць колгасаў і комуністычнай партыі. У такіх контр-рэволюцыйных мэтах яны скарыстоўваюць старыя традыцыі патрыярхальнай сям'і, сямейны распад сялянства, рэлігію і г. д. У многіх выпадках кулацтва ўжывала прыёмы запужваньня сялянства, пераконваючы сялян ня ўступаць у колгас, бо „скора прыдуць палякі і перарэжуць усіх комуністаў і колгасьнікаў“. Гэта яшчэ мала. Апрача такой агітацыі кулацтва ў шмат якіх выпадках організоўвала тэрорыстычныя акты супроць комуністаў, колгасьнікаў і інш. грамадзкіх дзеячоў і корэспондэнтаў. Такая клясавая барацьба адбываецца ўсюды, дзе ставіцца пытаньне „кто кого“. Для латыскіх беднякоў і серадднякоў у латыскіх колёніях гэта барацьба за колектывізацыю была больш цяжкая, бо яны маюць справу з больш адукаваным і хітрым кулаком. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ў больш экономічна разьвітых латыскіх колёніях кулацкае прапластаваньне было ў некалькі раз большае, чым гэта бывае ў большасьці беларускіх вёсак. Але ня гледзячы на ўсё гэта, латыскія бядняцкія і серадняцкія масы вышлі пераможцамі. Процэс колектывізацыі ахапіў усе латыскія паселішчы ў БССР. Вось лічбы аб колектывізацыі больш компактных латыскіх паселішчаў Полаччыны на ліпень месяц 1930 г.

| №№ | Назва латыскай колёніі | Колькасьць латыскіх гаспадарак | Колькасьць уступіўшых у колектывы | Колькі засталося па-за колектывамі |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Вацлавава . . . . . | 89 | 26 | 63 |
| 2 | Белае. . . . . . | 15 | 7 | 8 |
| 3 | Тапары-Васількі . . . . | 18 | 8 | 10 |
| 4 | Падзеры . . . . . | 13 | 6 | 7 |
| 5 | Дзюмоўшчына . . . . | 17 | 1 | 16 |
| | Разам . . . | 152 | 48 | 104 |
| | %% . . . . | 100,0 | 31,5 | 68,4 |

Мы ня маем вестак аб усіх паасобных латыскіх гаспадарках, рассыпанных па Полаччыне, але сабраны матар'ял аб 152 латыскіх гаспадарках, якія знаходзяцца больш-менш у цэлых вёсках, высьвятляе агульную тэндэнцыю колектывізацыі латыскіх гаспадарак у Полаччыне. Вышэйпаданая табліца паказвае, што з 152 гаспадарак уступілі ў колектыў 48 гаспадарак, ці 31,5%, і засталося па-за колектывам 104 гаспадаркі, ці 68,4%. На сьнежань месяц 1930 году, па матар'ялах Нацкамісі ЦВК БССР, у Вацлаўскім сельсавеце былі колектывізаваны 32 гаспадаркі альбо 35% усіх латыскіх гаспадарак. Разам з беларускімі гаспадаркамі колектывізавана ўсяго 57 гаспадарак.

Па былой Віцебскай акрузе на 1 ліпня 1930 г. лічбы колектывізацыі наступныя:

| №№ | Назва латыскай колёніі | Колькасьць латыскіх гаспадарак | Колькі ўступіла ў колектыў | Колькі па-за колектывам | Выехаўшых |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Поташня . . . . . | 54 | 14 | 35 | 5 |
| 2 | Пальмінка . . . . | 23 | 10 | 13 | — |
| 3 | Храпавічы (Даўжанскі с/с, Біраўлянскі с/с. і Мікалаеўскі с/с.) . . | 49 | 15 | 34 | — |
| 4 | Абухова . . . . . | 10 | 5 | 2 | 3 |
| 5 | Вуна . . . . . | 70 | 25 | 45 | — |
| 6 | Горбава . . . . . | 40 | 16 | 24 | — |
| 7 | Шульцава . . . . | 37 | 22 | 15 | — |
| 8 | Пудоты . . . . . | 54 | 2 | 52 | — |
| 9 | Левантова . . . . | 16 | 6 | 10 | — |
| 10 | Лусканава . . . . | 9 | 3 | 6 | — |
| 11 | Крынкаўскі с/с. . . , | 17 | 3 | 14 | — |
| 12 | Косьцеўскі с/с. . . . | 52 | 3 | 49 | — |
| 13 | Матушова, Бржэзова і Кульяціна . . . | 64 | 39 | 25 | — |
| 14 | Глоднікі . . . . . | 30 | 15 | 15 | — |
| 15 | Выдрэйскі с/с. . . . | 19 | 10 | 9 | — |
| | Разам . . . | 544 | 188 | 348 | 8 |
| | %% . . . . | 100,0 | 34,5 | 64,1 | 1,4 |

З вышэйпаказанай табліцы відаць, што на 1 ліпня 1930 г. на Віцебшчыне латыскіх гаспадарак, уступіўшых у розныя колектывы, налічвалася больш чым адна трэцяя частка ад усіх латыскіх гаспадарак. У латыскай колёніі Латрошча ў гэты час з 28 латыскіх гаспадарак уступілі ў колгас „Цыня“ 20, па-за колгасам засталіся толькі 8 гаспадарак. На першае студзеня 1931 г. Вячэрскі (Кастрычнікаўскі) латыскі сельсавет Глускага раёну быў колектывізаваны на 32%, Галіч-Мыскі латыскі нацсельсавету Калінінскім раёне быў колектывізаваны на 45%. У Вунаўскім латнацсельсавеце ў сьнежні месяцы 1930 году было колектывізавана 63 гаспадаркі, а калі ўзяць латыскія гаспадаркі асобна па гэтаму сельсавету, дык з іх увайшлі ў колгас 39 гаспадарак, альбо 52,7% з агульнага ліку латыскіх гаспадарак. Па Гарбаўскаму сельсавету латыскіх гаспадарак 39, з іх у колгасы ўступілі 16 гаспадарак, ці 41%.

У БССР ёсьць толькі адзін латыскі нацсельсавет Грудзінскі, Быхаўскага раёну, дзе ў пачатку 1930 г. латыскі колгас распаўся па наступных прычынах: замест добраахвотнасьці ўжываліся адміністрацыйныя мерапрыемствы, дрэнна была пастаўлена растлумачальная праца сярод сялян. На пытаньне сялян аб велічыні харчовага пайку

ў колгасе мясцовыя працаўнікі адказвалі, што яны ў месяц будуць атрымліваць „10 фунтаў жытняй мукі, 12 фунтаў бульбы і 4 фунты крупы“. Такія выдумкі шмат каго адбілі ад колгасу. Пасьля адліву ў колгасе засталося каля 9 гаспадарак, але правыя опортуністы з Быхаўскіх раённых устаноў пасьпяшылі зусім ліквідаваць гэты колгас. Пры гэтым абагуленыя сродкі вытворчасьці былых кулакоў былі адданы суседняму колгасу, зямля гэтых кулакоў раздавалася ў карыстаньне паасобным індывідуальным гзспадаркам і г. д., але праз некалькі месяцаў—14 сакавіка 1931 г. у Грудзінаўцы зноў аформіўся латыскі колгас з 14 гаспадарак. Скора гэты колгас папоўніўся яшчэ 7 новымі гаспадаркамі, і на 8 красавіка 1931 году ўжо меў 21 гаспадарку. За гэты кароткі час колгас правёў належную працу па абагульваньні сельска-гаспадарчага інвэнтару, жывёлы і г. д.

Такім чынам, латыскія гаспадаркі на 1 ліпня 1930 году былі колектывізаваны на 30,1%. Калі меркаваць па тых тэмпах колектывізацыі, якія праходзілі ў Вунаўскім і Вячэрскім латыскіх нацыянальных сельсаветах, а таксама і па Гарбаўскаму сельсавету, дык можна ўпэўнена сказаць, што латыскія гаспадаркі ў першым квартале 1931 г. амаль што напалову ўжо колектывізаваны. Гэта значыць, што латыскі серадняк ужо рашуча стаў на бок соцыялізму. Гэта паказвае, што вялізарны пад‘ём колектывізацыі ахапіў латыскае працоўнае сялянства і што ў час другой бальшавіцкай колгаснай вясны 1931 г. у БССР няма такога латыскага паселішча, дзе-б не існаваў колгас. Азначаны вялізарны ўздым колектывізацыі з кожным месяцам разгортваецца ўсё больш і больш, і другая палова латыскіх гаспадарак, якая яшчэ не колектывізавана, пераканаўшыся ў перавагах колектыўнай гаспадаркі, таксама шпарка пойдзе па шляху колектывізацыі, па шляху соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

---

В. С.

# Незакрануты вучастак краязнаўчай працы.

Да апошняга часу пытаньнем лясной гаспадаркі і лясной прамысловасьці ў БССР краязнаўчыя організацыі зусім не займаліся і не займаюцца, тым часам пытаньне гэта зьяўляецца надзвычайна актуальным. Лясная гаспадарка і лясная прамысловасьць у агульнай сыстэме гаспадаркі нашай савецкай рэспублікі, а таксама і ўсяго Савецкага Саюзу займае вялікае месца. СССР па лясной плошчы і па якасьці дрэўных парод займае першае месца ў сьвеце. Лясная плошча СССР складае каля 30% сусьветнай лясной плошчы, а продукцыя нашых лясоў складае 3,7% сусьветнай лясной продукцыі. У БССР пад лясамі занята каля 25% усёй тэрыторыі. Па сваёй лясістасьці БССР стаіць вышэй Польшчы (22,8), Германіі (23%) і Літвы (19,1%) усёй плошчы). Значэньне нашых лясоў у сувязі з ростом нашага соцыялістычнага будаўніцтва з кожным годам усё ўзрастае і павялічваецца. Лясы ў нас зьяўляюцца базай сыравіны для нашага вялізарнага саўгаснага і колгаснага будаўніцтва, магутнай крыніцай энэргіі, апалу, сыравіннай базай для прамысловасьці і значнай крыніцай для экспорту і валюты. Значэньне нашых лясоў і лесазагатовак вельмі выразна падкрэсьліў т. Галадзед на III сэсіі ЦВК БССР у сваім дакладзе аб контрольных лічбах:... „лесазагатоўкі зьвязаны з ажыцьцяўленьнем пляну капітальных работ па індустрыялізацыі Саюзу і па будаўніцтву саўгасаў і колгасаў“. Лесазагатоўкі і лесавывазкі зьвязаны з нашым экспортам, а таксама з нашай валютай.

Лясны экспорт зьяўляецца ў нас галоўнай крыніцай для атрыманьня валюты, якая нам неабходна для набыцьця трактароў, комбайнаў і розных машын для нашай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Патрэбнасьць у драўніне ў нас расьце з кожным годам. З дзяржаўных лясоў БССР у 1926-27 г. было адпушчана 7 мілн. куб. м. драўніны, у 1927-28 г. — 10 млн. куб. м., у 1928-29 г. — 12 млн. куб. м., у 1929-30 г. — 13 млн. куб. м., а ў 1931 г. будзе адпушчана 15 млн. куб. м. драўніны. З кожным годам павялічваецца і прыбытак ад нашых лясоў: у 1926-27 г. — 27 млн. руб., у 1927-28 г. — 35 млн. руб., у 1928-29 — 44 млн. руб. Калі-ж улічыць яшчэ і тое, што нашы лясы даюць апал для ўсяго працоўнага насельніцтва краіны, зьяўляюцца пашай для жывёлы, выкарыстоўваюцца для здабываньня смалы, і для дзёгцекурэньня і г. д., дык значэньне нашых лясоў у народнай гаспадарцы краіны стане яшчэ больш відавочным.

Лясная гаспадарка ў нас да апошніх год вялася экстэнсыўна. Але ў сувязі з соцыялістычнай перабудовай усёй нашай гаспадаркі, бязумоўна, павінна была быць перабудавана на новых соцыялістычных

пачатках і такая важная галіна, як лясная гаспадарка, вялізарнае значэньне якой ужо адзначана вышэй і якая зьяўляецца вялікім об'ектам прылажэньня рабочай сілы (у сярэднім штодзень па БССР патрэбна каля 35 тыс. чал. і 100 тыс. фурманак з фурманамі для лесазагатовак і лесавывазак і вялікая армія сплаўшчыкаў у пэрыод лесаплаву). У мінулым 1929-30 г. праведзена вельмі важнае мерапрыемства — арганізацыйнае аб'яднаньне лясной гаспадаркі і лясной прамысловасьці ў адну галіну народнае гаспадаркі, і замест былых лясьніцтваў НКЗ і лесазагатоўчых арганізацый былі створаны *леспрамгасы* — савецкія фабрыкі драўніны. Леспрамгасы ў нас цяпер і зьяўляюцца нізавымі зьвеньнямі лясной гаспадаркі і прамысловасьці, якія праводзяць увесь комплекс работ, пачынаючы ад засеву лесу да вырубкі яго.

Кожны леспрамгас і ўся лясная гаспадарка і прамысловасьць у нас цяпер маюць свае цьвёрда вызначаныя плянавыя заданьні. Плянавае і навуковае вядзеньне лясной гаспадаркі і прамысловасьці зьяўляецца неабходнай умовай соцыялістычнай рэконструкцыі гэтай важнейшай галіны народнай гаспадаркі БССР. Краязнаўчыя арганізацыі, як масавыя навукова-дасьледчыя арганізацыі, павінны прыняць самы актыўны ўдзел у вывучэньні соцыялістычнай перабудовы лясной гаспадаркі, у дасьледваньні і выяўленьні найлепшых форм і мэтодаў гэтай перабудовы ў практычных мэтах. Неабходна арганізаваць *комплекснае вывучэньне леспрамгасаў* пад пунктам погляду ажыцьцяўленьня контрольных задач, вызначаных пяцігадовым плянам разьвіцьця лясной гаспадаркі і выяўленьня ўнутраных магчымасьцяй перавыкананьня пляновых заданьняў. Адсюль з усёй неабходнасьцю выцякае задача для ўсіх краязнаўчых арганізацый — уцягнуць у краязнаўчую працу работнікаў леспрамгасаў і рабочых, занятых па лесараспрацоўках, лесавывазках, лесасплаве і арганізаваць у леспрамгасах спэцыяльныя краязнаўчыя ячэйкі.

У лясной справе ў нас цяпер адбываецца сапраўдная тэхнічная рэволюцыя і вялікія рэконструкцыйныя зрухі. Краязнаўчыя арганізацыі па мясцох павінны прыняць актыўны ўдзел у найхутчэйшым ажыцьцяўленьні новых мерапрыемстваў, якія праводзіць партыя і савецкая ўлада ў лясной справе. Зараз „адміраюць дапатопныя мэтоды працы, адмірае ўсезнаўства, адмірае тапор, — у работу ўводзіцца мэханізаваная піла, трактар і іншыя найскладанейшыя прылады вытворчасьці; на зьмену адзіночцы-лесарубу прыходзіць брыгада (Рабочий, № 71, 1931 г.) і вось вывучэньне новай тэхнікі ў лесараспрацоўках і лесасплаве, вывучэньне найлепшых мэтодаў укараненьня гэтай тэхнікі, вывучэньне новых форм арганізацыі працы ў лесе і на рацэ, вывучэньне ўсіх магчымасьцяй соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасьці і павышэньня продукцыйнасьці працы для практычных мэт нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў данай галіне і зьяўляецца задачай краязнаўчых арганізацый.

Пытаньне краязнаўчай працы ў галіне лясной прамысловасьці ў нас зьяўляецца яшчэ зусім новым і нераспрацаваным пытаньнем і ў той-жа час пытаньнем надзвычайна актуальным. На гэта пытаньне, бязумоўна, трэба будзе ў далейшым зьвярнуць вялікую і сур'ёзную ўвагу. Тут-жа мы застанавіліся толькі на некаторых баявых пытаньнях сёнешняга дня, за вырашэньне якіх трэба ўзяцца неадкладна.

Перад лясной прамысловасьцю („Лесбел") стаіць задача: у бліжэйшы час правесьці поўную соцыялістычную рэконструкцыю ў лясной справе, г. зн. вырашыць пытаньне аб стварэньні сталых кадраў для лесараспрацовак, лесавывазу і лесасплаву, індустрыялізаваць мэтоды

загатовак лесу, мэханізаваць працу ў лесе і на рацэ, стварыць уласны транспорт для вывазкі лесу, устанавіць бесьперапыннасьць працы ў лесе з аддзяленьнем рубкі ад вывазкі і г. д. Каб добра вырашыць гэту і іншыя задачы, патрэбна вялікая і грунтоўная дасьледчая праца ў шырокім масавым маштабе, патрэбна вывучэньне практыкі адных месц і пераносеньне яе ў другія.

Краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны заняцца вывучэньнем наступных пытаньняў:

1. Увядзеньне новай тэхнікі ў лесазагатоўкі і мэханізацыя рубкі, вывазу і сплаву лесу; увядзеньне ў практыку мэханізаванай пілы, трактару і іншых складаных прылад вытворчасьці; мэханізацыя сплаву лесу; павялічэньне продукцыі вытворчасьці і выкананьне плянаў у сувязі з пераходам (або частковым ужываньнем) на індустрыялізаваныя мэтоды лесазагатовак і лесасплаву; якія перашкоды і цяжкасьці стаяць на шляху мэханізацыі лесавытворчасьці і якія можна ліквідаваць.

2. Рабочая сіла на лесараспрацоўках, лесавывазках і лесасплавах; формы і мэтоды комплектаваньня рабочай сілы; клясавая барацьба навокал лесазагатовак у часе вярбоўкі лесарубаў і возчыкаў лесаматар'ялу; раёны комплектаваньня рабочай сілы; соцыяльны склад лесарубаў, возчыкаў, плытагонаў; прылівы і адлівы рабочай сілы ў лесазагатоўчы пэрыод і прычыны гэтых зьяў.

Уплыў колектывізацыі вёскі на формы і мэтоды вярбоўкі рабочай сілы.

3. Увядзеньне плянавасьці і бесьперапыннасьці ў лесараспрацоўках; працягненьне сэзону працы ў лесе і аддзяленьне загатоўкі лесаматар'ялу ад вывазкі; умовы правядзеньня гэтых мерапрыемстваў і вынікі іх правядзеньня.

4. Організацыя дзяржаўнага (леспрамгаснага) коннага транспорту і скарыстаньне трактараў (саўгасаў, колгасаў, МТС) у лясной прамысловасьці; экономічны эфэкт правядзеньня гэтых мерапрыемстваў.

5. Стварэньне сталых пролетарскіх кадраў у прамгасах (у сувязі з індустрыялізацыяй мэтодаў лесазагатоўчых работ, працягненьнем сэзону лесазагатовак, увядзеньнем бесьперапыннай працы ў лесе і інш.) і мэтоды павышэньня кваліфікацыі лясных рабочых і плытагонаў. Уцягненьне жанчын і падлеткаў у работу па лесазагатоўках.

> „У мэтах забесьпячэньня такога (шпаркага) тэмпу пераходу лясной гаспадаркі на рэйкі індустрыялізацыі стварыць ва ўсіх леспрамгасах ужо ў бягучым годзе (навокал трактарных баз, дзяржабозаў і г. д.) сталыя кадры лясных рабочых, з якіх вылучыць прыкладныя брыгады"... (З пастановы ЦК УсеКП(б) па дакладу Паўн. Краёв. Каміт. аб рабоце трэсту „Северолес").

6. Правядзеньне соцыялістычнай рацыяналізацыі: найлепшае выкарыстаньне трактараў, мэханічных піл, плянавасьць у працы, пераход да брыгаднай сыстэмы працы.

7. Соцыялістычныя мэтоды працы: соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ударныя брыгады, грамадзкі буксір, давядзеньне вытворчага пляну да рабочага месца, сустрэчны прамфінплян і іншыя соцыялістычныя мэтоды бальшавіцкага змаганьня за выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў.

> „Сустрэчны прамфінплян набывае асаблівае значэньне як мэтод уцягненьня ўсіх рабочых у справу соцыялістычнага будаўніцтва і як сродак змаганьня з контр-рэволюцыйным шкодніцтвам". (З верасьнеўскай адозвы ЦК УсеКП(б))

Чырвоныя абозы, лясныя суботнікі і іншыя формы ўдзелу калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў выкананьні лесазагатовак.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на вывучэньне соцыялістычных мэтодаў працы ў сплаве лесу.

8. Культурна-бытавыя ўмовы жыцьця рабочых лясной прамысловасьці: жыльлёвыя ўмовы, комунальнае абслугоўваньне, грамадзкае харчаваньне, мэддапамога; політычна-асьветная праца сярод рабочых.

Вось рад пытаньняў, якія маюць актуальнейшае значэньне ў справе соцыялістычнай перабудовы нашай лясной прамысловасьці. Вырашэньне проблемы лесазагатовак мае вялікае гаспадарча-політычнае значэньне. Краязнаўчыя організацыі павінны прыняць актыўны ўдзел у вырашэньні гэтай проблемы.

---

# На колгасных палёх.

В. Тэмп.

## Ударнікі адноўленай зямлі.

*(Колгас „Усход", Бягомльскага раёну).*

Буйнейшы ў Бягомльскім раёне колгас „Усход", Бярэзінскага сельсавету, організаваўся ўлетку 1928 г., у разгар клясавага змаганьня за новае соцыялістычнае жыцьцё, у самы разгар укараненьня „прышчэпаўшчыны", каліна Бягомльшчыне пасёлкі расьлі, як грыбы.

У час організацыі ў колгас уступіла 4 гаспадаркі вёскі Ліпск. Гэта былі першыя організатары, „сьмельчакі" таго часу. Яны ўзяліся перабудаваць вёску, выконваючы заветы Ільліча.

Але не да спадобы прышоўся колгас заможна-кулацкай частцы вёскі. Каб захаваць з асабой лепшую зямлю, асабліва сядзібную, гэтая частка організавала таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі пад шыльдай „Новы мір", куды ўвайшло 8 заможна-кулацкіх гаспадарак.

Праўда, гэтае таварыства райземкамісіяй зацьверджана ня было, як кулацкае.

К пачатку 1930 г. колгас узрос да 45 бядняцка-батрацкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Праца ў колгасе адразу пайшла па-ўдарнаму. З усёй сілай і энэргіяй узяліся колгасьнікі за вываз лесу, каб зарабіць на самае неабходнае для колгасу.

Зараз колгас мае 67 гаспадарак, якія і выехалі ў поле.

Кулацтва тым часам ня спала. Яно зараз-жа пасьля організацыі колгасу павяло супроць яго, супроць паасобных колгасьнікаў-актывістаў шалёную агітацыю. Яно ведала, што колгасу адводзіцца лепшая, бліжэйшая земля; яно ведала і тое, што з організацыяй колгасу кулацтву прыходзіць пагібель. Нават былі спробы правесьці сваіх агентаў у праўленьне, каб дэзорганізаваць работу, але гэта было выкрыта. Кулацтву дадзен рашучы адпор.

У часе організацыі колгас „Усход" меў толькі 209 га зямлі і 200 га сенажаці, 36 коняй і 2 каровы. Працаздольных колгасьнікаў было 80 чал., непрацаздольных — 73.

Да 1-га студзеня 1930 г. большасьць колгасьнікаў яшчэ зьвярталі больш увагі на сваю індывідуальную гаспадарку. Але з 1 студзеня 1930 г. колгас пачаў працаваць дружна, організавана. Пачаўся новы прыліў беднаты, батракоў у колькасьці 28 гаспадарак, ды за ленінскія дні — яшчэ 27 гаспадарак.

Веснавая пасеўкампанія 1930 г. прайшла ўдарна і сапраўды пабальшавіцку: было засеяна аўсом 59 га, ячменем 29 га, гарохам 20 га, пшаніцай 16 га, ільном 15 га, бульбай 28 га, вікай 8 га, канюшынай

12 га; было ўведзена ў пасеў і некалькі га іншых новых караньплодаў.

Колгас памог правесьці веснавую і асеньнюю пасеўкампанію 1930 г. і аднаасобнікам цягавай рабочай сілай і інвэнтаром; тут затрачана каля 50 дзён з коньмі і 20—25 чалавекадзён.

„Усход“ памог засеяць поле суседнему маладому колгасу „Чырвоная Бярэзіна“ і заробленыя на працягу дня з 12-ма коньмі грошы перадаў у фонд індустрыялізацыі краіны.

Уборачная кампанія прайшла пад знакам соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Выкапаць бульбу памаглі і аднаасобнікі. Уборка была закончана сваечасова.

Восень 1930 г. колгас сустрэў з такімі дасягненьнямі: намалочна было аўсу 321,56 цэнтн., ячменю — 259 цэнтн., гароху — 120 цэнтн., пшаніцы — 46 цэнтн., ільну-насеньня — 19 цэнтн., ільну-валакна — 22,62 цэнтн., накапана 3040 цэнтн. бульбы, 166 цэнтн. буракоў, вікі насеннай 4,5 цэнтн., канапель 2 цэнтн., пянькі 1,6 цэнтн.

Увосень пасеяна 91 га жыта, у той час калі на 1930 г. было пасеяна толькі 40 га.

Пры падрыхтоўцы да другой бальшавіцкай вясны 1931 г. насеньне ачышчана цалкам, завезана мінэральных угнаеньняў: 10 тон супэрфосфату, 8 тон вапны, мяркуецца яшчэ завезьці 7 тон вапны і 10 тон фосфарыту. Сабрана 50 пуд. попелу. Збруя адрамантавана на 100%; таксама адрамантаваны і ўвесь сельскагаспадарчы інвэнтар — плугі, бароны, машыны. Заканчваецца рамонт павозак. Заведзены новыя сельскагаспадарчыя машыны і прылады. З 1/IV пачата вывазка гною, якога ўжо вывезена больш 200 вазоў.

Канчатковае разьмеркаваньне ўраджаю на кожны працадзень дало наступны малюнак: па 1-му разраду — 61 кап., 2-му — 76 кап., 3-му — 90 кап., 4-му — 1 р. 22 кап. Усярэднім на гаспадарку прыпадае 175 пудоў збожжа. Напрыклад, *бядняк* Аўтушка Мікола Якубаў атрымаў 180 пуд. розных культур збожжа, у той час калі ў сваёй аднаасобнай гаспадарцы меў ня больш 30 пуд. ураджаю збожжа. *Батрак* Хацкевіч Арцём атрымаў 170 п. розных культур, да ўступленьня-ж ў колгас пасьвіў жывёлу і атрымліваў 15 пуд. збожжа. *Серадняк* Лазар Андрэй атрымаў даходу 427 руб., у той час калі ў сваёй аднаасобнай гаспадарцы меў ня больш 170 руб. за год. А яшчэ-ж трэба дадаць даход ад кароў, гародаў і г. д., якія знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні: Такім чынам, пры колектыўнай працы атрымліваецца даходнасьць большая ў 4-5 раз, чым пры індывідуальнай працы.

Валавы даход колгасу за 1930 год складае 33. 189 руб. 74 кап. і разьмяркоўваецца наступным чынам: а) на поляводзтва і лугаводзтва — 14.744 р.; б) у фонд на абагуленую маемасьць — (5%) — 1125 руб.; в) *у непадзельны капітал (10%)* — 1742 р., *яны разьмеркаваны так:* культ-бытавы фонд (1%) — 174 р., на непрацаздольных і часова страціўшых працаздольнасьць (2%) — 348 руб., прэм'явальны фонд (1%) — 175 руб., дапамога бяднейшым вучням (1%) — 174 руб., на разьмеркаваньне сярод колгасьнікаў па якасьці і колькасьці затрачаных рабочых дзён — 14.807 р. 90 кап.

Уборка ўраджаю, сенажаці, вывазка лесу і ўгненьня праходзіла мэтодам соцспаборніцтва і ўдарніцтва: ствараліся брыгады, брыгадзіры заключалі паміж сабою ўмовы на якасьць і колькасьць працы. Вось чаму колгас і дабіўся лепшай пастаноўкі організацыі працы, лепшай вытворчасьці, узорнай працы. За лепшую ўдарную работу, прэм'явана 22 жанчыны-колгасьніцы і 27 мужчын прамтаварамі ад 1 р. 50 к. да

10 руб. Працдысцыпліна ў летні час, у разгар палявых работ стаяла высока, у зімовы час яна часткова зьнізілася.

У колгасе выходзіць два разы ў месяц насьценгазэта „Новы Шлях“. У выпуску яе колгасьнікі прымаюць актыўны ўдзел. Газэта зьяўляецца моцным сродкам разгортваньня самакрытыкі ў колгасе. У газэце прымае актыўны ўдзел ударная колгасная селькор-брыгада з 5 чал. У колгасе маюцца добра абсталяваныя ясьлі на 30 дзяцей.

У колгасе наладжана грамадзкае харчаваньне: адчынена сталоўка на 50 чал. Харчаваньне каштуе 39 кап. у суткі. Шмат жанчын з дзецьмі таксама харчуюцца ў сталоўцы, уносячы гэтым элемэнты новага у свой бытавы ўклад.

Працуе чырвоны куток з радыё-ўстаноўкай, абсталяванай у 1931 г. Пры колгасе маецца двухкомплектная школа, школа для малапісьменных, вячэрняя партыйная школа, лікпунт, які займаецца рэгулярна і якім ахоплены ўсе няпісьменныя колгасьнікі і не колгасьнікі. Апошнія кажуць: „Мы хоць пад старасьць, але сапраўды ўбачылі „рай“ на зямлі, пабудаваны працоўнай мазолістай рукай“... Партшколу наведвае шмат і беспартыйнага актыву.

Колгас мае чырвоную і чорную дошку. На чырвоную рэгулярна заносяцца ўдарнікі, а на чорную — прагульшчыкі і лжэ-ўдарнікі, перашкаджаючыя шпаркаму разгортваньню соцбудаўніцтва. Гэты мэтод мае вялікае ўзьдзейства на ўсіх колгасьнікаў; прачытаўшы сваё прозьвішча на чорнай, кожны „чорны“ імкнецца выперадзіць „чырвонага“, такім чынам яшчэ больш разгортваецца соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

У колгасе існуюць добраахвотныя організацыі: ячэйкі Мопр, Осавіяхэму, Чырвонага крыжу і гурток першай дапамогі, але пакуль яны працуюць ня зусім здавальняюча. Гэтымі організацыямі ахоплены амаль усе колгасьнікі. Маецца вайсковы гурток, які працуе раз у тыдзень, уцягваючы і знаёмячы колгасьнікаў і аднаасобнікаў, асабліва моладзь, з вайсковымі ведамі.

Пры організацыі колгасу партыйнай ячэйкі ня было. Меліся толькі 2 комсамольцы. У сучасны-ж момант маецца партячэйка з 4-х членаў КП(б)Б і 15 кандыдатаў. Яна нядаўна організавалася з кандыдацкай групы колгасу.

Комсамольская ячэйка мае 27 чал., якія актыўна праводзяць масавую работу сярод насельніцтва.

Піонэратрад складаецца з 18 чал. Ён таксама памагае ў працы колгасу—даглядае жывёлу, зьбірае попел і г. д.

Ёсьць у колгасе і дэлегацкі пункт, у які ўваходзяць 12 дэлегатак. Кіруе дэлегацкім пунктам мясцовая настаўніца-актывістка. Сярод жанчын-колгасьніц разгорнута шырокая растлумачальная і выхаваўчая праца, у выніку чаго актыў жанчын у в. Ліпск вялікі: гэта можна бачыць і на сходах і на працы. Жанчыны пачынаюць актывізавацца і браць на буксір мужчын.

Жанчыны ўступаюць у партыю. Створаны ўдарныя брыгады ня толькі па працы ў колгасе, але брыгады „чырвоных сватоў“, задача якіх вербаваць у колгасы новых беднячак, батрачак і серадняча.

Узаемаадносіны паміж колгасьнікамі і аднаасобнікамі сяброўскія: аднаасобнікі заўсёды наведваюць колгасныя сходы, цікавяцца імі, памагаюць вырашаць пытаньні па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і інш., памагаюць колгасу ў працы. Колгасьнікі ў сваю чаргу таксама памагаюць аднаасобнікам—беднаце і ўдовам, як цягавай сілай, таксама і рабочай сілай.

Справаздачнасьць колгасу праходзіла пры масавай крытыцы і самакрытыцы, пры масавым удзеле колгасьнікаў і аднаасобнікаў. Было выкрыта шмат хворых бакоў у працы і дадзен наказ для зьнішчэньня выкрытых недахопаў.

У новы склад праўленьня былі абраны лепшыя ўдарнікі, апраўдаўшыя сябе цалкам на працы і ў кіраўніцтве колгасам.

У справаздачную кампанію колгас задаўся мэтай уцягнуць новую частку бядняцка-серадняцкіх мас і організаваць новыя колгасы ў суседніх вёсках. Для гэтага была створана брыгада па організацыі новых колгасаў, у якую ўвайшлі лепшыя колгасьнікі і колгасьніцы-ўдарніцы.

Вынік працы брыгад: у колгас „Усход" завербавана 21 гаспадарка, організаваны новыя колгасы—у вёсцы Ўлесьсе з 20 гаспадарак і ў в. Загалаўе, Глінскага сельсавету—з 8 гаспадарак.

Вялікую ролю адыгралі ў колектывізацыі 25-тысячнікі — менскія рабочыя-харчавікі. Прыехаўшы ў вёску Ліпск, яны ўзяліся ня толькі за організацыйную працу ў колгасе, але і за выхаваўчую. Была праведзена належная праца сярод жанчын. І частка тых, якія раней слухалі кулацкую хлусьню, падалі заявы ня толькі ў колгас, а і ў партыю, кажучы: „Мы цяпер зразумелі, што нас апутвалі нашы ворагі. Хочам быць у шэрагах партыі Леніна, каб памагчы будаваць соцыялізм"... Такія цяпер ужо самі вядуць працу сярод другіх жанчын—колгасьніц і не колгасьніц.

... Памятны канец лета 1930 году. Разгар уборкі ўраджаю. На палёх колгасу, як мора хвалявалася збожжа. Кулак з пенаю на губах шаптаў па-завугольлю, што не ўбяруць, агітаваў беднату ня ісьці на дапамогу колгасу, але... бедната, атрымаўшы ад колгасу дапамогу ў веснавую сяўбу, стварала ўдарныя брыгады і нават у сьвяты выходзіла на ўборку, на зло ворагу.

Колгасьнікі ўжо зацьвердзілі вытворчы плян, які на многа павялічаны ў параўнаньні з мінулым годам. Пад бульбу павялічылі плошчу з 28 га да 50 га, пад віку з 8 да 25 га, пад буракі з 1,5 да 15 га разам з гародам. Для лепшага правядзеньня сяўбы былі створаны ўдарныя брыгады. Была вынесена пастанова аб заканчэньні пабудовы да вясны 1931 году другога сьвінарніка на сто сьвінаматак і памяшканьня для 1000 шт. трусоў.

Апрача таго, мяркуецца пабудаваць кароўнік, гумно і адрамантаваць колгасны вадзяны млын, пабудаваць сілосную траншэю на 60 тон сілосных кармоў і некалькі хлявоў. Першы сьвінарнік на 100 сьвінаматак быў пабудаваны яшчэ ўвосень 1930 году.

У колгасе маецца наступны сельскагаспадарчы інвэнтар: 1 жнейка, 1 сеялка, 3 пружынавыя бароны, 3 веялкі, 1 трыер, 1 ільна-трашчотка, 1 ільна-мялка, 3 малатарні, 8 комплектаў барон „Зіг-Заг", 6 барон дзеравяных, барон з жалезнымі зубамі — 12, плугоў сакаўскіх — 13, плугоў аднаконных 31, акучнікаў 5, 1 ваўначоска, 1 касілка, 1 конныя граблі, 2 саламарэзкі, 1 сэпаратар, 18 калёс на жалезн. ходу і 25—на дзеравяным. З жывога інвэнтару: коняй—68, з іх маладняку—9 шт. З продукцыйнай жывёлы: кароў—31 шт., цялят старэй году—10 шт., цялят сёлетняга ацёлу—25, быкоў-вытворцаў мясцовай і яраслаўскай пароды—4 шт., авец—13 шт., сьвіней—106 шт.

У сучасны момант у колгасе маецца 91 гаспадарка. Усяго душ—293; з іх мужчын — 127 і жанчын — 166. Працаздольных—180 чалавек. Нацыянальны склад: палякаў 8 чалавек, яўрэяў—5, расійцаў—1 і беларусаў — 279.

Колгас мае дзьве падсобныя гаспадаркі: у былым фольварку Асавіна і Замошчы (былы двор пана Сіпайлы). Кіраўнікамі гэтых гаспадарак зьяўляюцца члены праўленьня: першай—ударніца Мацкевіч Уліта, член партыі, 60-ці год. У Замошчы — Аўтушка Віктар. Аднаасобнікаў у вёсцы Ліпск на сёнешні дзень яшчэ застаецца 54 гаспадаркі, у Замошчы 6 гаспадарак і ў Асавіне—2 гаспадаркі. Але і гэтыя абяцаюць увясну 1931 г. выйсьці ўжо разам на колгаснае поле.

Колгас вясной 1930 г. атрымаў крэдыт на 3 гады і мае наступную запазычанасьць:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | За насеньне на суму . . . . . | 3651 руб. |
| 2. | „ штучнае ўгнаеньне . . . . . | 603 „ |
| 3. | „ жывёлу . . . . . . . . . | 3791 „ |
| 4. | „ інвэнтар . . . . . . . . . | 525 „ |
| 5. | „ машыны . . . . . . . . . | 2419 „ |
| 6. | „ Розн. інш. крэдыты. . . . . | 1226 „ |
| | Разам | 12.115 руб. |

Але ўвосень 1930 г. было зьвернута дзяржаве 5592 р., і такім чынам засталося яшчэ зьвярнуць 6520 руб., якія колгас мяркуе пагасіць у гэтым 1931 годзе.

Дзяржавай быў адпушчаны колгасу на пабудову сьвінарніка і ўкомплектаваньне сьвіньнямі беззваротны крэдыт у суме 7875 руб.

Колгас падпісаўся на пазыку „Пяцігодка за чатыры гады“ на 2075 руб., а асобныя колгасьнікі — на 500 руб. На акцыі Трактарацэнтру—пакуль на 20 руб., што трэба лічыць вельмі дрэнным зьявішчам.

У гэтым годзе колгас здаў дзяржаве хлеба больш 1000 пудоў і больш 500 пуд. бульбы.

Колгас „Усход“ ужо перайшоў на зьдельшчыну. Ён ведае, што гэтым мерапрыемствам яшчэ больш узьнімае вытворчасьць працы, ударыць па гультаёх і прагульшчыках.

РВК намеціў у гэтым годзе ў колгасе „Ўсход“ пачаць пабудову будынку школы, дзе будут навучацца дзеці мясцовых і суседніх колгасьнікаў і дзеці аднаасобнікаў. Хата-чытальня ўжо адчынена і працуе.

Колгас „Усход“ узяў на грамадзкі буксір суседні колгас „Чырвоная Бярэзіна“, які знаходзіцца ад яго на адлегласьці 5 кілёмэтраў. Туды пасылаліся брыгады „чырвоных сватоў“; у выніку маецца значны прыліў у колгас „Чырвоная Бярэзіна“.

„Усходаўцы“ з непаслабнай энэргіяй і энтузыязмам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, перамагаючы ўсе цяжкасьці і вядучы рашучую барацьбу з рэшткамі капіталізму на вёсцы, з посьпехам выканаюць і нават перавыканаюць задачы, пастаўленыя перад імі партыяй і савецкай уладай.

В. Масэвіч.

# Барацьба за перабудову сельскай гаспадаркі.

*(Баркавіцкі раён)*

XVI зьезд УсеКП(б) паставіў задачу ператварэньня так званых спажывецкіх раёнаў у вытворчыя раёны малака, гародніны, сьвінагадоўлі, ільну. Гэтая задача з посьпехам вырашаецца ў БССР, якая пры дапамозе Савецкага Саюзу ператвараецца з краіны аграрнай у краіну індустрыяльна-аграрную.

Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі шпаркімі тэмпамі перабудоўваецца з гаспадаркі спажывецкай, з гаспадаркі дробнай, хутарской у гаспадарку перадавой жывёлагадоўлі і тэхнічных культур на базе колектывізацыі і будаўніцтва савецкіх гаспадарак.

Уся гэтая вялізарная работа па соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі праходзіць пад знакам разгорнутага наступу соцыялізму на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і шалёнага супраціўленьня кулацтва і ўсіх варожых элемэнтаў.

Перамагаючы вялізарныя цяжкасьці росту, партыя дабілася нячуваных посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва, дзякуючы перш за ўсё цьвёрдаму правядзеньню генэральнай лініі, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву Ленінскага ЦК, дзякуючы няшчаднай барацьбе з опортунізмам на два фронты: супроць контр-рэволюцыйнага троцкізму, які вёў нямінуча да разрыву з асноўнымі масамі сялянства, і супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, як кулацкай агентуры ў шэрагах партыі, а таксама супроць усіх відаў прымірэнцтва.

Баркавіцкі раён зьяўляецца тыповым сялянскім раёнам, дзе прышчэпаўская, нацдэмаўская політыка аставіла вялізарны сьлед, дзе пераважная большасьць б. панскіх маёнткаў асталася ўшчэнт разбуранай і землі разьбітымі на хутары, і толькі за апошнія два гады ўзяты рашучы напрамак на колектывізацыю вёсак і хутароў пры актыўным падтрыманьні з боку бядняцка-серадняцкага сялянства.

К сучаснаму моманту абагулены сэктар сельскай гаспадаркі раёну (саўгас, колгасы) складае каля 45% зямельнай плошчы, а колгасы без саўгасаў каля 31% бядняцка-серадняцкіх двароў раёну.

Баркавіцкі раён зьяўляецца адным з буйнейшых ільнаводных раёнаў (загатовачны плян 700 тон) і надалей шпаркім тэмпам спэцыялізуецца ў раён таварнага ільнаводзтва і жывёлагадоўлі. Пасеўная плошча пад ільном у 1930 г. была 3571 га, у 1931 г. мяркуецца 7264 га—рост на 103%. Рост буйнай рагатай жывёлы з 7968 галоў 30 г. мяркуецца давесьці да 10076 галоў—рост на 26.5%, па цялятах з 2666 галоў да 6122 галоў—рост на 142%, па авечках з 11274 штук да 15781 штук—

рост на 40%. Неабходна адзначыць, што контрольныя лічбы па сельскай гаспадарцы на 1931 г. даведзены да колгасаў і бядняцка-серадняцкага двара і імі ў асноўным прыняты. Такім чынам, ёсьць поўная ўпэўненасьць, што плянавыя намёткі будуць выкананы. Разам з гэтым пашыраецца кармавая база жывёлагадоўлі праз павялічэньне засеву канюшыны, кораньплодаў, сілосаваньня кармоў і г. д.

Зроблены значны зрух у справе спэцыялізацыі гаспадаркі раёну. Організаваны буйны ільно-саўгас на 7000 га, які ўжо ў мінулым годзе засеяў 436 га лёну, а ў 1931 годзе будзе засеяна 1200 га лёну. Праводзіцца спэцыялізацыя 24 колгасаў, як ільнаводна-жывёлагадоўчых, 5 колгасаў сьвінагадоўчых, 3 птушка-жывёлагадоўчых. Але ў справе спэцыялізацыі колгасаў няма адпаведнай выразнасьці. У РВК, у РКС і ў саміх колгасаў ёсьць значнае імкненьне да вядзеньня спажывецкай гаспадаркі. Будуецца завод па першапачатковай апрацоўцы ільну, які ўжо ў бягучым годзе правядзе пераапрацоўку да 10.000 тон ільну. Ён палегчыць працу як саўгасу, колгасаў, так і бядняцка - серадняцкага сялянства і тым самым будзе стымуляваць пашырэньне ільнаводзтва ў раёне.

У справе правядзеньня гаспадарча-політычных кампаній Баркавіцкі раён у некаторых галінах займае адно з першых месц па БССР.

Збожжа-загатоўкі ў асобным квартале 1930 г. далі 112% выкананьня пляну. Сустрэчны плян раёну быў у 105%. Дадатковыя збожжазагатоўкі па раёну даюць значнае перавышэньне плянавых намётак. Бульбазагатоўкі ў асобным квартале далі 105% выкананьня квартальных заданьняў. „Мобілізацыя сродкаў: сельгаспадатак выканан на 89%, самаабкладаньне 1931 г. на 89,9%, страхоўка на 90,8%, аднаразовы збор на 88,2%. Гэта становішча на 20 сакавіка 1931 г.

Ганебна адстае раён па выкананьню наступных квартальных заданьняў 1-га кварталу 1931 г.: па селькрэдыту — выкананьне на 59,1% (на 20/III-30 г.); па лініі мобілізацыі сродкаў спажыўсыстэмай выкананьне 78,7% квартальнага заданьня; па ашчадкасе — выкананьне на 15,6%. Ганебна адстаюць лесазагатоўкі і лесавывазка, а таксама дарожныя работы. Праведзены месячнік ліквідацыі прарываў зрабіў некаторы зрух, але пляны далёка ня выкананы. Ільнозагатоўкі выкананы на 48,2% гадавога заданьня (на 25/III), праўда значная частка ільну—да 1500 тон ляжыць у саломе (у саўгасе і колгасах), што складае звыш 40% пляну загатовак. Гэта тлумачыцца, галоўным чынам, няўпраўкай колгасаў і саўгасу з апрацоўкай ільну, што ўпіраецца ў нізкую тэхніку гэтага процэсу.

Падрыхтоўка да другой бальшавіцкай вясны прайшла больш плянава, больш організавана, чым у першую вясну: у асноўным контрольныя лічбы даведзены да гаспадарак. Вядзецца ачыстка насеньня (у першую чаргу ў колгасах), праводзіцца рамонт інвэнтару і збруі. Галоўнае ў падрыхтоўцы да бальшавіцкай вясны—гэта значнае пашырэньне колгаснага прыліву, што сьведчыць аб рашучым павароце бядняцка-серадняцкага сялянства на шлях колектывізацыі.

Усе мерапрыемствы па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі раёну, спэцыялізацыя яго як ільнаводна-жывёлагадоўчага, правядзеньне гаспадарча-політычных кампаній патрабавалі максымальнай увагі і энэргіі з боку партыйнай організацыі і вясковага актыву. Гэтая вялізарная работа праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, супраціўленьня кулацтва социялістычнаму наступу. Кулак і іншыя варожыя элемэнты часам тэрорам, часам падпалам, часам кулацкай агітацыяй імкнуліся пашкодзіць рабоце партыі. У часе асеньня-зімовага пэрыоду

і ў часе правядзеньня гаспадарча-палітычных кампаній у некаторых зьвеньнях парторганізацыі выкрыты рад скрыўленьняў лініі партыі:

а) Няўменьне знайсьці кулака і заможную частку вёскі і перагібы ў часе загатовак у адносінах да бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (Замшанскі, Прудзінкаўскі, Галубаўскі с/с).

б) Па віне опортуністычнага кіраўніцтва Райколгассаюзу (т. Сьвірко) рад колгасаў быў пастаўлены пад пагрозу бяскорміцы. У той час як з восені ў колгасах жывёла кармілася сенам, к вясьне не хапіла нават саломы.

в) Скрыўленьне лініі ў некаторых с/с і колгасах—орыентацыя на заможна-кулацкую частку сялянства пры поўнай адсутнасьці работы з беднатой, часам і ігнараваньня беднаты, адсутнасьці нажыму на кулака (Баркавіцкі, Галубаўскі, Кушлікоўскі, Дзернавіцкі с/саветы).

г) Ня гледзячы на наяўнасьць добрых умоў, прыліў у колгасы, які зараз у раёне значна пашырыўся, зьяўляецца вынікам „самацёку“, а ня вынікам бальшавіцкай організаванасьці гэтага прыліву.

д) Слаба пастаўлена растлумачальная работа сярод беднаты і серадняцтва па пытаньнях колектывізацыі сельскай гаспадаркі; зусім не зьвяртаецца ўвага на працу сярод жанчын.

Пералічаныя буйнейшыя недахопы гэта вынік таго, што ня глядзячы на генэральную чыстку партыі ў 1929 годзе ў Баркавіцкай організацыі КП(б)Б засталіся яшчэ агенты клясавага ворага (Касач Даніла, Капцюк Паўла, Ільляшэвіч Антось, Клімовіч Клімент, Бернік Пётра), якія шкодзяць нашай партыі.

Гэтыя прарывы яскрава сьведчаць аб тым, што ў Баркавіцкай організацыі КП(б)Б правы опортунізм пусьціў глыбокія карэньні, цэлы шэраг ячэек КП(б)Б адносіліся прымірэнча да асобных опортуністаў, не вялі барацьбы з праявамі правага опортунізму на практыцы і „левымі“ загібамі.

Кіраўніцтва Раённага Камітэту КП(б)Б мінулага складу пакрывала гэтыя агідныя праявы опортунізму на практыцы, а сучаснае кіраўніцтва РК і РКК КП(б(Б хаця і са спазьненьнем узялося за разаблачэньне і выкарчоўваньне опортуністычнай практыкі.

Райсуд, які павінен зьяўляцца надзейнай, вострай зброяй партыі і савецкай улады ў справе барацьбы за рэволюцыйную законнасьць і весьці няшчадную барацьбу з агентамі клясавага ворага, на самай справе змазвае судовыя справы, спасылаючыся на формальны бок —за літарай закону ня бачыць клясавай сутнасьці справы (справа Клімовіча, Ільляшэвіча, Берніка, Суетава і г. д.).

Неабходна выправіць гэтыя недахопы.

У цэнтар увагі неабходна паставіць прамфінплян с/г на 1931 г., контрольныя лічбы якога ў асноўным прыняты і выканаць які з посьпехам магчыма толькі на базе колектывізацыі, больш рацыянальнага засваеньня перадавой тэхнікі і лепшага скарыстаньня сродкаў вытворчасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і колгасаў.

Рашучым чынам неабходна пасунуць справу тэхнічнай перапрацоўкі продукцыі с/г. і ў першую чаргу ільну.

Толькі такім шляхам мы зможам забясьпечыць неабходныя для нас тэмпы соцыялістычнага наступу па ўсім фронце і патрэбны нам уздым таварнасьці сельскай гаспадаркі.

м. ВАЛЫНЦЫ, Баркавіцкага раёну.

В. Серафімаў.

# Колгас перамог.

*(в. Чахі, Хойніцкі р.).*

Вёска Чахі Рудакоўскага сельсавету — самая далёкая вёска ад сельсавету. Яна зьмешчана неяк у кутку ўсёй тэрыторыі сельсавету. Тут поўнасьцю захавалася трохпалёўка. Увесну 1930 г., у часы „галавакружэньня ад посьпехаў“, уся вёска была запісана ў колгас, але перад сяўбою колгас разваліўся; сяляне гаспадарылі па-старому. У 1931 годзе колгас зноў організаваўся ў сакавіку месяцы. Ініцыятарамі ў організацыі колгасу была перадавая частка беднаты. У колгас запісаліся 16 гаспадарак з 50 гаспадарак усёй вёскі. Апрача беднякоў і серадракоў, у колгас „уступілі“ заможнікі—цьвёрдазаданьнікі—з мэтай развваліць колгас. Колгас доўгі час заставаўся на паперы: не абагульваў інвэнтару, цягавай сілы, насеньня. Кулакі і падкулачнікі разгарнулі шалёную агітацыю супроць колгасу, пускаючы ў ход усялякую бязглузьдзіцу. Асабліва кулак імкнуўся дыскрэдытаваць колгас і пératварыць яго ў жарт. У мінулым годзе,—гаварылі кулакі і падкулачнікі, — організавалі колгас і нічога ня вышла, таксама і ў гэтым годзе: пагамоняць і кончыцца. Гэту кулацкую ўстаноўку шалёна праводзілі заможнікі, забраўшыся ў колгас. Калі праўленьне колгасу падышло да конкрэтнага афармленьня колгасу і патрабавала тэрміновага абагульненьня інвэнтару, цягавай сілы і здачы насеньня, то заможнікі рашуча адмовіліся гэта рабіць, праганяючы са двара брыгаду. Пры адкрытай і злоснай кулацкай агітацыі ўнутры становішча колгасу было надзвычайна шаткае. Тым больш, што работа з беднатой не вялася, бо ў вёсцы ня было ніводнага партыйца, ніводнага комсамольца; ня было людзей, якія-б правільна орыентавалі беднату і організавалі рашучы адпор кулацкім вылазкам і шалёнай кулацкай агітацыі. Асноўнае ядро беднаты ў чалавек 5—6 трымалася стойка, але было слабае і не магло організаваць масу і выкрыць твар клясавага ворага. Старшыня колгасу тав. Друнчанка прыехаў у ячэйку з „рапартам“, што колгас развальваецца, што ў колгас амаль ніхто ня верыць, што заможнік колгас забівае. Ячэйка толькі што прапрацавала пастановы красавікоўскага пленуму ЦК і пасылала работнікаў на вёску, разьбіўшы іх на брыгады. Усе лічылі, што ў Чахох у колгасе „Чырвоны Партызан“ самае цяжкае становішча. Ударная задача ўсёй партыйнай ячэйкі і сельсавету была ўтрымаць колгас у Чахох, разьбіць клясавага ворага, які ўсімі мерамі імкнуўся разваліць колгас.

Падыйсьці проста да Чахоў брыгадзе не ўдалося. Прышлося зрабіць 3-4 кілёмэтры кругу, падыйсьці з другога боку і, не патраціўшы ніводнага часу, узяцца за работу. Гэта было 22 красавіка. Быў склікан

сход колгасьнікаў і беднаты, але на сход прышла амаль уся вёска. На сходзе паставілі тры пытаньні: аб пастановах VI зьезду Саветаў па колгаснаму будаўніцтву, аб выкананьні цьвёрдых заданьняў па загатоўках і аб ачыстцы колгасу ад кулацкіх элемэнтаў. Сход з асаблівай увагай выслухаў даклад. Беднату і колгасьнікаў-беднякоў цікавіла пытаньне організацыі працы і зьдзельшчына. Падкулачнікі і на сходзе нават імкнуліся спровокаваць беднякоў і серадьнякоў на выхад з колгасу. Былі адкрытыя выкрыкі, што зьдзельшчына гэта паншчына; былі выступленьні, якія нацкоўвалі беднякоў і серадьнякоў на рабочых саўгасу: „Навошта нам колгас, пойдзем усе ў саўгас: там рабочым усё даюць, яны там добра адзеты і г. д.“ Сход даў рашучы адпор усім кулацкім вылазкам, сход поўнасьцю ўхваліў пастановы VI зьезду, а ў практычных сваіх пастановах колгас выключыў 2-х заможнікаў, якія разлагалі колгас, і пастанавіў 25 красавіка організаваць спробны выезд і паказаць, што колгас, ня гледзячы на напор клясавага ворага, да другой бальшавіцкай гатоў на справе. Тут-жа было разьмеркавана, каму што і дзе падрыхтаваць, каб да 25 было ўсё гатова.

25 красавіка — выдатны дзень у в. Чахох; і ня толькі ў Чахохі але і ў Рудакове. Гэтыя два колгасы першыя ў сельсавеце вышлі ў поле. Кулак адчуваў рашучы наступ колгасаў і для барацьбы скарыстоўваў усе сродкі. Перад выездам за ноч на колгасных палёх вырасьлі платы, кулак організаваў падкулачніка і за ноч загарадзіў „свае“ прышчэпаўскія атрубы на зямлі, якая была адведзена колгасу. Гэту работу прабаваў зрабіць і чахоўскі кулак. Ня гледзячы на гэтыя перашкоды, колгасы выступілі ў поле організаваным парадкам. Наста Друнчанка пафарбавала ў чырвоную фарбу хустку, саўгас Рудакова выслаў 2 трактары, і Чахаўцы з машынай і чырвоным сьцягам парнымі плугамі нанесьлі ўпоперак сьмяротны ўдар карэньням капіталізму, уключыліся ў армію барацьбітоў за соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі. Кулаку быў нанесен організаваны ўдар. Хоць у Чахох араць было яшчэ рана, бо ў многіх месцах стаяла вада, але ехаць дамоў не хацелася. Выбралі месца павышшэй і пасушэй і пpыняліся за ворыва. Варочаліся з поля пад вечар. Чахоўцы ўсе вышлі на вуліцу сустракаць колгасьнікаў. Адна цётка плакала. На запытаньне: Чаго плачаш яна адказала: „Вядома, колгас добра, колгас гэта наша справа, але вось з вакна хто-небудзь стрэліць і заб‘е.“ Гэта была матка аднаго маладога 18-гадовага „гаспадара“, уступіўшага ў колгас і стойка вёўшага барацьбу з кулацтвам. Кулакі адчувалі, што „яго ня возьмеш“ і ўсімі мерамі наступалі на матку, каб яна вышла з колгасу, а праз яе сарваць і сына.

Клясавы вораг не супакойваўся весьці разлагаючую працу супроць колгасу. Былі пушчаны розныя плёткі на асобных колгасьнікаў, на старшыню колгасу з мэтай пасварыць колгасьнікаў, унесьці ў колгас разлад. Трэба сказаць, што кулак дабіўся свайго, дзякуючы аслабленьню масавай работы з боку партыйнай ячэйкі і сельсавету: частка колгасьнікаў, пасварыўшыся з праўленьнем колгасу, ня вышла на работу. Патрэбна было безадкладна прыняць меры, выкрыць манэўры кулака і падкулачніка і дабіцца дружнай працы па разгортваньні бальшавіцкай сяўбы. Час не чакаў. Аб „непарадках“ у колгасе ячэйка зноў даведалася ад старшыні когасу Друнчанка. Ён так проста і гаварыў: „У нас зноў дрэнна, памажыце нам, браткі“. Ячэйка кінула лёзунг: „Сеяць!“ Быў праведзен сход колгасьнікаў і беднаты, на якім была распрацавана пастанова красавікоўскага пленуму. Шырокае абгаварэньне пастаноў было ўвязана з становішчам у колгасе. Былі выкрыты ўсе

вылазкі і манэўры клясавага ворага, і ў адказ на пастановы пленуму і заклік ячэйкі колгас на другі дзень організаваным штурмам распачаў сяўбу ячменю. Колгас гаспадарча замацаваўся. Клясаваму ворагу, які імкнуўся разваліць колгас, быў нанесен яшчэ організаваны ўдар.

Аднаасобны сэктар распачаў сяўбу пазьней, чым колгас. Клясавы вораг рашыў і тут зрабіць вылазку на развал колгасу, спэкулюючы на непаваротлівасьці сельсавету. Скарыстаўшы падкулачніка—члена сельсавету, які сваечасова не разьмеркаваў плошчу яравога кліну аднаасобнікаў, кулак выкінуў лёзунг—„Сей, дзе папала!“ А ў гэты час пад кіраўніцтвам члена сельсавету робіцца абход менш устойлівых колгасных гаспадарак з заклікам выйсьці з колгасу. „Навошта вам заставацца ў колгасе, выходзьце, я вам дам зямлі без колгасу“. Ставячы стаўку на развал колгасу, кулак ставіў стаўку і на дэзорганізацыю сяўбы аднаасобным сэктарам, на зрыў плянаў, на зрыў контрактацыі. Ячэйка, сельсавет мобілізавалі ўсе сілы, каб выкрыць провокацыю клясавага ворага. Былі прыняты ўсе меры, каб забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне другой бальшавіцкай вясны. Даўшы організаваны адпор кулаку, колгасьнікі яшчэ цясьней згуртаваліся вакол комуністычнай партыі для правядзеньня ў жыцьцё яе дырэктыў. Колгас „Чырвоны Партызан“ у адказ клясаваму ворагу аб'явіў сябе ўдарным у правядзеньні сяўбы і выклікаў на соцыялістычнае спаборніцтва суседні колгас „Чырвоны Коопэратар“. Зараз колгас заканчвае сяўбу, перавыканаўшы плян па асобных культурах на 3 гектары. Колгас перамог. Колгас нанёс руйнуючы адпор клясаваму ворагу. Колгас дабіўся прыліву, але гэты прыліў на сёньня нездавальняючы. Патрэбна работа не наскокам, а сыстэматычная і настойлівая. Організацыя беднаты і работа з беднатой — безадкладная задача партыйнай ячэйкі. Распачатая работа з моладзьдзю і жанчынамі павінна працягвацца неаслабнымі тэмпамі. Партыйная ячэйка павінна быць на варце клясавай барацьбы, выкрываючы ўсе вылазкі, тактыку і манэўры клясавага ворага, організаваць колгас і бядняцка-серадняцкія масы вёскі на бязьлітасную барацьбу з ворагам і дабіцца рашучага пералому ў прыліве ў колгас новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У партыйную і комсамольскую ячэйку ад колгасьнікаў „Чырвоны Партызан“ паступілі заявы і ў партыю і ў комсамол. Сыстэматычнай працай трэба дабіцца, каб лепшыя ўдарнікі беднякі-колгасьнікі былі ў шэрагах нашай партыі.

---

Проф. Салаўёў.

# Ці водзіцца ў БССР валасень (Gardius aquaticus Duj)?

У нашых ручаёх, копанках часта сустракаецца доўгі, тонкі чарвяк, больш-менш цёмнай афарбоўкі, які мімаволі зьвяртае на сябе ўвагу. Ёсьць думка, што гэты чарвяк, якога завуць валасьнём, быццам-бы зьяўляецца шкодным. Апошняя думка няправільная, чаму я лічу мэтазгодным сказаць некалькі слоў аб гэтым чарвяку.

Некалькі разоў улетку ў Горках будаўнічыя рабочыя прыносілі ў шклянцы ваду, якую бралі для піцьця з ручайку, што пачынаецца з акадэмічнага ставу. У гэтай вадзе плаваў валасень. Рабочыя ставілі пытаньне, што гэта за жывёліна і ці можна піць тую ваду, у якой сустракаюцца гэтыя чарвякі. На падобныя запытаньні з боку насельніцтва адказы павінны даваць краязнаўцы. Велічыня чарвяка-валасьня хістаецца ад 5 да 80 сантымэтраў і ў сярэднім даходзіць да 15—25 сантымэтраў.

Чарвяк, які жыве ў вадзе, адкладвае яечкі ў выглядзе ікраной істужкі. З яек выходзяць зусім маленькія вусені (чарва). У гэтай чарвы на пярэднім канцы цела маецца падвойны вянок кручкоў па 6 штук у кожным радзе. Сьпераду гэтых кручкоў высоўваецца востры хабаток. Пры дапамозе апошняга мікроскопічна-малая чарва ўсьвідроўваецца ў цела некаторых шасьціножак і іх лічынак, напрыклад, дробных камароў—корэтры (Corethra), матыля (Chironomus), а таксама падзёнак (Ephemeridae) і інш. Гэта першы пэрыод разьвіцьця валасьня. Далей наглядаецца наступнае зьявішча: вышэйпамянёныя шасьціножкі пажыраюцца драпежнікамі (рыбы, жукі). Драпежныя жукі—вадалюбы (Hydrophilus) і плавунцы (Dytiscus), якія жывяцца вышэйназванымі шасьціножкамі, пажыраюць, такім чынам, і чарву валасьня, якая ўнутры цела жука працягвае сваё разьвіцьцё. Гэта—другі пэрыод разьвіцьця валасьня. Калі апошні дасягае ўжо дастатковага разьвіцьця, ён сам высяляецца з кішок драпежніка ў ваду. Тутака мы яго і сустракаем. У гэтай стадыі разьвіцьця ён і аказваецца нярэдка зачэрпаным у шклянку. Вось такая біолёгія валасьня.

Сярод нашага насельніцтва існуе думка, быццам валасень пранікае пад скуру чалавека і выклікае хваробу. Калі ён можа так шкодзіць чалавеку, дык зразумела, такія-ж самыя адносіны ў яго маюцца і да свойскай жывёлы. На падставе гэтай думкі насельніцтва асьцерагаецца купацца там, дзе маюцца валасьні. Але гэтая думка, як відаць з біолёгіі чарвяка, зусім беспадстаўная. Аднак-жа паўстае пытаньне: адкуль такая думка магла ўзьнікнуць?

Сапраўды, у гэтай няправільнай думцы маецца зерне праўды, але апошняя належыць не да валасьня, а да іншых чарвякоў, якія на тэрыторыі Беларусі не сустракаюцца, а знаходзяцца ў Савецкім Саюзе толькі ў Сярэдняй Азіі. Там вядомы выпадкі, калі пад скурай чалавека, выклікаючы моцнае запаленьне, сустракаецца чарвяк такой-жа самай велічыні і знадворнага выгляду, як валасень. Гэты чарвяк завецца рыштай. У якасьці паразыта, апрача чалавека, ён сустракаецца таксама ў быка, каня, сабакі і іншых сысуноў. Сваё першапачатковае разьвіцьцё ён праходзіць у вадзе і жыве ўнутры цела маленькага рачка-цыклёпа. Адсюль можна зрабіць вывад, што памылковая думка насельніцтва адносна валасьня зьявілася ў выніку зьмешваньня двох зусім розных чарвякоў, якія толькі па выгляду падобны адзін да другога.

У некаторых месцах валасьня лічаць пашыральнікам той хваробы, якая паходзіць не ад яго, але ад конскага авадня (Gastrus equi). Авадзень ёсьць буйная муха, чарвякападобныя вусені якой жывуць у страўніку і на скуры коняй. Часамі іх знаходзяць і пад скурай чалавека.

Цікава, урэшце, адзначыць тое, што ня толькі на тэрыторыі Савецкага Саюзу, але і за межамі яго паказаная вышэй думка аб валасьні маецца. Яшчэ ў XVI стагодзьдзі ў Германіі зоолёг Гэснэр пісаў наступнае адносна валасьня: „Ён жыве ў гнілых калодзежах; завецца вадзяным цялём, відаць, таму, што калі яго цялё зьесьць, дык здыхае. Валасьні сустракаюцца на траве і падобны да конскага воласу. Некаторыя думаюць, што яны вырастаюць з гэтага воласу. Калі валасень апыніцца ў вадзе, дык робіцца рухлівым і пачынае жыць. Але гэта немагчыма. Калі чалавек праглыне валасьня, дык ён сохне і паміраe“.

Вось якія забабоны існавалі ў XVI стагодзьдзі. Але мы жывем у XX стагодзьдзі, і тое, што тады здавалася дзіўным і невядомым, ужо дастаткова вывучана. Такім чынам, на тэрыторыі Савецкага Саюзу на 14 годзе Пролетарскай рэволюцыі мы павінны дапамагаць таму, каб зьнішчаліся ўсякія памылковыя веды, каб яны замяняліся сапраўднай навукай аб прыродзе.

---

# Фэнолёгічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы [1]).

Аднэй з задач краязнаўства зьяўляецца вывучэньне біоклімату мясцовага краю. *Біоклімататам* называюць злучнасьць асаблівасьцяй, якія наглядаюцца ў ходзе пэрыодычных зьяў у жыцьці організмаў у залежнасьці ад кліматычных фактараў. Пэрыодычная зьмена такіх зьяў, як зеляненьне дрэў, цьвіценьне расьлін, пасьпяваньне пладоў, ліставападаньне, прылёт і адлёт у вырай птушак і іншыя зьявы ў розных месцах праходзіць неаднолькава. Перад краязнаўцамі паўстае вельмі цікавая і ўдзячная задача—падглядзець, зафіксаваць і вывучыць гэтыя асаблівасьці ў жыцьці організмаў свайго краю. На падставе такіх нагляданьняў складаецца сярэдні *каляндар прыроды для данай мясцовасьці,* які патрэбен для плянаваньня работ і вызначэньня розных мерапрыемстваў у сельскай і лясной гаспадарцы. Падагульненьні сталых фэнолёгічных нагляданьняў з розных пунктаў пэўнай тэрыторыі за рад гадоў дадуць матар'ял для навуковых вывадаў аб асаблівасьцях біоклімату данай краіны.

У сучасны момант фэнолёгія мае вялікае значэньне пры навуковых досьледах жыцьця організмаў, і фэнолёгічныя нагляданьні праводзяцца тут часта ў вузка-спэцыяльных мэтах, напрыклад: вывучэньня жыцьця расьлін (фіта-фэнолёгія), жывёл (зоо—фэнолёгія) альбо паасобных згуртаваньняў расьлін—лесу (леса-фэнолёгія). Для нягляданьняў у кожным выпадку вызначаюцца пэўныя об'екты, пэўныя зьявы ў жыцьці організмаў; програма нагляданьняў абмяжоўваецца пастаўленай мэтай, але часта занадта дэталізуецца, а мэтоды правядзеньня нагляданьняў разьлічваюцца на спэцыяліста (ботаніка, зоолёга, лесавода).

Краязнаўчая фэнолёгія, ставячы перад сабой мэту—вывучэньне біоклімату ў мэтах выкарыстаньня вынікаў дасьледваньня ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы,—і маючы на ўвазе масавага наглядальніка—ня вузкага спэцыяліста,—імкнецца вызначыць мінімальную програму об'ектаў дасьледваньня і даць нескладаныя, даступныя кожнаму краяведу, мэтодычныя паказаньні ў правядзеньні нагляданьняў і скарыстаньні іх вынікаў.

Ніжэйпаданая програма фэнолёгічных нагляданьняў разьлічана на масавага краяведа-наглядальніка і ахапляе такія об'екты, якія ўласьцівы для Беларусі і якія для большасьці добра вядомы. Гэтая програма вызначае для фіксацыі на працягу году ўсяго каля 150 розных

---

[1]) Гэты програмна-інструкцыйны матар'ял быў надрукаваны ў „Зборніку програм і інструкцый", вып. I, 1929 г. Тут ён падаецца ў дапоўненым і зьмененым выглядзе ў адпаведнасьці з практычнымі запатрабаваньнямі нашай лясной сельскай гаспадаркі.

*Рэдакцыя.*

момантаў з жыцьця расьлін, жывёл (птушак, казявак і інш.), а таксама мэтэоролёгічных і розных сельска-гаспадарчых зьяў. Большая палова нагляданьняў прыпадае на вясновыя месяцы — красавік-май, але і летнія і асеньнія зьявы аднолькава патрэбны і важны для вывадаў.

Для правядзеньня фэнолёгічных нагляданьняў па мінімальнай програме ўсё-ж патрэбна некаторая падрыхтоўка краяведа-наглядальніка: патрэбна ўмець знаходзіць і дакладна распазнаваць вызначаныя програмай об'екты—расьліны і жывёлы—і патрэбныя для фіксацыі зьявы ў іх жыцьці, набыць некаторую сьядомасьць аб прыблізным часе надыходу азначаных зьяў, добра засвоіць інструкцыйныя паказаньні ў гэтай працы. Ніякіх спэцыяльных прылад фэнолёгу-краяведу не патрэбна: трэба мець добрае вока, вуха і быць уважлівым і пунктуальным.

Зразумела, фэнолёгічныя нагляданьні краяведа будуць мець пэўную навуковую і практычную вартасьць толькі тады, калі яны будуць праводзіцца ў адным пэўным месцы і сыстэматычна на працягу шэрагу гадоў (ня менш 10—15). Але нагляданьні і за нязначны тэрмін можна выкарыстаць, калі яны праведзены дакладна. Важна, каб усе заўважаныя паводле програмы зьявы наглядальнікам *зараз-жа пад пэўнай датай запісваліся ў дзеньнік,* пажадана з адзнакай тых *умоў або абстаноўкі,* пры якіх праведзена нагляданьне: надвор'е, месца нагляданьня, кароткая нататка аб асаблівасьцях об'екту і інш. Калі ёсьць няўпэўненасьць у дакладнасьці тэй зьявы, якая наглядаецца, або супярэчнасьці паміж шэрагам зьяў,—пры запісу неабходна і гэта адзначыць. Фіксаваць патрэбна толькі такія зьявы, якія наглядальнік сам непасрэдна бачыў, чуў, а не са слоў іншых.

Нйбольш даступнымі і пэўнымі для фэнолёгічных нагляданьняў зьяўляюцца *расьліны.* Але і тут трэба мець на ўвазе некаторыя паказаньні. Для нагляданьняў абіраюцца такія расьліны, якія знаходзяцца ў сярэдніх умовах для данае мясцовасьці: растуць на звычайнай глебе, не на вельмі адчыненым або высокім ці зачыненым нізкім месцы. Для дрэў узрост бярэцца сярэдні, для кустоў — вышыня сярэдняя, экзэмпляры абіраюцца, бязумоўна, здаровыя, нормальныя. Такія зьявы, як, напрыклад, зеляненьне, зацьвітаньне, трэба азначыць паводле нагляданьняў над шэрагам экзэмпляраў, якія растуць у аднолькавых умовах.

Зеляненьнем называюць момант, калі дрэва (або куст) выпускае з пучка (пупышкі) лісточкі і яно як-быццам пакрыта смугай (дымкай).

Момантам зацьвітаньня лічаць, калі зьяўляюцца нормальна расчыненыя вяночкі некалькіх кветак альбо пачатак пылкаваньня коцікаў суквецьцяў, як на бярозе, ляшчыне.

Плады лічацца сьпелымі, калі яны набываюць нормальны колер і смак або пачынаюць раскідвацца,—ягады, калі, апрача таго, робяцца мяккімі і сакавітымі.

Каб падглядзець пэўны час руху соку ў бярозы, патрэбна зараней на ствале дрэва на вышыні мэтру зрабіць сьвярдзёлкам невялічкія дзіркі і, падвесіўшы да іх бутэлечку, сачыць штодня.

Над *птушкамі* нагляданьні праводзіць цяжэй, бо ня кожны наглядальнік мае магчымасьць прасачыць пэўны час іх зьяўленьня або першай песьні. Час прылёту такіх птушак, як жаўранак, удод, зязюля, салавей, трэба адрозьніваць ад іх першай песьні, якую звычайна можна пачуць толькі праз некалькі дзён пасьля прылёту.

Пры нагляданьні пралёту жораваў і гусей патрэбна адзначыць усе дні, калі іх заўважылі, і кірунак палёту. Жораваў ад гусей можна адрозьніць, дзякуючы іх сылюэтам: у першых шыя і ногі выцягнуты, у апошніх ногі падкурчаны. Апрача таго, гэтых птушак пазнаюць па крыках.

Звычайная ластаўка (касатка) ад гарадзкой адрозьніваецца тым, што горла і лоб яе бура-чырвоныя, а хвост вілкай, калі яна сядзіць; у гарадзкой надхвосьце белае і хвост складаецца, калі яна садзіцца. Часта прымаюць груноў (стрыжоў) за ластавак. Але груны зьяўляюцца пазьней, вызначаюцца сваімі чорнымі фігурамі і, лётаючы, праразьліва крычаць.

Адлёт птушак вызначыць ня лёгка, асабліва такіх, як жоравы, гусі; можна заўважыць лягчэй іх пралёт. Адлёт ластавак, буслоў і інш. пазнаецца паводле нагляданьняў за іх гнёздамі.

Нагляданьні над рознымі зьявамі прыроды (мэтэоролёгічныя) і фіксацыя розных с.-гаспадарчых момантаў зразумелы і даступны абсолютна ўсім.

Правядзеньне фэнолёгічных нагляданьняў у цэлай краіне патрабуе пэўнай організаванасьці і наладжанасьці. Справу гэтую ў БССР узялі на сябе краязнаўчыя аб'яднаньні. Раённыя бюро краязнаўства вызначаюць пункты для нагляданьняў, маючы на ўвазе асаблівасьці кожнай мясцовасьці; ЦБК надсылае програмы, інструкцыі для правядзеньня нагляданьняў і блянкі для дасылкі паведамленьняў у ЦБК. Абагульненьні праводзяцца па раёнах і па БССР, памесячна і за год.

Гэтая праца пачала праводзіцца ў БССР з 1927 году. На жаль, ня ўсе раёны разгарнулі фэнолёгічную справу, і таму абагульненьні будуць няпоўныя.

Раённым краязнаўчым бюро патрэбна энэргічней пашыраць і паглыбляць справу праз заснаваньне фэно-пунктаў пры колгасах і саўгасах, школах, леспрамгасах і інш., дзе-б праца ня спынялася ад зьмен паасобных наглядальнікаў.

Фэнолёгічная справа ў школе набывае яшчэ і пэдагогічнае, выхаваўчае значэньне. Фэнолёгічныя нагляданьні даюць вучням навык у дасьледчай працы, разьвіваюць іх здольнасьць да назіраньняў наогул, выклікаюць у іх зацікаўленасьць да вывучэньня прыроды. Але такая праца вучняў зьяўляецца і грамадзка-карыснай працай і тым больш каштоўнай, калі яна будзе праводзіцца пад пэўным кіраўніцтвам і контролем настаўніка-прыродаведа. Тут колектыў можа даць шмат, а вывад сярэдніх з шэрагу аднолькавых нагляданьняў будзе найбольш верагодным. Трэба толькі так паставіць гэтую справу, каб яна ня спынялася і ўлетку; паасобныя вучні вядуць запісы ў часе канікул, а ўвосень іх запісы можна параўнаць і абагуліць у час гурткавых або клясных заняткаў. Кожная школа на падставе фэнонагляданьняў складае *каляндар прыроды,* які выкарыстоўвае для розных мэт. Паасобныя школы могуць абменьвацца здабытымі вынікамі, што, бязумоўна, павялічыць зацікаўленасьць да фэнолёгіі.

Вельмі важна ў гэтай справе, як і пры ўсякай дасьледча-навуковай працы, каб сабраныя матар'ялы былі апрацаваны, рэалізаваны (у выглядзе табліц, карт з ізолініямі) і, па магчымасьці, скарыстаны. Гэта дасьць стымуль да новых і новых досьледаў і нагляданьняў.

Фэнолёгічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы цікава злучыць з вывучэньнем народных прымет і народнага с.-гаспадарчага календара. Усе мясцовыя сельска-гаспадарчыя прыметы, зьвязаныя з надыходам розных зьяў у жыцьці прыроды, альбо выяўляючыя народныя

погляды на залежнасьць адных фэнолёгічных фактаў ад другіх (напрыклад: пачатак сяўбы ў сувязі з прылётам птушак, ураджай або недарод у залежнасьці ад ходу зьяў вясны), трэба параўнаць з сталымі сыстэматычнымі навуковымі нагляданьнямі і даць ім належную ацэнку пры выкарыстаньні іх у сельскай гаспадарцы.

## Програма фэнолёгічных нагляданьняў па БССР.

### I. Расьліны.

1. Рух соку ў бярозы (Betula Verrukosa i B. pubescens)
2. Зацьвітаньне падбелу (Tussilago Farfara)
3. „ пралескі блакітнай (Anemone Hepatica)
4. „ пралескі белай (Anemone nemorosa)
5. „ шэрай алешыны (Alnus inkana Willd) і чорнай алешыны (Alnus glutinosa)
6. „ ляшчыны (Corylus Avellana)
7. „ падсьнежніку (Calanthus nivalis)
8. „ жоўт. курасьлепу (Anemone ranunculoides)
9. „ лотаці — балотн. курасьл. (Caltha palustris)
10. Зеляненьне чарэмхі (Prunus Padus)
11. „ бярозы
12. Зацьвітаньне чарэмхі
13. „ клёну звычайнага (Acer platanoides)
14. „ вішні садовай (Prunus cerasus)
15. „ ігрушы „ (Pirus communis)
16. „ яблыні „ (Pirus Malus)
17. „ лантушу (Convallaria)
18. „ майніку (Majanthemum bifolium DC)
19. „ жоўтай акацыі (Caragana arborescens)
20. „ парэчак чырвоных (Ribes rubrum)
21. „ бэзу звычайнага лілёвага (Syringa vulgaris)
22. „ рабіны (Sorbus Aucuparia)
23. „ (пылкаваньне) хвоі (Pinus)
24. „ каштану конскага (Aesculus Hippocastanum)
25. „ багуну балотнага (Ledum palustre)
26. „ белай акацыі (Pobinia pseudacacia)
27. „ збанкоў жоўтых (Nuphar luteum) на рэчк. і ваз.
28. Першы цьвет суніцы лесавой (Fragaria vesca)
29. „ малін „ (Rubus)
30. Першыя плады суніцы „
31. „ маліны „
32. Зацьвітаньне ліпы звычайнай (Tilia cordata)
33. „ чарніцы (Vaccinium Myrtillus)
34. Высьпяваньне чарніцы
35. Поканьне струкоў жоўтай акацыі
36. Зацьвітаньне чарнобылю-палыну (Artemisia vulgaris)
37. „ псяркі (Elsholtzia)
38. „ верасу (Calluna vulgaris Salisb.)
39. Пачатак афарбоўкі лісьця клёну (Acer platanoides)
40. „ „ асіны (Populus tremula)
41. „ ападу лісьця клёну
42. „ „ „ асіны
43. Поўнае агаленьне клёну
44. „ асіны
45. Выпадкі паўторнага цьвіценьня расьлін увосені

## II. Птушкі.

1. Зяўленьне гракоў (Tripanocorax frugiledus)
2. „ шпакоў (Sturnus vulgaris)
3. Першая песьня жаўранка (Alauda arvensis)
4. „ „ юрка-берасьцянкі (зябліка—Fingillia coelebs)
5. Зьяўленьне белай пліскі (Motacilla alba)
6. Пачатак цягі слонак (Scolopax rusticula)
7. Першыя стаі гусей (Anser)
8. „ „ жураваў (Grus grus)
9. Масавы пралёт гусей
10. „ „ жураваў
11. Выпадкі звароту назад гусей і жураваў
12. Прылёт белага бусла (Ciconia alba)
13. Першы крык удода (Upupa epops)
14. Зьяўленьне першай ластаўкі звычайнай (Chelidon rustica)
15. Першая песьня салаўя (Luscinia)
16. Першы крык івалгі (Oriolus galbula)
17. Першае кукаваньне зязюлі (Cuculus canorus)
18. Першы крык перапёлкі (Coturnix coturnix)
19. „ „ драча (Crex crex)
20. Адлёт у вырай ластавак (Chelidon rustica)
21. „ „ буслоў
22. Першыя стаі адлётных гусей
23. „ „ „ жураваў
24. Зьяўленьне гілёў (сьнігуроў Pyrrhula pyrhula)

## III. Шасьціножкі.

1. Першы аблёт пчол (Apis melifera)
2. Пачатак узятку ў пчол
3. Зьяўленьне матыля-крапіўніка (Vanessa urticae)
4. „ „ капусьніка (Pieris bras sikae L)
5. Масавы лёт хрушчоў (Melolontha)
6. Зьяўленьне камароў-кусак
7. „ мошак-таўкунчыкаў
8. „ вос звычайных
9. „ чмялёў
10. „ сьляпнёў-аваднёў
11. Першы рой пчол
12. Выпадкі масавага лёту стрэлак

## IV. Розныя жывёлы.

1. Зьяўленьне на паверхні глебы сьлядоў дажджч. чарв.
2. Першы вылет кажана
3. Першае турканьне травяных жаб
4. Першы концэрт зялёных жаб
5. Нераст шчупака
6. „ окуня
7. „ язя
8. Зьяўленьне ўвосені павучкоў-лятуноў (на павуц.)

## V. Розныя зьявы прыроды.

1. Апошні выпад сьнегу
2. Зьнікненьне сьнегавога насьцілу

3. Узьняцьце (паломка лёду) рэчак
4. „ вазёр
5. „ сажалак
6. Першая навальніца
7. Выпадкі звароту холаду ўвесну: замаразкі (пабіцьцё гуркоў, бульбоўніку)
8. „ раньняга прыходу холаду ўвосень
9. Апошняя навальніца
10. Першы марозны дзень
11. Замярзаньне рэчак
12. „ вазёр
13. „ сажалак
14. Выпад першага сьнегу
15. Першы выезд на санях

## VI. Розныя с.-г. зьявы.

1. Першы выган жывёлы ў поле
2. Першая ворка пад ярыну
3. Пачатак сяўбы аўсу } Указаць сорт. Калі сорт невядомы—адзначыць гэта
4. „ „ ячменю }
5. Пачатак сяўбы лёну
6. „ пасадкі бульбы
7. „ „ гуркоў
8. „ „ памідораў
9. Пачатак каласаваньня жыта } Назіраньні праводзіць над тымі вучасткамі палёў, дзе назіраўся і час сяўбы
10. „ „ аўсу }
11. „ „ ячменю }
12. Пачатак красаваньня жыта } Назіраць там-жа, дзе і каласаваньне
13. „ „ аўсу }
14. „ „ ячменю }
15. Пачатак масавага сенакосу на сухадолах
16. Пачатак зацьвітаньня васількоў у жыце
17. Масавы збор гуркоў
18. Першае жніво жыта
19. „ „ аўсу
20. „ „ ячменю
21. Першая сяўба жыта ўвосень
22. Першае зьяўленьне руні
23. Пачатак і канец уборкі бульбы
24. „ „ „ капусты
25. Апошні выган скаціны ў поле

## VII.

Практычнае значэньне набывае вывучэньне часу і ўмоў зьяўленьня ў розных мясцох БССР розных шкоднікаў с.-г. культур, а таму трэба абавязкова дакладна запісваць час зьяўленьня розных шкоднікаў лёну, збожжавых культур, бульбы, капусты і г. д.

1. Зьяўленьне пыльнай галоўкі (Ustilago tritici Pers.) на каласох пшаніцы.

2. Зьяўленьне пыльнай галоўкі (Ustilago nuda Kell.) на ячмені.

3. „ „ „ (Ustilago avenae) на аўсе.

4. Першае зьяўленьне ражкоў (Claviceps purpurea) на каласох жыта і інш.

5. Масавае зьяўленьне паскавай іржаўчыны (Puccinia graminis) на сьцяблох і лістах жыта, пшаніцы, ячменю і аўсу.

6. Зьяўленьне іржаўчыны „мухасед“ (Melampsora lini) на сьцяблох і лістох лёну.

7. Зьяўленьне мучністай расы (Erysiphe graminis DC) на лістох жыта, пшаніцы і інш.

8. Зьяўленьне бульбянай гнілі (Phytophthora infestans) на лістох і сьцяблох бульбы.

9. Зьяўленьне фузарыуму (Fusarium lini) на сьцяблох лёну (у выглядзе ружовых або чырвоных дзярнінак).

10. Масавае зьяўленьне майскага жука (Melolontha vulgaris).

11. „ „ драцянога жука (Agrostis lineatus)

12. Зьяўленьне яблынёвых кветажораў (Anthnomus pomorum).

13. Масавы лёт соўкі-гамы (Plusia gamma).

14. Зьяўленьне яблынёвага пладажора (Carpocapsa pow onella L.).

15. Масавы лёт беляка-капусьніка (Picris brassicae).

16. Масавае зьяўленьне капустажора звычайнага (Mamestra brassicae).

17. Час зьяўленьня пашкоджаньняў швэдзкай мушкі (Oscinus frix).

18. Першае зьяўленьне мухі-жыгалкі (Stomoxys calcitrans).

19. „ „ авадня бычачага (Hypoderma bovis).

20. „ „ конскага (Gastrophilus infestinalis).

*Увага:* Рэдакцыя просіць усіх зацікаўленых фэннагляданьнямі асоб і арганізацый даць свае конкрэтныя заўвагі адносна ўдасканаленьня як самае програмы, так і пастаноўкі ўсяе справы для практычных мэт—выкарыстаньня фэнолёгіі на службе соцыялістычнай с. гаспадарцы.

# Рэцэнзіі і бібліографія.

Р. Р.

## „Організацыя і аздараўленьне ўмоў працы ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі“.

*Выпуск I пад рэдакцыяй Дырэктара Інстытуту Аховы працы доцэнта С. Р. Дзіхцяра. Белдзяржвыдавецтва. Менск, 1930 г. Тыраж 2000.*

У зборніку зьмешчаны тры артыкулы: артыкул мэтодычнага характару С. Р. Дзіхцяра — „Найважнейшыя пытаньні навуковага дасьледваньня соцыялістычнай організацыі працы ў сельскай гаспадарцы“, С. Н. Маліпіна — „Спроба вывучэньня організацыі працы і выкарыстаньня наяўнай рабочай сілы ў колгасе“ і А. Г. Марголіна — „Організацыя быту ў колгасе „Страх ворагам“.

Перад разглядам паасобных артыкулаў мы прымушаны спыніцца і на прадмове да ўсяго зборніку. У першым-жа радку яе напісана: „Даны зборнік ні ў якай меры ня мае сваёй мэтай даць канчатковыя навукова-практычныя адказы па пытаньні організацыі працы або мэтодаў яе вывучэньня ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі“.

Аднак, у артыкуле Дзіхцяра маецца рад мэтодолёгічных установак, мы-б сказалі, досыць „канчатковых“, і рад практычных прапаноў. Такая супярэчнасьць тлумачыцца не сваеасаблівай „скромнасьцю“ т. Дзіхцяра, а правільней самастрахоўкай ад мажлівых заўваг рэцэнзэнтаў. Артыкул мае роўна 28% цытат, прывядзеньне якіх у значнай сваёй частцы зусім не вымагалася задачамі тэмы, а імкненьнем да большага аб'ёму кніжкі.

У зборніку не даведзена галоўнай сутнасьці саўгасна-колгаснага будаўніцтва, ня прымечаны і не заўважаны тыя колёсальныя соцыяльныя зрухі, якія адбываюцца на вёсцы. Дзіхцяр у сваім артыкуле ня хоча бачыць, як бядняцка-серадняцкая частка вёскі, яднаючыся ў колгасы на базе суцэльнай колектывізацыі, ліквідуе кулацтва як клясу і гэтым самым нішчыць самую мажлівасьць кулацкай кабалы. Ён ня хоча бачыць, як гэтыя-ж беднякі і серадпякі, аб'яднаўшыся ў колгасы, ствараюць, замест дробнай аднаасобніцкай гаспадаркі, буйную соцыялістычную. Ён ня ведае, што колгас ня толькі школа колектыўнай працы, ён ня ведае, што колгас — соцыялістычная форма сельскай гаспадаркі, якая перарабляе ўчарашніх дробных уласьнікаў у колектывістаў, нішчыць супярэчнасьці і розьніцу паміж прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасьцю, паміж горадам і вёскай, пролетарыятам і сялянствам.

На стар. 10 чытаем: „Справа вышэйшага, творчага навуковага процэсу — абагуліць здабытыя правільным навуковым дасьледчым

шляхам факты. Вельмі рэдка гэту справу навуковага абагуленьня ажыцьцяўляюць геніяльныя індывідуальнасьці (Маркс, Ленін),—звычайна яе творыць колектыў".

Супрацоўнікі т. Дзіхцяра так літаральна і зразумелі яго. Паколькі яны не ўладаюць у пэўнай меры вышэйшым творчым процэсам, паколькі яны не зьяўляюцца ні геніяльнымі індывідуумамі, ні колектывам, бо яны працавалі пераважна індывідуальна, то ўсякае падагульненьне здабытых імі фактаў яны адкідалі.

Даўшы, такім чынам, „пэўную" ўстаноўку ў навукова-дасьледчай працы, т. Дзіхцяр толькі нарэшце ўспомніў, што ня трэба забываць і пра марксыцка-ленінскую мэтодолёгію. І толькі пасьля ўсяго вышэйсказанага ён зазначае, што асноўнай задачай навукова-дасьледчай працы ў галіне організацыі працы ў сельскай гаспадарцы зьяўляецца: „...збор адпаведных фактаў, іх аналіз і асьвятленьне мэтодолёгіяй Маркса—Леніна дыялектычнага матэрыялізму."

Паколькі апошняя заўвага зьяўляецца пасьля папярэдніх, дык яна і не зрабіла адпаведнага ўплыву на сяброў т. Дзіхцяра па працы. Яны і ў даным выпадку падхапілі толькі адно—збор матар'ялаў. Яны з усёю рашучасьцю кінуліся зьбіраць матар'ялы, а пра аналіз і высьвятленьне іх зусім забылі, нават забылі, што і самы збор павінен праходзіць на базе марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі.

У артыкуле маецца значная колькасьць путаных і нявыразных месц. Складаецца ўражаньне, як быццам т. Дзіхцяр знарок уносіць путаніцу для таго, каб лягчэй было ўнікнуць мажлівых заўваг. Па сутнасьці мы перад сабою маем узор эклектычнае творчасьці.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, мы прыходзім да наступных вывадаў:

1—У артыкуле маецца рад памылковых установак, маецца вялікая колькасьць зусім нявыразных і блытаных формулёвак.

2—Артыкул не дае чоткай і яснай устаноўкі ў напрамку навукова-дасьледчай працы ў галіне організацыі працы. Вывады сформуляваны так, што ў іх надзычайна цяжка разабрацца.

3—Прадмова ўяўляе з сябе самастрахоўку.

У выніку ўсяго гэтага мы павінны адзначыць, што даны артыкул мэтодолёгічнага характару ня можа прэтэндаваць на кіраўніцтва—ім нельга кіравацца, бо ён па сутнасьці шкодны.

Досыць станоўчае ўражаньне робіць артыкул С. Н. Малініна. Тав. Малінін з усёю сур'ёзнасьцю аднёсься да пастаўленай задачы—проблемы організацыі працы і выкарыстаньня наяўнай рабочай сілы ў колгасе. Проблема зьяўляецца надзвычайна актуальнай і патрабуе тэрміновага і ўсебаковага дасьледваньня. Усё гэта аўтарам было ўлічана. Тав. Малінін даў амаль поўную фотографію пастаўленай ім для вырашэньня проблемы ў колгасе „Страх ворагам".

Побач са станоўчым у артыкуле маецца і адмоўнае. Аўтар чамусьці колгас „Страх ворагам" разглядае на манер робінзонаўскага востраву. Ён чамусьці зусім забыў пра тое асяродзьдзе, якое знаходзіцца навакол колгасу. Забыў, што навакол колгаснага будаўніцтва ў часе ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі разьвіваецца жорсткая клясавая барацьба. Кулак бяз бою ня ўступае сваіх позыцый. Ён стараецца пралезьці ў кожнае слабае месца колгасу і ўсімі мерамі нашкодзіць яму. Клясавая барацьба ідзе як навакол колгасу, так і ў самым колгасе. Усё гэта адбіваецца і на

організацыі працы і на ўсім жыцьці колгасу. Улічыўшы гэту акалічнасьць, аўтар змог-бы даць зусім вычарпальныя тлумачэньні па цэламу раду пытаньняў, якія дастатковага тлумачэньня ў артыкуле не знайшлі (нявыхад на працу, парушэньне працдысцыпліны, няпоўнае скарыстаньне жаночай сілы і інш.) Тлумачэньне розных недахопаў колгаснага жыцьця бязьдзейнасьцю праўленьня нельга прызнаць выстарчальным. Зусім зразумела, што ад праўленьня шмат што залежыць, але трэба лічыцца і з тым фактам, што самая бязьдзейнасьць праўленьня вельмі часта зьяўляецца вынікам пэўнага кулацкага ўзьдзеяньня.

Да недахопаў артыкулу трэба аднесьці таксама і тое, што ў першай яго палове ня даны аналіз прычыннасьці констатаваных фактаў і ня зроблены вывады з гэтых фактаў. Апошняе, трэба думаць, зьяўляецца вынікам адзначаных вышэй мэтодолёгічных установак т. Дзіхцяра. У другой частцы памылка першай часткі ў асноўным выпраўлена.

На старонках 44 і 46 праведзены досыць цікавыя табліцы аб кваліфікацыі членаў колгасу. Табліцы пабудаваны на матар'яле апросу 49 колгасьнікаў з агульнага ліку 415. Мэтод адбору гэтых 49 не паказаны, дзякуючы чаму табліцы трацяць сэнс. Вывады-ж, пабудаваныя на базе такога матар'ялу, ня могуць быць грунтоўнымі.

На старонцы 68 пры разборцы нормы выпрацоўкі ня дана цьвёрдага паказаньня аб абавязковай прапрацоўцы прыкладных норм выпрацоўкі як у паасобных брыгадах, так асабліва на пашыраных вытворчых нарадах.

Трэці артыкул д-ра А. Г. Марголіна—„Організацыя быту ў колгасе". Тэма вельмі цікавая і пастаноўка яе сваечасова. Аднак, распрацоўку гэтай тэмы нельга прызнаць дастатковай. Аўтар спыніўся, ды і то павярхоўна, толькі на частцы бытавых момантаў, а для такіх пытаньняў як культпраца, мэдычная дапамога і інш.—адвёў толькі некалькі радкоў. Такое дасьледваньне нельга назваць навуковым.

Зьмест артыкулу фактычна не адпавядае яго назьве. Па сутнасьці гэта ёсьць кароткія нататкі аб невялікай колькасьці бытавых момантаў. Бытавыя моманты, асабліва ў інтэрнацыянальных колгасах (а ў даным выпадку мы з такім колгасам і маем справу), асабліва часта скарыстоўваюцца кулаком у мэтах сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці. З гэтага пункту погляду т. Марголін павінен быў даць поўны аналіз разгледжаных ім момантаў; фактычна-ж ён гэтага не зрабіў. На старонцы 80, гаворачы аб прагулах, аўтар прыводзіць, як прычыну іх, наступнае: „... выклікаецца часта немагчымасьцю пакінуць дзяцей адных". Такое тлумачэньне ні ў якай ступені нельга прызнаць здавальняючым. Тут можа быць цэлы комплекс прычын і ў першую чаргу агітацыя кулакоў і падкулачнікаў. Памылковым зьяўляецца і тлумачэньне ненаведваньня дзяцей колгасьнікаў пляцовак баязьню інфэкцыі.

Нарэшце, трэба зрабіць агульную заўвагу адносна апошніх двух артыкулаў. Як адзін, так і другі, аполітычны, што, бязумоўна, зьяўляецца недапушчальным, тым больш што на кожным кроку мы назіраем надзвычайна абвостраную клясавую барацьбу.

Мова ўсяго зборніку вельмі каравая. Складаецца ўражаньне, што артыкулы пісаліся на іншай мове, а потым перакладаліся па слоўніку на беларускую мову асобай, якая добра не ўладае мовай.

Гэта відаць з ужываньня такіх слоў, як „няпрыймальная“ замест „ня можа быць прынята“, „нядбаласьці“ замест „нядбайнасьці“, „абсяг“ замест „круг“, „пазбыліся“ замест „пазбавіліся“, „усьцісьленьня“ замест „ушчыльненьня“, „выразістасьці“ замест „выразнасьці“, „першаіснага“ замест „першапачатковага“ і інш.

Наогул кажучы, пастаўленыя актуальныя пытаньні колгаснага будаўніцтва ў данай кніжцы не знайшлі патрэбнага навуковага вырашэньня, што ў значнай меры тлумачыцца няўменьнем аўтараў і т. Дзіхцяра карыстацца мэтодам Марксыцка-Ленінскай дыялектыкі. Гэта робіць кніжку па меншай меры бескарыснай, калі не сказаць шкоднай.

---

**А. М. Бальшакоў.**

# Кнігі аўтараў соцыялістычнага наступленьня.

1. Г. Васильев — *„Коммуна Аврора“*, из-во „Прибой“, 1930 г., 47 стар., ц. 20 к.
2. *„Как живется в коммуне“*, рассказ 14 колхозников, „Сельхозгиз“, 1931 г., 64 стар., ц. 40 к.
3. *„Как живется в сельско-хозяйственных артелях“*, рассказ 12 колхозников, „Сельхозгиз“, 1931 г. 59 стар., ц. 30 к.

---

Гэта, уласна кажучы, ня кнігі, а толькі невялічкія брошуркі. Аднак, гэтыя брошуркі — значная зьява ў нашай літаратуры. Іх неабходна адзначыць.

Усе тры кніжачкі напісаны самімі змагарамі за соцыялізм у вёсцы. Колгасьнікі ўзяліся за пяро. Аб практыцы перабудовы вёскі на соцыялістычны лад у гэтых кнігах пішуць не староньнія наглядальнікі, а самі непасрэдныя творцы і ўдзельнікі соцбудаўніцтва. Гэта якраз і робіць памянёныя брошуры глыбока-цікавымі докумэнтамі, якія маюць колёсальнае значэньне для гісторыі нашай эпохі.

Асабліва выдаюцца дзьве апошніх кніжачкі. Па-першае, — яны продукт колектыўнай творчасьці колгасьнікаў, а па-другое, — цікавай зьяўляецца самая мэтодыка стварэньня гэтых кніг, аб якой варта сказаць некалькі слоў.

Кожны з аўтараў - колгасьнікаў, напісаўшы свой невялікі нарыс, чытаў яго па два і па тры разы сярод сваіх таварышоў-колгасьнікаў, уносячы папраўкі і дадаткі. Калі нарысы аб колгасе былі гатовы—яны абмяркоўваліся на агульных сходах членаў колгасаў, прычым на гэтых сходах прысутнічалі і аднаасобнікі з суседніх вёсак. На гэтых сходах усе нарысы былі вельмі падрабязна абмеркаваны, у спрэчках указвалі на недакладнасьці і інш. У канцы канцоў, калі з прапанаванымі зьменамі згаджаўся сам аўтар і ніхто з прысутных на сходах супроць паправак не выступаў, — яны ўносіліся ў нарыс. Да складаньня сваіх кніг комунары адносіліся з такой сур'ёзнасьцю, якая зрабіла іх літаратурныя працы докумэнтамі аб колгасе.

Мы горача рэкомэндуем шырока скарыстаць усім колгасьнікам нашай краіны і, між іншым, колгасьнікам БССР, просты і для ўсіх даступны мэтод складаньня кніг аб колгасе, якім карысталіся аўтары дзьвюх кніг, памянёных тут. Кіраваньне ў гэтай справе павінны ўзяць на сябе краяведныя організацыі і прыватна — аб'яднаньні пісьменьнікаў-краяведаў, а таксама — райколгассаюзы і асабліва — мясцовая школа. Калі толькі сапраўды горача ўзяцца за справу, дык у самым

бліжэйшым будучым мы будзем мець цэлы скарб яскрава-колёрытнай і фактычна дакладнай літаратуры аб вялікай перабудове савецкай вёскі. Апрача гэтага, самы процэс „стварэньня“ падобнай кнігі будзе значнай падзеяй ня толькі для таго ці іншага колгасу, але і для ўсяе акругі, для ўсіх вакольных вёсак. Выявяцца недахопы колгасу—а таму палегчыцца шлях іх зьнішчэньня. Рэзка падкрэсьляцца ўсе дасягненьні колгасу—надзейны сродак агітацыі за колгас сярод аднаасобнікаў...

Коратка скажам аб зьмесьце выданьняў, якія мы рэцэнзуем.

Тав. Васільлеў („Коммуна Аврора“) дае надзвычайна конкрэтны матар'ял аб зараджэньні ў 1925 г. комуны ў б. маёнтку Калакудчына (на беразе Зах. Дзьвіны, каля м. Ільліна, б. Велікалуцкай акр.). Першы дзень свайго жыцьця комунары сустрэлі з трыма коньмі і пяцьцю каровамі. Запасаў збожжа — ні на сяўбу, ні на ежу. Едакоў — 27. Зямлі — 53 га ў трох, далёка адстаячых адзін ад другога, кавалках. Вакол—моцныя хутаране, насьлядоўцы сталыпінскай рэформы, воража (літаральна: з сякерамі) сустрэўшыя заснаваньне комуны. Мясцовая ўлада таксама была не на баку комунараў. Пачынаецца цяжкая, багатая яскравымі эпізодамі, шматгадовая барацьба комунараў за зямлю, за рост комуны, за колектывізацыю вакольнага насяленьня. У распараджэньні комунараў быў толькі адзін адзіны сродак агітацыі за новыя формы гаспадаркі і за новы быт — „паказ“, г. ё. героічная праца „ад раньня да зьмярканьня“ і добра наладжаныя бытавыя адносіны. І „паказ“ зрабіўся моцным сродкам, які зламаў адвечную адсталасьць сялянства. На 1 студзеня 1930 г., г. ё. праз пяць год пасьля свайго ўзьнікненьня, комуна ўжо аб'яднала 212 едакоў і мела 1340 га зямлі. Яна бурна ўварвалася з усіх бакоў у сялянскі быт, ня сустрэўшы ніякіх варожых да сябе адносін...

У кніжцы „Как живется в коммуне“ апавядаецца аб комуне „Колас“ Кінгісэпскага раёну, Ленінградзкай вобласьці. Аўтары — партыйцы і беспартыйныя, мужчыны і жанчыны — у простых, нямудрых словах, глыбока праўдзіва і без замазваньня наймалейшых промахаў і недахопаў апавядаюць аб сваёй барацьбе за колгас і аб наладжваньні свайго колгаснага жыцьця.

Увесь зьмест кнігі выяўляе адказнасьць комунараў за тую справу, якая даручана ім у колгасе і ўсьведамленьне гэтай справы, як вялікай і грамадзка-карыснай. Так, колгасьнік Багданаў піша: „Сунулі мяне для пачатку быць па начах пры конях, а потым і ўвесь вялізны статак кароў папаў да мяне, пачаў пасьвіць яго“.

Часам аўтары, самі таго не заўважаючы, зачапляюць вялікія, соцыяльныя пытаньні. Напрыклад Міронаў, пабываўшы перад комунай „Колас 2“ у другім колгасе, апавядае: „Я працаваць ня мог, хварэў. А маленькаму колектыву ўтрымоўваць непрацаздольнага члена, вядома, было не па сілах. Пачаліся ў нас нелады і ў канцы канцоў я з жонкай і таварыш адышлі і організавалі мы сваю гаспадарку. Тут я з сваёй уласнай практыкі зразумеў, што колектыўныя гаспадаркі трэба організоўваць не маленькія, ня дробненькія. *Гаспадарка чым мацней, тым лепш*“...

Кожная старонка кнігі адчыняе чытату глыбока цікавы матар'ял...

У трэцяй кніжцы „Как живется в сельско-хозяйственных артелях“ 12 колгасьнікаў апавядаюць аб жыцьці трох арцеляй, організаваных ў Сеглецкім сельсавеце Плюскага раёну, Ленінградзкай вобласьці. Тут зноў такі без усялякага замазваньня недахопаў гаворыцца аб жыцьці ў колгасах. Але тым ня менш мы пераконваемся, што кожны з кол-

гасьнікаў наогул у пяць разоў зрабіў больш і для дзяржавы і для сябе, чымся сярэдні з жывучых па-суседзтву з колгасамі аднаасобнік. Кніжка паказвае нам, што ў паасобных колгасьнікаў ёсьць рад недахопаў: і нясьмеласьць, і п'янства, і і нестараннасьць. Але колгасная маса заўсёды або стрымае сваіх членаў, якія адхіліліся ад правільнага шляху, або ў крайнім выпадку, калі яны зьяўляюцца ўпартымі, выкіне іх з свайго колектыву. Вось чаму ў колгасе справы ідуць лепш, чымся ў аднаасобнікаў...

---

# ХРОНІКА.

## Экспэдыцыі Акадэміі Навук у 1931 г.

Прэзыдыумам Акадэміі Навук канчаткова разгледжан і зацьверджан плян навуковадасьледчых экспэдыцый летам 1931 г. у раёны БССР. Для кожнай экспэдыцыі вызначаны тэрмін іх працы, мэты і адказныя кіраўнікі для кожнай як паасобнай, так і комлекснай экспэдыцыі.

У гэтым годзе ўзяты напрамак пасылаць у адзін дасьледуемы раён буйныя комплексныя экспэдыцыі з розных інстытутаў і сэкцый іх, для больш дакладнага і плянавага навуковага дасьледваньня таго ці іншага раёну БССР. Гэтым паляпшаецца якасьць навуковых досьледаў і значна скарачаюцца выдаткі на іх правядзеньне. Зацьверджаны такія навукова-дасьледчыя экспэдыцыі Акадэміі.

1)Комплексная экспэдыцыя з удзелам Інстытуту філёзофіі—антырэлігійны сэктар, Інстытуту савецкага будаўніцтва і права—сэктар савецкага будаўніцтва і права, Інстытуту гісторыі—сэктары архэолёгіі і этнографіі і ЦБК у Койданаўскі раён з мэтай вывучэньня для монографічных апісаньняў колгасаў раёну; іх быту; культуры; рэлігійных і антырэлігійных настрояў сярод насельніцтва і ў прыватнасьці ў колгасах і вывучэньня працы 2-х сельсаветаў з боку пастаноўкі масавай працы і кіраўніцтва колгасным будаўніцтвам. Удзельнікамі вызначаны т. т. Шукевіч-Трэцьцякоў, Грынблят, Канаплін, Янэль і Серафімаў. Кіраўніком экспэдыцыі т. Серафімаў. Тэрмін працы з 15-га ліпня па 15-е жніўня. Для правядзеньня экспэдыцыі вызначана 1.500 рублёў.

2) Комплексная экспэдыцыя з удзелам Інстытуту экономікі—сэкцыя эконом-географіі, Інстытуту мовазнаўства, Інстытуту гісторыі і ЦБК у Дубровенскі раён і бліжэйшыя прамысловыя цэнтры з мэтай вывучэньня прамысловасьці раёну і яе ўплыву на рэконструкцыю сельскае гаспадаркі; быту; мовы прадпрыемстваў з боку тэхнічнай тэрмінолёгіі; збору матар'ялаў для падручніка па эконом-географіі і вывучэньня гісторыі пролетарыяту на прадпрыемствах Дуброўны. Удзельнікі экспэдыцыі т. т. Лойка, Маргелаў, Самцэвіч і інш. Кіраўнік экспэдыцыі тав. Лойка. Тэрмін працы з 15-га жніўня па 15-е верасьня. Для правядзеньня экспэдыцыі вызначана 1.500 рублёў.

3) Комплексная экспэдыцыя з удзелам Інстытуту гісторыі—сэкцыі этнографіі і архэолёгіі і Інстытуту мовазнаўства ў басэйн ракі Бярэзіны для вывучэньня матар'яльнай культуры гарадоў і паселічш першых стагодзьдзяў; быту і культуры лесарубаў, плытагонаў і рыбаловаў: мовы рабочых прадпрыемстваў Барысава і Бабруйска і рабочых па сплаву лесу. Удзельнікі—т. т. Ляўданскі, Дубінскі, Сербаў, Грынблят, Канвісараў і 2 прадстаўнікі Інстытуту мовазнаўства. Кіраўнік тав. Ляўданскі. Тэрмін працы з 20-га чэрвеня па 30-е ліпня. На гэту экспэдыцыю вызначана 2.300 рублёў.

4) Комплексная экспэдыцыя Інстытуту біолёгічных навук з удзелам Наркамзему і Наркамахovы здароўя ў Бабруйшчыну для атрыманьня агульнай характарыстыкі глістанашэньня людзей і хатніх жывёл, асабліва сьвіней — гэльмінтозы якіх або пераводзяць на людзей (біогэльмінтозы—трызінельлёз) або маюць моцнае распаўсюджаньне сярод іх самых (мэтастронгілёз). Для гэтай мэты экспэдыцыя: 1) дасьледуе організаваньне масы насельніцтва ў гэтым раёне ў саўгасах і колгасах; 2) робіць досьледы ўсіх сьвіней у гэтым-жа раёне і 3) робіць выборчыя досьледы грызуноў. Мэтодыка досьледаў: 1) соматычнае, гэматолёгічнае і контролёгічнае дасьледваньне людзей ; 2) контролёгічныя досьледы сьвіней, 3) поўнае гэльмінтолёгічнае ўскрыцьцё сьвіней, кошак, сабак і пацукоў, 4) досьледы вадаразбораў на плянкце (япкі і чарвы глісты). Кіраўнік экспэдыцыі докт. Гэльшэнзон, пры ўдзеле членаў экспэдыцыі 8 чалавек. Тэрмін экспэдыцыі з 1-га жніўня па 1 верасьня, каштарыс 3.290 руб.

5) Экспэдыцыя Інстытуту геолёгіі: а) Магілеўская партыя ў складзе 4-х падпартый і 6-ці буравых атрадаў пад кіраўніцтвам акадэміка Бліодухо, якія будуць працаваць па заданьню Белколгасцэнтру і НКЗБ: першая падпартыя ў складзе 2-х буравых атрадаў дасьледуе левабярэжную частку комбінату паміж Дняпром і р. Ржаўкай плошчаю ў 70.000 га; другая падпартыя ў складзе аднаго буравога атраду дасьледуе вучастак паміж р. Ржаўкаю і Жлобінам плошчаю ў 20.000 га; трэцяя падпартыя ў складзе 2-х буравых атрадаў і аднаго атраду для

зондыровак дасьледуюць заходнюю палову паміж рэчкамі Дняпром і Дыбіснай плошч. у 90.000 га і чацьвертая падпартыя ў складзе аднаго буравога атраду для маршрутных досьледаў будаўнічых матар'ялаў і досьледаў крэйды ў раёне Кастрыцкай слабады. б) Ляднянска-Дубровенская партыя ў складзе 2-х падпартый пры 4-х бураатрадах пад кіраўніцтвам т. Кавалёва будзе праводзіць працу па заданьню Белмэліотрэсту па заканчэньню геолёгічнай здымкі і геолёгічнага вывучэньня Ляднянска-Дубровенскага агроіндустрыяльнага комбінату плошчаю ў 230.000 га. в) Трэцяя паўднёвая гідрогеолёгічная партыя з 2-ма буравымі комплектамі пад кіраўніцтвам проф. Красоўскага па заданьню Белмэліотрэсту і НКЗБ для досьледаў тэрыторыі Хойніцка-Брагінскага агроіндустрыяльнага комбінату і заканчэньня геолёгічнай здымкі 8-га аркушу XX раду і г) Чацьвертая Прапойская партыя геолёга-разьведачная для геолёга-разьведачных досьледаў Прапойскага прамысловага комбінату па заданьню ВСНГ і камітэту па хэмізацыіі народнай гаспадаркі з двума буравымі комплектамі пад кіраўніцтвам тав. Маеўскага. Акрамя гэтых 4-х партый на тэрыторыі БССР будуць працаваць ад Інстытуту геолёгіі хэмічны атрад дасьледваньня тэрыторый агроіндустрыяльных комбінатаў і топографічны атрад для працы ў вадазборы рр. Сажа і Дняпра. Акадэмія вылучае на гэту працу 15.000 рублёў. Астатнія сродкі ў памеры прыблізна 95.000 рублёў адпушчаюцца адпаведнымі організацыямі. Геолёгічныя экспэдыцыі пачынаюць сваю працу з 15-га мая і працягваюць яе да лістапада месяца.

6) Экспэдыцыі агроглебавага інстытуту па заканчэньню здымкі Гомельшчыны, Віцебшчыны і Барысаўшчыны для 3-вёрснай глебавай карты раёнаў БССР. Адказнымі проф. Афанасьеў і тав. Рагавы; тэрмін — да кастрычніка месяца. Для правядзеньня гэтай працы вызначана 12.000 рублёў.

7) Экспэдыцыя Інстытуту біолёгічных навук — сэкцыя ботанікі па вывучэньню гідрофлёры басэйну р. Бярозы і вазёр верхняй часткі гэтага басэйну і па вывучэньню флёры дэсьмідыевых у БССР. Кіраўнік экспэдыцыі проф. Ролл. Экспэдыцыя пачынае працу з 20-га чэрвеня тэрмінам на 2 месяцы. Для яе правядзеньня вызначана 2.000 рублёў.

8) Экспэдыцыя Інстытуту біолёгічных навук сэкцыі зоолёгіі ў Паганінскі масыў Брагінскага раёну (Рэчыцкае палесьсе) раён буйнай жывёлагадоўлі з мэтай вывучэньня шкоднікаў жывёлы—крывасасучыя. Адказная т. Сяргеева-Булаўка тэрмін ліпень месяц. Для правядзеньня экспэдыцыі вызначана 500 руб.

9) Экспэдыцыя інстытуту біолёгічных навук сэкцыя ботанікі ў Бабруйскі раён для вывучэньня сучаснага стану і кармовых якасьцяй сенажатных угодзьдзяў. Адказная т. Міхайлоўская тэрмін ліпень месяц выдат. 1.000 рублеў.

10) Экспэдыцыі Інстытуту біолёгічных навук — сэкцыя зоолёгіі: а) для дасьледваньня Славечанскай колёніі баброў і экономічных умоў іх разьвіцьця на р. Славешна Нараўлянскага раёну, а таксама біцэнотычных умоў возера Слаўнскага Азарыцкага раёну з мэтай організацыі там інтэгральнага тыпу паляўнічай гаспадаркі. Адказны т. Сержанін. Экспэдыцыя працуе з 1-га па 25-га чэрвеня. Выдаткі 400 рублёў. б) Для вывучэньня энтомолёгічных умоў культуры насеннай чырвонай канюшыны ў БССР у колгасе „Сьцяг соцыялізму" (Магілеўшчына) і на апорных пунктах у паўночнай і паўднёвай частках БССР. Адказным т. Добратворскі. Экспэдыцыя працуе з 1-га чэрвеня на працягу 2-х месяцаў. Выдаткі 1.500 рублёў. в) Для вывучэньня географічнага распаўсюджаньня і выяўленьня колькаснага запасу молюска „uni-on ater" у раёнах паўночнай часткі БССР з мэтай выкарыстаньня яго ў гузікавай прамысловасьці. Выдаткі 700 рублёў і г) Для вывучэньня шкоднікаў лубіну ў раёнах Меншчыны і Мазыршчыны. Адказным тав. Васільеў. Выдаткі 400 руб. Усяго па сэкцыі зоолёгіі 3.000 рублёў.

11) Экспэдыцыя Інстытуту мовазнаўства па вывучэньню мовы рабочых на прадпрыемствах Гомелю, Рэчыцы і Добруша. Адказным тав. Бузук. Тэрмін ліпень месяц. Выдаткі 400 рублёў.

12) Экспэдыцыі Інстытуту экономікі: а) сэкцыя сельскай гаспадаркі і прамысловасьці па вывучэньню суднабудаўнічага промыслу па р. Заходняй Дзьвіне. Адказны тав. Рак. Тэрмін—чэрвень месяц. Выдаткі 300 рублёў.

13) Экспэдыцыя Інстытуту гісторыі — сэкцыя археолёгіі для вывучэньня каменнага веку і бронзавай эпохі, раскопкі палеотычных стаянак у мяст. Юравічах (Мазыршчына) і ў вёсцы Клеевічах Касьцюковіцкага раёну і працяг досьледаў культур каменнага і бронзавай эпох па р. Прыпяці і Сажы. Адказны тав. Палікарповіч. Тэрмін з 25 чэрвеня па 10 верасьня. Выдаткі 1.200 рублёў.

14) Адна экспэдыцыя Інстытуту філёзофіі — антырэлігійная сэкцыя па вывучэньню сэкты евангелістаў у Багушэвіцкім раёне. Адказны тав. Даўгаполаў. Тэрмін верасень месяц. Выдаткі 400 руб.

15) Экспэдыцыя яўрэйскага сэктару для дасьледваньня фабрык і заводаў у Барысаве і Віцебску па вывучэньню соцыяльнага твару яўрэйскага рабочага на Беларусі. Удзельнікі 4 чалавекі. Адказны тав. Аляксандраў. Выдаткі 600 рублёў.

16) Экспэдыцыі польскага сэктару: а) для сканчэньня стацыянарнага досьледу Рудня-Шлягінскага сельсавету і б) у Аляксандроўскі нацыянальны сельсавет суцэльнай колектывізацыі Бялыніцкага раёну. Адказны тав. Квяткоўскі. Тэрмін ліпень—верасень. Выдаткі 800 рублёў.

Такім чынам, на ўсе экспэдыцыі Акадэмія вылучае 45.000 руб. з сваіх бюджэтных сродкаў. Акрамя гэтага Палесмэліозем, Белмэліотрэст, Колгасцэнтар Наркамзем і Нарком-

аховы здароўя вылучаюць адпаведныя сродкі, галоўным чынам, для правядзеньня навуковых досьледаў Інстытутам геолёгіі для патрэб прамысловага і колгаснага будаўніцтва народнай гаспадаркі.

Удзельнікам экспэдыцый трэба прыняць усе захады да падняцьця якасьці працы, выкананьня яе па прынцыпу соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў вызначаныя Прэзыдыумам тэрміны, захоўваючы як-мага большую экономію выдаткаў пры найлепшых якасных і колькасных паказчыках сваёй навуковадасьледчай працы.

Усе краязнаўчыя організацыі тых раёнаў, дзе будуць праводзіцца экспэдыцыі, зараз-жа павінны конкрэтна вызначыць свой удзел у тых ці іншых экспэдыцыях і наладзіць непасрэдна ці праз ЦБК сувязь з адпаведнымі інстытутамі і кіраўнікамі экспэдыцый для дэталёвага высьвятленьня характару свайго ўдзелу ў экспэдыцыях. Бязумоўна неабходна, каб кожная раённая краязнаўчая організацыя абавязкова ўключылася ў экспэдыцыі на тэрыторыі свайго ці суседняга раёну. Гэта будзе мець вялікае значэньне як у справе падрыхтоўкі краязнаўцаў у палявой навукава-дасьледчай працы, так і ў справе вывучэньне свайго раёну. Прэзыдыум БАН з свайго боку даў адпаведны загад усім кіраўнікам экспэдыцый наладзіць адпаведную сувязь з краязнаўчымі організацыямі і ўцягнуць іх у экспэдыцыйную працу.

Кожная краязнаўчая організацыя ў экспэдыцыях можа прыняць двоякі ўдзел: вылучыць сваіх прадстаўнікоў у склад экспэдыцый БАН і для выкананьня заданьняў гэтых экспэдыцый альбо вызначыць сваю спэцыяльна краязнаўчую групу для вывучэньня пытаньняў, вызначаных у сваім пляне, але ў цеснай сувязі з экспэдыцыямі БАН. Усім краязнаўчым організацыям абавязкова неабходна ў поўнай меры выкарыстаць вынікі працы ўсіх экспэдыцый для сваіх мясцовых мэт (вывучэньне глебы, карысных выкапняў, колгаснага будаўніцтва, мовы насельніцтва свайго раёну і г. д.).

Ів. Шпілеўскі.

## Праца ЦБК за студзень—красавік 1931 г.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства мае штат з 5 чал., але фактычна працуе толькі 3 чал. Пасады 2-х інструктароў не замешчаны, што дрэнна адбіваецца на наладжваньні жывой сувязі з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі, на організацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, пры школах.

У галіне організацыйнай ЦБК праведзена праверка складу часткі краязнаўчых організацый і членаў-корэспондэнтаў ЦБК., з ліку якіх выключаны, як контр-рэволюцыянэры, арыштаваныя органамі ДПУ: Мялешка С., Пяцэвіч Р, Ламака М.; праверка яшчэ ня скончана.

У студзені месяцы члены прэзыдыуму ЦБК у мэтах популярызацыі савецкага краязнаўства сярод асьветніцкіх мас прыймалі ўдзел у куставых нарадах (у Менску, Віцебску, Магілеве, Гомлі) асьветніцкага проф'актыву і зрабілі даклады аб становішчы краязнаўчай працы ў БССР у мінулым і задачах савецкага краязнаўства ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі: У радзе раёнаў у студзені—лютым праведзена „краязнаўчая пяцідзёнка“, для чаго ЦБК была выпушчана адпаведная літаратура („За савецкае краязнаўства“, тэзісы для дакладу на беларускай і яўрэйскай мове), лёзунгі; літаратурай і лёзунгамі былі забясьпечаны райштабы, краязнаўчыя і профсаюзныя організацыі.

Аднак, паведамленьняў з раёнаў аб конкрэтных выніках праведзенай пяцідзёнкі мы яшчэ ня маем, а ў некаторых раёнах у справе правядзеньня пяцідзёнкі і наогул разгортваньня краязнаўчага руху яшчэ нічога конкрэтнага ня зроблена. Працу гэту трэба разгарнуць.

У красавіку месяцы ЦБК апрацаваны палажэньні аб ЦБК і раённым бюро краязнаўства і статут ячэйкі краязнаўства (на фабрыцы, заводзе, колгасе) і паданы на зацьверджаньне прызыдыуму БАН (у аснову былі ўзяты адпаведныя палажэньні аб краязнаўчых організацыях РСФСР.); распрацаваны і разасланы на месцы прыкладны плян працы раённага бюро краязнаўства і гадавы плян працы ЦБК, а таксама дагавор на соцспаборніцтва паміж ЦБК РСФСР БССР з прапановай усім райбюро разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўчай працы.

Усім раённым бюро краязнаўства даны адпаведныя ўказаньні адносна актыўнага ўдзелу ў правядзеньні гаспадарча-політычных кампаній (пасеўнай, культпаход, перавыбары саветаў і г. д), прычым члены прэзыдыуму прымалі непасрэдны ўдзел у правядзеньні пасеўнай кампаніі, культ'эстафэты, па правядзеньню двухмесячніка агляду дасягненьняў у соцыялістычнай гаспадарцы (з выездамі для працы ў раёны). Праведзена падрыхтоўчая праца і надрукаваны матар'ялы для організацыі конкурсу на монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў, прычым ВСНГ адпушчана 800 руб. на прэміі за лепшае апісаньне фабрык і заводаў.

ЦБК апрацаваны проекты пастаноў аб садейнічаньні разьвіцьцю краязнаўчага руху па лініі ЦСПСБ, Колгасцэнтру, якія зацьверджаны і апублікаваны ў „Савецкай Краіне“.

На працягу сьнежня-студзеня-лютага праверана друкаваная продукцыя ЦБК у мэтах выяўленьня ў ёй контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і буржуазнай ідэолёгіі, вынікі праверкі ў выглядзе паасобных артыкулаў друкаваліся ў „Савецкай Краіне“.

Выдавецкая праца: выдана 4 нумары „Савецкай Краіны“, вышэй памянёныя матар'ялы да „краязнаўчай пяцідзёнкі“, брошура В. Серафімава—„Вывучай колгас“, В. Самцэвіча—„Як організаваць краязнаўчую працу

на фабрыцы і заводзе" і перавыдана брошура „Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў" (выд. ЦБК РСФСР).

У мэтах пашырэньня часопісу „Савецкая Краіна" прароблена наступнае: рэдакцыя часопісу разаслала ўсім былым падпісчыкам, тэрмін якіх скончыўся, лісты аб гэтым і па 1 нумары часопісу, даны дырэктыўны ліст аб гэтым усім раённым бюро краязнаўства, наладжана сувязь пэрсональная з 30—50 актывістамі, якія распаўсюджваюць часопіс па пасланых ім кеіткох, складзены і разасланы лісты ЦБК, Колгасцэнтру, Трактарацэнтру да ўсіх РКС, колгасаў і МТС, ЦБК і ВСНГБ да ўсіх прамаб'яднаньняў, фабрык і заводаў, ЦБК і НКА да ўсіх ВНУ, тэхнікумаў, школ, раённых інспэктароў асьветы аб распаўсюджваньні часопісу. Мяркуецца выданьне спэцыяльнага плякату для мэт яшчэ большага пашырэньня часопісу.

## Чырвона-Слабодчына абуджаецца.

*Рэзолюцыя краязнаўчай конфэрэнцыі Чырвона-Слабодзкага раёну ад 4 мая 1931 г.*

Заслухаўшы справаздачу аб працы Раённага краязнаўчага таварыства раённая краязнаўчая конфэрэнцыя адзначае, што:

1. Раённае краязнаўчае таварыства не змагло пераключыць сваю працу на службу социялістычнаму будаўніцтву. Таварыства ня толькі не дапамагала ў справе вывучэньня прыродных і экономічных магчымасьцяй социялістычнага будаўніцтва ў раёне, а плялося ў хвасьце і ў апошнія часы праца зусім заняпала.

2. Не змагло скласьці грамадзкую думку наўкола пытаньняў краязнаўства і апошняе зусім не популярызавана сярод рабочых, колгасьніцкіх і бядняцка-серадняцкіх мас і апошнія зусім ня ўцягнуты ў краязнаўчую працу.

3. Ня выканана дырэктыва ЦБК аб арабочаньні складу краязнаўчага таварыства.

4. Зусім ня прымала ўдзелу, як організацыя ў правядзеньні розных палітычна-гаспадарчых кампаній у раёне.

5. Ня было кіраўніцтва існуючымі краязнаўчымі гурткамі.

У далейшым конфэрэнцыя лічыць неабходным:

1. Зараз-жа новаму складу Райбюро Краязнаўства зрабіць карэнны пералом у працы краязнаўства, накіраваўшы гэтую працу на дакладнае дасьледваньне і вывучэньне экономічных рэсурсаў і прыродных умоў для социялістычнага будаўніцтва ў раёне.

2. Прыняць непасрэдны ўдзел у справе пасьпяховага правядзеньня бальшавіцкага севу і вынікі ўдзелу скарыстаць для разгортваньня дасьледчай справы.

3. Тэрмінова організаваць краязнаўчыя гурткі пры саўгасах, колгасах і ШКМ.

4. У працягу лета і восені з'організаваць сталы краязнаўчы музэй, які-б адбіваў дасягненьні нашых саўгасаў, колгасаў і мясцовай прамысловасьці.

5. Правесьці сталае вывучэньне колгаснага руху ў раёне і пабудаваць працу так, каб яна непасрэдна зьяўлялася дапаможнікам компартыі і савецкай уладзе па выкананьню 5-гі ў 4 гады.

6. Заключыць умову па соцспаборніцтву з другім Райбюро краязнаўства.

7. Організаваць у летні час краязнаўчыя экскурсіі па раёну.

На конфэрэнцыі абрана Раённае Бюро краязнаўства ў складзе 7 членаў і 2-х кандыдатаў. У Бюро ўвайшлі т. т. Страляня С., Карнацкі, Урбановіч С., Чорнагубаўскі Р., Дробянь В., Шыфрына Д. і Барысевіч; кандыдаты—Герасімовіч З. і Драбатовіч.

## Адказы і парады пачынаючым краязнаўцам.

1. П. Шыркову (в. Звальніца, Чачэвіцкі р.) У нашым часопісе „Савецкая Краіна" вызначаны конкрэтныя задачы, над вырашэньнем якіх неабходна працаваць усім краязнаўчым організацыям і паасобным краяведам (вывучэньне прыродных багацьцяў свайго раёну, разьвіцьця прамысловасьці, колгаснага будаўніцтва, організацыі працы ў колгасах, вывучэньне культуры і быту і г. д.) Па гэтых пытаньнях у „Савецкай Краіне" зьмешчан ужо шэраг програмна-мэтодычных матар'ялаў (аб вывучэньні фабрык і заводаў, колгасаў, быту колгасьнікаў і інш). Каб быць у курсе сучасных задач, якія стаяць перад савецкім краязнаўствам, кожны краявед павінен выпісваць і чытаць „Савецкую Краіну". Прачытайце нашы „адказы і парады" ў № 4 „Сав. Краіны." Організуйце краязнаўчую ячэйку пры Вашай школе і наладзьце сувязь з раённым бюро краязнаўства, якое зараз пачынае працаваць у Чачэвіцкім раёне. У раённыя бюро краязнаўства, якія трымаюць дзелавую сувяз з ЦБК, яно пасылае розную краязнаўчую літаратуру і кіраўнічы матар'ял. Па пытаньні організацыі краязнаўчай працы ў майскім нумары „Савецкай Краіны" зьмяшчаецца спэцыяльны артыкул „Па-баявому перабудаваць краязнаўчую працу".

2. Тав. Балабуткіну (Сіроцінскі р.) Вазьміце на сябе ініцыятыву організацыі краязнаўчай ячэйкі ў колгасе ці пры школе. Чытайце нашы „адказы і парады пачынаючым краязнаўцам". Популярызуйце сярод рабочых, колгасьнікаў, настаўніцтва Вашага раёну і вучнёўскай моладзі ідэю і задачы савецкага краязнаўства. Напішыце ў „Савецкую Краіну" аб правядзеньні другой бальшавіцкай сяўбы ў сваім с/с, організацыі працы ў

колгасах, а таксама аб становішчы і разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне.

3. *Аб высылцы краязнаўчай літаратуры ў раёны.* Програмна-мэтодычную краязнаўчую літаратуру ЦБК будзе пасылаць толькі краязнаўчым організацыям, якія організацыйна аформіліся, трымаюць з ім'сталую дзелавую сувязь і перайшлі да навукова-дасьлечай працы. Уся высылаемая ЦБК літаратура павінна быць запісана ў інвэнтар краязнаўчых організацый.

## Аб падліку краязнаўчай працы ў раёнах.

У чэрвені месяцы па ўсёй БССР будзе праведзены падлік краязнаўчай працы ва ўсіх раёнах па асобнай форме, якая будзе разаслана на месцы райбюро. У мэтах сваечасовага атрыманьня вычарпальных даных усе раённыя краязнаўчыя бюро павінны прыслаць у ЦБК не пазьней 20/VI самыя дакладныя весткі (паводле справаздачнай ведамасьці) для сваечасовай іх распрацоўкі.

## Усім краязнаўчым організацыям.

Усе пастановы і распараджэньні ЦБК, адказы паасобным краязнаўчым організацыям і паасобным краязнаўцам па прынцыповых пытаньнях і розны кіраўнічы матар'ял з гэтага часу будуць зьмяшчацца ў „Савецкай Краіне". Таму кожная краязнаўчая організацыя павінны выпісваць свой адзіны ў БССР краязнаўчы часопіс і сачыць па ім аб шляхох разгортваньня краязнаўчага руху ў БССР.

## Да ўсіх краязнаўчых організацый.

### Уключыцца ў працу па падрыхтоўцы і правядзеньні ўборачнай кампаніі.

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

У справе колектывізацыі сельскай гаспадаркі партыя дасягнула вялізарных посьпехаў. Пастанова ЦККП(б)Б аб колектывізацыі 30% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР на вясну гэтага году—выканана к 20 мая, і цэлы шэраг раёнаў пераходзіць да суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе гэтай колектывізацыі. Посьпехі другой бальшавіцкай вясны па колгаснаму будаўніцтву трэба замацаваць і разьвіць далейшыя тэмпы колектывізаці з тым, каб да канца гэтага году дасягнуць 45% колектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Сваечасовае і пасьпяховае правядзеньне ўборачнай кампаніі ў гэтым годзе павінна зьявіцца адным з рашаючых фактараў замацаваньня посьпехаў трэцяга рашаючага году пяцігодкі ў барацьбе з кулаком і опортуністамі розных колераў. Пастанова ЦК КП(б)Б аб разгортваньні масавай работы ў падрыхтоўцы і правядзеньні ўборачнай кампаніі 1931 г. дае разгорнутую програму правядзеньня гэтай найважнейшай гаспадарча-політычнай кампаніі.

Краязнаўчыя організацыі ў гэтай кампаніі павінны прыняць самы актыўны ўдзел, асабліва краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах, саўгасах, пры ШКМ. Гэты ўдзел павінен быць выяўлен у наступным:

1. Краязнаўчыя організацыі на падставе вывучэньня вопыту мінулага году ў організацыі працы па ўборцы павінны распрацаваць сумесна з праўленьнямі колгасаў і вытворчымі нарадамі конкрэтныя прапановы адносна найлепшай організацыі працы ў часе ўборкі палявых, і гародных культур, уборкі сенажацяй і г. д.

2. Вывучыць усе магчымасьці мэханізацыі і рацыяналізацыі працы асабліва па ўборцы тэхнічных культур (лён, каноплі), караньплодаў; магчымасьці ўжываньня і ўдасканаленьня розных сельска-гаспадарчых машын (бульбакапалкі, машыны па ўборцы лёну, сенажаткі і інш.).

3. Дасьледваць працу найлепшых колгасаў і саўгасаў, паасобных брыгад, вывучыць нормы выпрацоўкі, організацыю соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў часе ўборкі, організацыю грамадзкага харчаваньня, культурна-бытавога абслугоўваньня колгасьнікаў, дагляду за дзяцьмі ў пэрыод уборачнай кампаніі і распрацаваць шэраг конкрэтных прапаноў для забесьпячэньне пасьпяховага правядзеньня ўборкі ў саўгасах, колгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках раёну. Праца гэта павінна праводзіцца краязнаўчымі ячэйкамі, а вынікі працы павінны быць выкарыстаны пры складаньні плянаў уборкі.

4. Прыняць непасрэдны ўдзел у складаньні ўборачных плянаў, падрыхтаваўшы ўвесь неабходны матар'ял дасьледчага характару.

5. З прычыны асаблівай важнасьці вырашэньня кармовай проблемы для саўгасаў і колгасаў БССР вывучыць (на парктыцы лепшых савецкіх і колектыўных гаспадарак) і распрацаваць пытаньне адносна поўнага забясьпечаньня сваечасовага выкананьня плянаў сілосаваньня і ўборкі сенажацяй.

6. Вывучыць вопыт пабудовы і ажыцьцяўленьня адзінага суцэльнага пляну палявых, гародных і садоўніцкіх работ: веснавая сяўба, дагляд за культурамі, падрыхтоўка і правядзеньне ўборачнай кампаніі, сяўба азімых, зяблевае ворыва, абмалот, хлебазагатоўкі.

7. Популярызаваць праз друк (часопісы, газэты) найлепшыя вопыты і дасягненьні ў правядзеньні адзінага пляну палявых работ і паасобных яго частак і мэтоды ўздыму колгаснага прыліву ў сувязі з організацыйна-гаспадарчым замацаваньнем колгасаў.

Усю працу краязнаўчых організацый па правядзеньню ўборачнай кампаніі неабходна шчыльна ўвязаць з популярызацыяй задач савецкага краязнаўства сярод колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і організа-

цыяй новых і ўзмацненьнем існуючых краязнаўчых ячэек.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. П. Садоўскі.
Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

## Да ўсіх краязнаўчых арганізацый.

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

У трэці рашаючы год пяцігодкі Савецкая краіна павінна закончыць пабудову фундамэнту соцыялізму. Для гэтага патрэбны вялікія тэмпы працы. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шырока разгорнутыя сярод рабочых, колгасьнікаў і наогул сярод усіх працоўных мас нашага Саюзу забясьпечваюць выкананьне задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Краязнаўчая работа не павінна адставаць ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, яна таксама павінна быць пераведзена на рэйкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. ЦБК БССР заключыла з ЦБК РСФСР дагавор на соцспаборніцтва, які надрукаваны ў „Савецкай Краіне“ № 2 (4) і разам з адозвай разасланы ўсім раённым краязнаўчым арганізацыям. У дагаворы вызначаны конкрэтныя задачы, якія павінны быць у парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва выкананы ўсімі краязнаўчымі арганізацыямі. Аднак у большасьці арганізацый соцспаборніцтва і ўдарніцтва зусім не разгорнута і яўна недаацэньваецца.

ЦБК зварачаецца да ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР хутчэй правесьці ўсю сваю працу на рэйкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наладзіць выклікі праз „Савецкую краіну“, газэты і інш., інформаваць ЦБК аб разгортваньні соцспаборніцтва паміж паасобнымі арганізацыямі і асобнымі групамі, брыгадамі ў саміх арганізацыях. Дагавор на соцспаборніцтва трэба давесьці да ведама кожнага краеведа, бо толькі ўдзел усёй асноўнай краязнаўчай масы у соцспаборніцтве забясьпечыць 100% выкананьня дагавору Неадкладна разгарніце соцспаборніцтва ўдарніцтва ва ўсіх арганізацыях.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. П. Садоўскі.

Навуковы Сакратар В. Самцэвіч.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

# Зьмест



## На колгасных палёх.



## Рэцэнзіі і бібліографія.



## Хроніка.

Цана 50 кап.

1964 г.